ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 46 (2507)
ПЯТНІЦА
14
жніўня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Слесар-мантажнік Валянцін Шабанаў.



Будоўля набірае сілу.

## ЛУКОМЛЬСКАЯ ДРЭС. 1970

Сотні тысяч кілават энергіі дасць народнай гаспадарцы рэспублікі другі энергаблок славутай Лукомльскай ДРЭС, які вось-вось будзе запушчаны. Вялікае будаўніцтва на беразе велічнага беларускага возера. А мы, мастакі, працягваем свой летапіс гэтай будоўлі.

Разам з графікам В. Ткачуком нядаўна мы назіралі, ад'ехаўшыся на лодцы на сярэдзіну возера, як маляўніча выглядае панарама будоўлі. Мы прайшлі з мальбертам і эцюднікам усю сямікіламетровую трасу ўдоўж і ўпоперак. Мы пабывалі ў кабінах маставых кранаў, назіралі будоўлю ў розных ракурсах. Замалёўвалі панарамы, участкі будаўніцтва, асобныя сцэнкі. Але, зразумела, людзей малявалі асабліва натхнёна.

Цікава было гаварыць з маладымі будаўнікамі і са старымі нашымі знаёмымі, якіх мы малявалі ў мінулыя нашы прыезды на будоўлю.

Брыгадзір славутай брыгады арматуршчыкаў Баранаў, слесар-сантэхнік Баранкоў, парторг ДРЭС Кавалёў, важак тутэйшых камсамольцаў Астапенка і многія іншыя расказалі нам шмат цікавага, памаглі арганізаваць нашу мастакоўскую працу.

Зразумела, мы не адны аддаём сваё натхненне адлюстраванню будаўніцтва Лукомльскай ДРЭС. Тут пабывала шмат нашых калегаў з Мінска. А віцебскі мастак В. Ціханенка літаральна прыжыўся на будоўлі — ён распісаў тут фрэскамі вялікую сцяну сталовай галоўнага корпуса. Ёсць ужо тут і свае мастакі — так, В. Туманаў працуе пры дырэкцыі ДРЭС. Яго абавязак — афармленне нагляднай агітацыі. Так што, як бачыце, мастакі актыўна ўдзельнічаюць у мясцовым грамадскім жыцці.

Выяўленчы летапіс будоўлі працягваецца. Нашы папкі з накідамі, эскізамі, эцюдамі — перапоўнены. Можа ўдасца стварыць на аснове гэтых матэрыялаў сапраўды значныя творы аб нашым рабочым класе. Пра гэта мы марым.

А пакуль што прапаную ўвазе чытачоў «Літаратуры і мастацтва» малюнкі, зробленыя на будоўлі Лукомльскай ДРЭС зусім нядаўна — гэтым летам.

**Ул. САКАЛОЎ**, мастак,
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».



Студэнты на будоўлі.



Панарама Лукомльскай ДРЭС.



На дарогах Маладзечанскага раёна ў час жніва курсіруюць тры аўтамашыны. Гэта так званы «агітпоезд культуры», арганізаваны раённым камітэтам партыі. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці паказваюць тэматычную канцэртную праграму «Нас новыя клічуць рубяжы», прысвечаную XXIV з'езду КПСС, лектар-міжнароднік Міхаіл Закрутны выступае з дакладам. Бойка гандлююць кнігамі, прамысловымі і прадуктовымі таварамі аўталаўкі. «Агітпоезд культуры» пабываў ужо ў саўгасе імя Гастэлы, калгасах «Светлы шлях», імя Кірава і іншых.

На здымку—выступленне агітбрыгады ў калгасе імя Кірава. Сваё майстэрства паказвае артыст народнага цырка Васіль Семяновіч.

Фота М. МІНКОВІЧА.

# У ПАМЯЦІ НАРОДНАЙ

Нядаўна на паліцах кнігарань рэспублікі з'явілася кніжка Антона Бялевіча «Мінай Шмыроў». Гэта першая кніга з серыі «Народныя героі», якую выпусціла ў свет выдавецтва «Беларусь».

Нядаўна ж у выдавецтве пачаўся выпуск серыі кніжак «Гарады Беларусі».

У сувязі з гэтым карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» сустрэўся з дырэктарам выдавецтва «Беларусь» З. П. Матузавым. Вось што ён расказаў:

— Аб патрыятычных справах нашага народа, аб подзвігах яго герояў напісана шмат гістарычнай і мемуарнай літаратуры. Але часам чытач не адразу можа выбраць патрэбную кнігу. Па-за яго ўвагай застаецца шмат цікавых выданняў. Менавіта таму нарадзілася думка аб стварэнні серыі кніг «Народныя героі».

Біяграфічны нарыс пра Міная Піліпавіча Шмырова, які напісаў Антон Бялевіч, — першая ластаўка новага пачыну. Чытачы, відаць, паспелі пазнаёміцца з ёй. Зараз мы рыхтуем да друку другую кнігу серыі — аб верным сыне беларускага народа Кірылу Пракопавічу Арлоўскім. Яе аўтар Валянцін Панамароў.

Рыхтуецца новае выданне ў гэтай серыі і кнігі журналіста Міхася Тараткевіча пра героя грамадзянскай вайны Уладзіміра Азіна.

Плануецца выпуск кніг аб В. Казлове, К. Заслонаве, В. Харужай, В. Каржу і іншых.

Некалькі слоў аб серыі кніг «Гарады Беларусі», якая выпускаецца ў нашым выдавецтве. Многія чытачы змаглі ўжо пазнаёміцца з першай кніжкай серыі — «Слуцк». Будуць выдадзены кнігі пра Бабруйск, Маладзечна, Барысаў, Мазыр, Баранавічы. У кожнай з іх чытач знойдзе цікавыя гісторыка - эканамічныя звесткі, пазнаёміцца з архітэктурай, культурай і бытам гэтых гарадоў.

### ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Мальцінскага Хаіма Ізраілевіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

□

*За заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва і ў сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў народнага артыста СССР, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага народнага хору Беларускай ССР Цітовіча Генадзя Іванавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.*

# У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...АДБЫЛАСЯ

ў Доме работнікаў мастацтваў у Мінску выстаўка «Культура і быт Азіі», якую арганізавалі Міністэрства культуры Беларусі і Камісія рэспублікі па справах ЮНЕСКО.

Плакаты, фотастэнды, творы мастацкай і навуковай літаратуры, рэпрадукцыі з твораў жывапісу, народнай творчасці расказвалі наведвальнікам пра культуру і быт Японіі, Індыі, Манголіі, Ірана, Афганістана, Камбоджы, Лаоса, Сінгапура, Непала, В'етнама, Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, краін Малой Азіі. Сярод экспанатаў выстаўкі прадстаўлены пераклады пісьменнікаў азіяцкіх краін на беларускую мову.

На фотастэндзе «В'етнам, які змагаецца» кожны здымак — гэта дакумент абвінавачвання амерыканскага імперыялізму.

Шырокую экспазіцыю прадставіла на выстаўку Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна. Гэта дыяпазітарная бібліятэка ЮНЕСКО са стэндамі «Культура сучаснай Індыі», «Жывапіс Мангольскай Народнай Рэспублікі», «Мастацтва Афганістана».

### ...ЗАПРОШАНЫ

прыняць удзел і выступіць з паведамленнем на Міжнародным семінары архітэктараў у Маскве галоўны архітэктар праектаў інстытута «Белдзяржпраект» С. Філімонаў. Сімпозіум у Маскве прысвечаны спартыўным збудаванням шматпрофільнага выкарыстання. С. Філімонаў — аўтар праекта Мінскага Палаца спорту — раскажа пра новыя працы беларускіх архітэктараў, пра перспектывы спартыўнага будаўніцтва ў рэспубліцы.

Саюз архітэктараў Беларусі накіраваў на выстаўку, якая адкрыецца ў Маскве да Міжнароднага семінару, фотаздымкі Палаца спорту і плавальнага басейна ў Мінску (аўтар праекта В. Ладыгіна, інжынер І. Зібіцкер).

### ...ЗАКОНЧЫЎСЯ

ў Кішынёве другі Усесаюзны фестываль самадзейных ансамбляў народнага танца. Дзесяць дзён на сцэне «Зялёнага тэатра» выступалі танцоры саюзных рэспублік і госці з Манголіі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Югаславіі. Беларускае самадзейнае мастацтва на фестывалі было прадстаўлена гродзенскім ансамблем «Нёман». Гродзенцы паказалі на конкурсе два танцы — «Гродзенскія вячоркі» і «Лявоніху» і заваявалі дыплом фестывалю. А потым танцоры з «Нёмана» адправіліся ў падарожжа па гарадах і сёлах Малдавіі.

У гэты ж час на фестывалі ў Кішынёве адбылася канферэнцыя па пытаннях народнай харэаграфіі. Навуковыя работнікі, балетмайстры, артысты абмяркоўвалі праблемы развіцця і ўдасканалення народнага танца, яго традыцыйнай формы. У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел беларускія харэографы—балетмайстар Рэспубліканскага Дома народнай творчасці С. Грабеншчыкаў і метадыст па харэаграфіі Я. Бандарэнка.

### ...ЭКСПАНУЕЦЦА

ў выставачнай зале Саюза мастакоў БССР выстаўка жывапісу з фонду Саюза мастакоў рэспублікі. На выстаўцы прадстаўлены творы народных мастакоў БССР І. Ахрэмчыка і В. Цвірко, мастакоў А. Мазалёва, І. Давідовіча, І. Басава, М. Залознага і іншых.

У першы дзень выстаўку наведалі тысячы мінчан і гасцей сталіцы. У кнізе водгукаў і пажаданняў з'явіліся дзесяткі запісаў, у якіх аматары жывапісу выказваюць падзяку беларускім мастакам.

«Дзякуй за вялікае мастацтва», — такі запіс пакінулі ў кнізе артысты Омскага тэатра музычнай камедыі. А рабочым Мінскага падшыпнікавага завода В. Вішаткевічу і М. Куксу спадабаліся новыя работы мастака А. Мазалёва.

У гэтыя ж дні ў выставачнай зале Гомельскага абласнога аддзялення Саюза мастакоў БССР адкрыта рэспубліканская перасоўная выстаўка, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. На выстаўцы экспануюцца палотны заслужанага дзеяча мастацтваў БССР А. Шыбнёва, мастакоў Ф. Дарашэвіча, А. Малішэўскага, В. Ярмоленкі, А. Варламава, М. Лісоўскага і іншых.

### ...АДКРЫЛАСЯ

ў Барысаве новая цэнтральная гарадская бібліятэка — чатырохпавярховы будынак са шкла і бетону.



Артысты Омскага тэатра музычнай камедыі наведалі Мінскі аўтамабільны завод. Пасля знаёмства з прадпрыемствам яны паказалі рабочым сцэны са сваіх спектакляў.

На здымку — артысты на галоўным канвееры завода.

Фота Ул. КРУКА.

СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# «...І ЗАКАНЧВАЕЦЦА ГАРДЭРОБАМ!»

**У тэатры і ў канцэртнай зале кожны з нас трымаецца па-свойму. Спачатку мы яшчэ захоўваем паважна святочны выгляд, а потым, калі нас захопіць або, наадварот, пакіне абыякавым тое, што адбываецца на сцэне, у нас праяўляюцца самыя непасрэдныя пачуцці. Хтосьці не стрымлівае гучнага смеху, нехта ж рэагуе ўнутрана, а на твары толькі водбліск яго настрою; маладзейшыя адразу ж пачынаюць абмеркаванне («Здорава дае!», «І няма нічога смешнага...»), больш сталыя назапашваюць уражанні і дзеляцца імі ў антракце. Ствараецца тая атмасфера, калі выканаўцы на сцэне адчуваюць пульс аўдыторыі і чэрпаюць у ёй нешта патрэбнае для творчасці. І зала робіцца адзіным арганізмам, які можна назваць так—«сённяшняя публіка».**

**Якая яна бывае, публіка! Спытайце артыстаў і музыкантаў, і адказы будуць розныя пасля розных спектакляў і канцэртаў. Бывае, яны гавораць катэгарычна: «Сёння быў таленавіты глядач!» Гэта азначае, што зала актыўна ўспрымала паказанае ёй са сцэны, разумела нюансы і агульны пафас, узнагароджвала апладысментамі вартыя таго мясціны праграмы або вартых таго акцёраў. Гэта—свята.**

**На жаль, свята бывае не заўсёды. І вінаватая часам бывае публіка. Вам піяніст прапануе Шапэна ў арыгінальнай трактоўцы, а вы смокчаце марожанае. Для вас іграюць драму сучасных Рамеа і Джульеты, а ваш сусед частуе вас шакаладным «Белым мядзведзем». Наперадзе сядзіць чалавек, якому ў самы напружаны момант спектакля спатрэбілася праграмка—ён яе («Прабачце, не здагадаўся!..») не купіў.**

**Так разбураецца чароўная ілюзія свята, так нас «выключаюць» з правіл гульні. І тады не спяшайцеся з прысудам ў адрас артыстаў і рэжысуры. Прызнайцеся, што і вы самі разам са сваім суседам таксама вінаватыя ў нечым.**

**Чаму, напрыклад, калі за пульт устаў любімы дырыжор або на сцэну выйшла актрыса, якую і вы называеце «кумірам мінчан», вы не пляскалі ў далоні! Кажуць, тэатр пачынаецца з гардэроба. Правільна! Кожны наступны наш крок або набліжае нас да свята сустрэчы з мастацтвам, або наадварот. Білецёр прапануе вам бінокль і праграмку, але не параіць вам даесці піражнае ў буфеце: глядач—наш госць, а гасцям не нагадваюць пра нормы паводзін.**

**А бывае так: частка гледачоў дружна апладзіруе салісту, патрабуючы нумар на «біс», а ў гэты момант праз усю залу віхурай ляцяць паважныя мужы і спрытныя юнакі, каб першымі «схапіць» у гардэробе балонню або футра сваёй дамы.**

**А як уручаюцца кветкі артыстам! Хто-небудзь з білецёраў выконвае па нашым даручэнні гэтую місію, бо зрабіць гэта самі мы лічым ніжэй свайго гонару. І адны і тыя ж жанчыны ва уніформе капельдзінераў дзяжурна ўзнімаюцца на сцэну і з ветлівай усмешкай перадаюць салісту букет, хоць якіх дзесяць гадоў назад такі ўчынак мінчанін лічыў сваёй прэрагатывай.**

**Вядома, кантынгент залы складаецца часцей за ўсё стыхійна (акрамя так званых калектыўных праглядаў). Машыніст з Серабранкі і шафёр з Зялёнага Луга, акадэмік і вучань дзевятага класа, камандзіровачны і сталы мінчанін на адзін вечар робяцца суседзямі па тэатральных крэслах, і ад іх калектыўнага настрою залежыць нешта ў мастацтве: гучанне канцэрта і «нерв» спектакля, уздым саліста і напал драматызму ў маналогу акцёра... Пачынаюць дзейнічаць індывідуальныя здольнасці ўспрымаць хараство, такт, густ і культура паводзін. Нараджаецца непаўторны, на адзін толькі вечар прызначаны сплаў, з'яўляецца якасна адметная і заўсёды новая еднасць—глядзельная зала, сённяшняя публіка. Якой яна будзе і наогул ці будзе тая еднасць! З самага пачатку на сцэну пачынае ўздзейнічаць і зала. Яе адносіны да прадстаўлення або канцэрта — важны элемент таго, з чаго складаецца з'ява, што завецца «тэатрам».**

**Быць актыўна зацікаўленым гледачом, умець успрымаць мастацтва так, каб гэта не перашкаджала, а садзейнічала стварэнню агульнай атмасферы залы, быць, нарэшце, шчыра ўдзячным за тую эстэтычную асалоду, якую табе падарылі артысты,—гэта таксама мастацтва. Зразумела, маюцца на ўвазе выдатныя выступленні і выкананне выдатных твораў, якія радуюць нас і абуджаюць у нас змястоўны роздум аб жыцці і добры валявы імпульс. Дык будзем жа ўдзячныя за гэта! Не, ніхто не заклікае да таго, каб і ў нас з'явіліся падстаўныя асобы-клакеры, каб яны штучна распалялі «энтузіязм» публікі, як гэта наладжваюць антрэпрэнёры-гандляры мастацтвам і яго эрзацам. Такое — не для нас! Толькі, адчуўшы, што пабывалі ў свеце сапраўднага мастацтва, давайце паапладзіруем, няхай артысты, рэжысёры, дырыжоры, салісты сэрцам успрымуць наша дзякуй! А тады пойдзем у гардэроб і будзем гучна спрачацца і дзяліцца ўражаннямі.. Ну, няхай гэта забярэ якіх 20 мінут часу, затое ў душы застанецца адчуванне непаўторнага хараства, у стварэнні якога і мы былі не пасіўнымі «наглядальнікамі», а непасрэднымі ўдзельнікамі.**

**ЧАС ТРЭЦЯЙ ВЁСКІ. ● «БУДЗЬЦЕ ЗНАЁМЫ — ШЧАРБАКОЎ». ● АЎТОБУС «МІНСК»—КАЙШОЎКА.**

Нядаўна я вярнуўся з калгаса «Зара» Карэліцкага раёна, дзе прабыў амаль паўтара тыдні... Была вёска дзяцінства — перадваенная, ваенная, пасляваенная. Потым была вёска, якую ведаў па камандзіроўках раённых газет, у якую ездзіў і хадзіў пешшу «па матэрыял» — вёска другой палове пяцідзесятых — пачатку шасцідзесятых гадоў. І вось, я адчуў, прыйшоў час маёй трэцяй вёскі. Раптам зноў пацягнула да яе, пацягнула моцна, неадольна. Нешта накшталт прыступу настальгіі. «Трэба ўсё кідаць і ехаць», — рашыў я. Але я не ведаў, як ажыццявіць сваё рашэнне. «Добра тым пісьменнікам, — думаў я, — у якіх ёсць сябры сярод старшынь калгасаў. Выбраў час, пазваніў каму з іх: еду, чуеш, — і ўсё. А вось калі такіх сяброў няма, як тады?»

І тут мне пашанцавала. Аднойчы, калі я сядзеў у Саюзе пісьменнікаў над чарговым літкансультанцкім адказам, адчыніліся дзверы, і хутка ўвайшоў незнаёмы мужчына — энергічны, падцягнуты, з кнігай у руцэ. Спытаўся, ці ёсць Янка Брыль. Я сказаў, што Іван Антонавіч скора будзе і прапанаваў пачакаць. Незнаёмы сеў і тут жа, не трацячы часу, разгарнуў кнігу і пачаў чытаць, робячы час ад часу энергічныя падкрэсліванні. Я ўсё пазіраў у яго бок і ў душы пазайздросціў такому ўменню актыўна чытаць у любой абстаноўцы. Прыйшоў Янка Брыль і пазнаёміў нас:

— Пётр Майсеевіч Шчарбакоў — старшыня калгаса «Зара». Я табе пра яго расказваў...

Мы пайшлі разам абедаць. Пётр Майсеевіч расказаў нам аб мэце сваёй паездкі ў Маскву (яго ў ліку перадавых старшынь краіны выклікалі, каб параіцца наконт павышэння закупачных цэн), потым пачаў цікавіцца справамі літаратурнымі. Я слухаў, прыглядваўся да свайго новага знаёмага і ў думках параўноўваў з тымі старшынямі, якіх мне прыходзілася сустракаць раней у час працы ў раённых газетах. У мяне з імі былі даволі складаныя адносіны. Па-першае, яны не вельмі лічыліся з намі, раённымі газетчыкамі, глядзелі на нас звысака, а то і проста ігнаравалі нас. (Прынамсі, мне так здавалася). І я, асабліва спачатку, пабойваўся іх — грозных, уладных, заклапочаных, у доўгіх, па пяты, кажухах і ў паўваеннага крою фрэнчах і галіфэ. Па-другое, я стараўся зразумець іх і не хацеў прыпадабняцца розным прадстаўнікам і ўпаўнаважаным, якія лезлі са сваімі роспытамі, указаннямі і парадамі, а практычна нічым не маглі памагчы і нічога не маглі зрабіць. Не хацелася, словам, блытацца пад нагамі. І я, помню, толькі ў крайнім выпадку звяртаўся да старшыні з просьбай даць інтэрв'ю або згоду напісаць за яго выступленне. Звычайна ж меў справу з «сярэднім» звяном — з брыгадзірамі, загадчыкамі фермаў, звеннявымі. З імі ў мяне выходзіла лепш.

З таго часу мінула каля дзесяці гадоў, сплыло нямала вады. І вось перада мной сённяшні, у нечым істотным непадобны на тых, старшыня. Гутарылі мы з ім неафіцыйна, шчыра, у натуральнай, што называецца, абстаноўцы, і я зразумеў: трапілася добрая магчымасць паехаць у вёску. Тут жа зайшла пра гэта размова.

— Давай, прыязджай, — сказаў Пётр Майсеевіч.

Я разлічваў паехаць у маі, каб паглядзець вёску ў дні сяўбы. Але не выйшла. Паехаў пазней, у самы разгар лета. Калі амаль сходзілася зара з зарою. Калі на сяле не запальвалі святла — кláліся спаць і ўставалі разам з сонцам. Калі ва-ўсю цвіла шыпшына (і пад акном у старшыні, і на абочынах дарог я нідзе не бачыў столькі шыпшыны, як тут, — ружовай, белай, жоўтай...) і толькі пачынаў зацвітаць лён. Калі ўбіралі канюшыну, чырвоную і белую, і збіраліся касіць. Калі ластаўкі яшчэ шчыравалі над сваімі гнёздамі пад карнізам праўлення калгаса, носячы корм, а шпакі, паспеўшы ўжо вывесці сваіх птушанят, пачыналі вылятаць разам з імі. Калі палолі буракі, абганялі бульбу, закладвалі сенаж, рамантавалі да жніва камбайны, нарыхтоўвалі на зіму торф (тарфý, як тут гавораць), турбаваліся пра сена для рагулі. (Праўда, Шчарбак, так называюць тут Шчарбакова, не раз гаварыў: «Ніхто яшчэ з-за сена карову ў калгасе не прадаў». Але ж...)...

Ехаў я ў калгас аўтобусам... «Мінск — Кайшоўка». Вы можаце сказаць, што не чулі пра такі маршрут, і спытацца, што гэта такая за Кайшоўка, куды пралягла прамая аўтобусная лінія. І вы будзеце мець рацыю. Раней такога аўтобуса не было. А Кайшоўка — вёска, цэнтральная сядзіба калгаса «Зара», і аўтобус з Мінска пайшоў туды, дзякуючы... Але я лепш аддам слова Пятру Майсеевічу Шчарбакову. Аднойчы, калі мы ездзілі па калгасе і завялі размову пра дарогі, ён пачаў расказваць:

— Дарогі ў нас новыя, сам калгас будаваў. Праўда, уляцелі ў капеечку, вось гэты ўчастак каштаваў нам дваццаць сем тысяч. Але затое... Раней я вазіў заўсёды з сабой гумавыя боты. Яны вунь і цяпер у машыне... — Я аглядваюся: так, сапраўды ляжаць. — Але цяпер хіба што для рыбалкі толькі... Калгас павінен мець добрыя дарогі. Сказана ж: дарога з фермы на рынак павінна быць самая кароткая. Дарэчы, ты не ведаеш, як пайшоў да нас аўтобус, якім ты ехаў з Мінска? Не? Дык вось, было гэта так. Адбудавалі мы дарогі. Ёсць добры выхад на шашу. Чаму б не мець аўтобус «Мінск — Кайшоўка?» Пішу і ў абком, і ў Міністэрства шасейных дарог. Нарэшце, прыязджае таварыш з міністэрства. Адразу напаў на мяне: «Што вы за чалавек! Так вам ужо патрэбен аўтобус». Я яму даказваю, я паказваю яму калгас. Нічога, гляджу, не памагае.

Едзем да мяне, абедаем. Я ўсё хілю туды ж, наконт аўтобуса... Угаварыў. Праз нейкі час паведамляюць: ёсць дазвол на аўтобусны маршрут Мінск — Кайшоўка. У нас быў якраз агульны сход, і калі я аб'явіў калгаснікам — колькі радасці было. Ну, а потым было ўжо лягчэй дабіцца, каб пусцілі да нас аўтобус з Карэліч. Вы што, кажу, не ведаеце, што да нас з Мінска прамы ходзіць? Ім тут, канечне, і крыць нечым.

Зазначу, што хоць гісторыя з аўтобусам у нейкім сэнсе і выключная (не кожны старшыня зможа дабіцца таго, каб у яго калгас хадзіў сталічны аўтобус), але ў той жа час яна і тыповая. Шмат што прыходзіцца сёння старшыні вось так, з такімі намаганнямі «прабіваць».

**ШЧАРБАКОЎ «ЗАВОДЗІЦЬ СПРУЖЫНУ». ● ТАК ЗВАНЫ «НАРАД». ● «НЕ СМЕЙЦЕ КРЫЎДЗІЦЬ ЗОСЮ!» ● ПРА МАТОР ! «ТАРМАЗЫ».**

Аўтобус прыйшоў у Кайшоўку роўна па раскладзе, што я расцаніў як добрую прыкмету.

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# НЕ ГЛЯДЗІ ПОЛЕ З КРАЮ...

— Значыць, будзеш маім «ценем»? — спытаўся Пётр Майсеевіч.

Мы так і дамовіліся: старшыня будзе працаваць як звычайна, не звяртаючы на мяне ўвагі, а я буду, як цень, суправаджаць яго, добрасумленна ісці за ім услед.

Прыблізна так яно і было. Шчарбакоў заводзіў свой «газік», я садзіўся побач, і мы імчалі ў дарогу. Шчарбакоў з'яўляўся ранічкай у праўленне праводзіць «нарад», і я ўжо быў там, садзіўся на сваё пастаяннае месца ў кутку. Шчарбакоў ездзіў за межы калгаса — у Карэлічы, на Свіцязь, да сваіх калег — суседзяў, — і я быў побач з ім. Мы шмат аб чым гаварылі. І кожны вечар...

— Ну што, правядзём тактычны разбор? — пытаўся Шчарбакоў у мяне. — Давай-ка правядзём...

І мы «разбіралі» ўсё, што назапашвалася за доўгі летні дзень. Ён выказваў свае меркаванні, даваў характарыстыкі, рабіў ацэнкі, — і я пераконваўся, што ён сапраўды — тактык, і што без гэтай якасці наўрад ці можна паспяхова кіраваць такой складанай, шматгаліновай гаспадаркай, як сельгасарцель. Формула кіравання, якую прапаноўвае сёння акадэмік Трапезнікаў («Ведае —можа — хоча — паспявае») мае, безумоўна, самае непасрэднае дачыненне да працы старшыні калгаса.

Зрэшты, у Шчарбакова з яго дакладнай, лаканічнай і ў той жа час вобразнай мовай, ёсць і свае формулы і метафары. Адна з іх — «заводзіць спружыну». Сэнс яе Пётр Майсеевіч раскрыў мне назаўтра пасля майго прыезду.

— У маёй рабоце галоўнае — гэта надзейна завесці спружыну, — гаварыў ён раніцай пасля нарада». — Што гэта значыць? Гэта значыць. як мага раней унікнуць ва ўсе справы, разабрацца ў іх, параіцца, распарадзіцца, прыняць рашэнні. Калі спружына заведзена — можна спакойна перавесці дыханне і нават гадзіну-другую адпачыць дома.

Я меў магчымасць пераканацца ў трапнасці і рэальнасці «спружыннай» метафары. Вытворчы механізм, вядома, не гадзіннік, тут механічным рэгуляваннем мэты не дасягнеш, тут могуць быць і нечаканасці, і зрывы, і сюрпрызы надвор'я і г. д. Але я бачыў Шчарбакова ў першыя ранішнія гадзіны, бачыў яго, што называецца, у справе, і ўсё больш разумеў, як многа залежыць ад распарадчасці, кампетэнтнасці, дзелавітасці старшыні, ад яго ўмення «завесці спружыну».

Для нагляднасці падаю амаль стэнаграфічны запіс аднаго «нарада» (бяру гэтае слова ў двукоссе, бо яно не зусім дакладна вызначае тую ранішнюю «лятучку» ці нараду, што праводзіць штодзённа старшыня):

— У каго колькі скошана?

Брыгадзіры хутка адказваюць, старшыня падлічвае і каменціруе. Адламу гаворыць:

— А ты што? Сядзіш і семачкі лузгаеш?

— Хай прышлюць прычапную касілку.

— А мне патрэбен трактар. Прышліце Януша.

— Януша пасылаем на бульбу. Гусенічныя ж не працавалі вось чаму. Адзін трактарыст збіраецца ў армію, другі пасвіў, трэці рамантаваў...

— На першы ўчастак прышлём «вярнідуба», —ўстаўляе слова галоўны інжынер Вячаслаў Будзейка.

— Значыць так: спачатку сеяныя травы, а потым — на луг.

— А як быць з насеннымі ўчасткамі?

— На насенне не менш як семдзесят гектараў канюшыны. Дзе ў нас насеннікі?

— У садзе чырвоная, на другім участку таксама. У Лазоўцы чатыры гектары.

— Белай?

У размову ўступае намеснік старшыні Іван Лазарчык:

— Хто апрацоўваў бульбу ў «Двары»? Трэба паслаць камісію, ацаніць і пакараць. Вельмі дрэнная работа.

Аграном Павел Сачко:

— Я бачыў, я прагнаў трактарыста.

— А чаму акт не склалі?

— Выклікалі эканаміста Раю. Але трактарысты аспрэчваюць...

— Разбярыцеся з гэтым, а цяпер пойдзем далей. Віця, на першае чысло мы павінны былі адчытацца за рамонт камбайнаў. Колькі адрамантавана?

— Тры.

— А ўсяго колькі павінна быць? Сем?

— Не, шэсць.

Звоніць тэлефон, на тым канцы провада загадчыца свінафермы Марыя Хваль.

— Ну як, Марыя, парасяты? Ачаг трэба ліквідаваць неадкладна. І не забудзьце прапалоць кветкі каля кормацэха.

— Дзе будзем ставіць сціpты? Відаць, на старым месцы? І ў Альшанах, і ў Дарагаве.

— Пётр Майсеевіч, у мяне лён самалётчыкі спалілі, гектары тры. Сядзіць мохам. Трэба заакціраваць, а то мне залічаць.

— А што здарылася?

— Ды звенявая вінавата, паставіла, відаць, сігнальшчыкам пацана, а сама пайшла на буракі.

— Што гэта ў цябе робіцца, Павел Фаміч?— старшыня звяртаецца да агранома. У іх адносіны далёка не ідылічныя, бо аграном «пакідае жадаць лепшага». — Трэба выпальваць пустазелле, а не пасевы, а ў цябе наадварот. Дарэчы, што пасеялі па загінуўшых бураках, на шостым участку?

— Кукурузу.

— Дзе сеем травы — апошнюю чаргу зялёнага канвеера?

— На першым участку.

— Якія суадносіны траў?

— Віка, авёс, або лубін і гарох.

— Насення хопіць?

— Хопіць, на гектараў сто дваццаць хопіць.

— Толькі поўную норму!

— Пётр Майсеевіч, трэба каб вы паглядзелі кароўнік.

— Потым паглядзім... Скажыце лепш, чаму не возім торфакрошку? І дамовіліся, і самазвал ёсць, а не возім.

Гаворыць загадчык камунгаса Сяргей Януш (ёсць, аказваецца, і такая пасада ў калгасе):

— Я ўчора выпісаў лесу, трэба сёння падкінуць.

— Колькі табе трэба машын? Дзве? Бяры. І вось яшчэ што: няма ў цябе парадку на пілараме. І людзі гавораць, і сам бачыў.

— Дык хіба з ім будзе парадак?

— Будзем разбірацца, пашукай другога чалавека... Будзейка, ты куды едзеш?

— Павязём у Карэлічы рухавікі.

— Завязіце заадно і малако. Сёння нявыкрутка з машынамі... (У адказ на тэлефонны званок). Люба, бяры адно звяно на сена. А наконт машын не складваецца, прыдумаем што-небудзь заўтра.

— Як жа быць з трактарамі?

— Наконт трактараў давайце дамовімся так: ты адказваеш за гусенічныя, а вось ты — за калёсныя. Дамовіліся?

— Ці можна ўжо да вас, таварыш старшыня...

— Заходзь, бабка... З якога вы года?

— Не ведаю. Прыйшла да вас наконт пенсіі...

Гэта пачынаецца ўжо другая, невытворчая частка раніцы старшыні, менш напружаная. Адзін за другім ідуць калгаснікі, звяртаюцца па сваіх асабістых справах:

— Мне б машыну на заўтра...

— Пётр Майсеевіч, можа, выпісалі б дошак?

— Будуюся, старшынька, а няма цэменту...

— Буду ў вас, таварыш Шчарбак, прасіць цялятка...

— Вярнулася, таварыш старшыня, ад дачкі. Можа, соткі далі б мне зноў?..

Вытворчая «лятучка» — з яе шматгалоссем, з яе напружаннем, з яе тэлефоннымі званкамі, —давала мне ўяўленне аб рытме і характары работы старшыні, аб вытворчым пульсе гаспадаркі. Прыход калгаснікаў па іх асабістых справах даваў наглядна знаць аб тым, што ў старшыні ёсць яшчэ адзін важны абавязак — задавальненне асабіста-гаспадарчых патрэб калгаснікаў. Формула кіравання Трапезнікава атрымоўвала на маіх вачах істотнае дапаўненне: «...умее спалучыць грамадскія інтарэсы з асабістымі, зацікавіць калгасніка».

Прызнаюся, мне было прыемна бачыць, як Шчарбак рэагуе на просьбы калгаснікаў, з увагай, хутка, без

# ЗЯМЛЯ, ЛЮДЗІ, КІНАЭКРАН

**«Па той бок «безыменкі»—пад такім загалоўкам 12 чэрвеня г. г. у нашай газеце быў змешчаны артыкул, які ўзнімаў некаторыя праблемы паказу навукова-папулярных і дакументальных фільмаў. Намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў БССР П. Жукоўскі паведаміў рэдакцыі, што пытанні кінапракату ў артыкуле ўзняты правільна. У камітэце намечана правесці шэраг мерапрыемстваў, мэта якіх палепшыць кінаабслугоўванне насельніцтва. Адно з такіх мерапрыемстваў адбылося днямі ў Карэлічах—семінар работнікаў кінапракату Гродзенскай вобласці. Наш карэспандэнт прыняў удзел у рабоце семінара і падрыхтаваў гэты рэпартаж.**

*Семінар — як дыялог, абмен думкамі, вопытам работы. Так прайшла ў Карэлічах гэта сустрэча кінамеханікаў, дырэктараў галаўных раённых кінатэатраў вобласці. Аб чым жа гаварылі, спрачаліся? Што абмяркоўвалі? Як разумеюць работнікі кінапракату свае сённяшнія задачы і дзе, у якім напрамку, шукаюць іх вырашэнне?.. Вось кароткі запіс гэтай размовы.*

**В. НАГОРНЫ,**
дырэктар Карэліцкага галаўнога кінатэатра:

— Для пачатку — лічбы, бо ў іх — наша работа. У раёне летась было 745 тысяч кінанаведванняў, па 18 на чалавека. Далі 3.780 сеансаў сельскагаспадарчых фільмаў—па 100 на кінамеханіка, і 1.071—дакументальных. Лічбы радасныя, адны з лепшых у рэспубліцы. Але што за імі? Як ішлі мы да іх? Па-першае, ішлі праз тэхнічнае перааснашчэнне базы. Па-другое, старанна працавалі з людзьмі: кінамеханікамі, іх памочнікамі, шафёрамі, усімі, ад каго залежыць якасны паказ фільма. Сёння ў раёне 65 стацыянараў, з іх 53 — шырокаэкранных. Засталося ўсяго чатыры кінаперасоўкі. А пяць гадоў назад было 37 стацыянараў, пяць шырокіх экранаў, 14 перасовак. Лепшая тэхніка, апаратура далі лепшую якасць кінапаказу. Адразу вырасла колькасць наведвальнікаў. Возьмем Турэцкі стацыянар. Кожны чалавек там глядзіць кіно больш чым па трыццаць разоў за год. І тэлебачанне, аказваецца, не шкодзіць. Хоць многія прывыклі на яго спасылацца. Нядаўна закончылі будаўніцтва цэлага комплексу з рамонтнымі майстэрнямі, залай для тэхвучобы, гаражамі...

**ПЫТАННЕ З МЕСЦА:**

— Дзе ўзялі падрадчыка, сродкі?

**НАГОРНЫ:**

— Будавалі сваімі сіламі. Такое рашэнне вынеслі ўсім калектывам на сходзе. Знайшліся свае «архітэктары», «праекціроўшчыкі», муляры, цесляры. Працавалі па чарзе усе, з раніцы да цёмнага. Людзей арганізавана прывозілі і адвозілі дамоў. Пабудавалі, не сарваўшы ніводнага сеансу. Зрэшты, на прыкладзе гэтага энтузіязму, сыходзяцца абедзьве праблемы: тэхнічны прагрэс і работа з людзьмі. Не маючы дружнага працавітага калектыву, такой работы мы не пацягнулі б.

**ПЫТАННЕ З МЕСЦА:**

— Канкрэтна, як з людзьмі працуеце?

**НАГОРНЫ:**

— Вось з вамі сядзіць кінамеханік Тупальскага сельскага стацыянара Валодзя Федарака. Ён яшчэ выступіць. А пакуль што я хачу расказаць вам...

*Напэўна, самы малады з карэліцкіх кінамеханікаў, Валодзя сядзіць з лёгкай усмешкай на заўсёды вясёлым твары, слухаючы, разам з усімі, тое, што перажыў.*

*Не шмат папрацаваўшы на Райцаўскім стацыянары, ён ішоў у армію. Ішоў не думаючы, дзе будзе працаваць, калі адслужыць, вернецца. Развітваўся з маці, з вёскаю, калі да хаты падкацілі аўтамашыны. Чатырнаццаць лепшых кінамеханікаў прыехалі праводзіць Валодзю ў армію. З падарункамі, духавым аркестрам, сяброўскімі парадамі. Увага кранула...*

*Дэмабілізаваўшыся, вярнуўся ў вёску. Зноў сустрэлі сябры-кінамеханікі. Сам дырэктар галаўнога кінатэатра прыехаў у вёску, каб дапамагчы Уладзіміру выбраць новы пляц пад новы дом. Дапамаглі будавацца, стаць, як кажуць, на ногі. Дзе ж тут пабяжыш шукаць лепшую работу?!.*

**І. ГЛАДКІ,**
кінамеханік:

— Галоўнае ў рабоце кінамеханіка — зацікавіць гледача фільмам. Тут важна, каб людзі ведалі наперад графік фільмаў, якія пройдуць на экране, калі будуць ісці. Я, напрыклад, вывешваю графік на цэлы месяц.

**ПЫТАННЕ З МЕСЦА:**

— Хіба ён ніколі не зрываецца?

**ГЛАДКІ:**

— У нас не зрываецца, бо дакладна працуе транспарт. Ніводзін фільм нідзе не затрымаецца, на стацыянар машына з фільмамі прыходзіць у строга вызначаны час. Кінамеханік сустрэне яе, праводзіць. Гэта— правіла.

**Н. СМАЛЯНКА,**
кінамеханік:

— Праца ў нас не лёгкая. Але кадры ў раёне добрыя, працуюць людзі па дзесяць, дваццаць гадоў. Бо ёсць клопат аб іх. Тут Нагорны расказваў пра Федараку. А гэта не выключэнне. У нас кожнага чалавека, калі ён не гультай, у армію праводзяць з аркестрам, падарункамі, па-сяброўску. Калектыў ніколі не забудзе павіншаваць свайго таварыша з днём нараджэння, ведае, каму патрэбны дровы, торф, сена. Усё гэта прывязвае да калектыву. І спаборніцтвы праводзяцца не фармальна. Для пераможцаў ёсць Дошка гонару, Кніга гонару, вымпелы, прэміі.

**У. ФЕДАРАКА:**

— А я — пра рэкламу дабаўлю. На дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы яе зусім няма. Знаходзім выйсце. Бяру, напрыклад, мікрафон і расказваю пра фільм перад тым, як дэманстраваць яго. Але рэклама патрэбна. І яшчэ — кінамеханіку важна жыць з вёскай адным жыццём. Калі ўбачу, што на вуліцы, ля крамы, сабраліся аднавяскоўцы, заўсёды падыду, пагаворам пра кіно. Гэта карысна асабліва ў рабоце з маленькім гледачом, з дзецьмі. Сабраць іх улетку цяжка. Трэба пабываць і на рэчцы, дзе яны праседжваюць з вудамі, і на пашы, у хатах, школе. Такому кінамеханіку дзеці заўсёды павераць!

**С. ПАХІЛЕНКА,**
дырэктар Навагрудскага галаўнога кінатэатра:

— Добра, што семінар мы праводзім на базе Карэліцкага раёна. Тут ёсць чаму павучыцца. Цікавы вопыт, цудоўныя кадры. Але ёсць і ў вас, дарагія суседзі, недахопы. Не ідэальна вы абслугоўваеце гарадскога гледача. Змагацца трэба не толькі за валавы збор, колькасць сеансаў. Трэба, каб у кіназалах заўсёды было шмат гледачоў, якіх кіно выхоўвае і якія любяць яго. А залы ў Карэлічах і Міры пахваліцца гэтым не могуць За касавымі зборамі часта забываем, што галоўная наша задача — сілаю кінаэкрана выхоўваць чалавека. Гэта недахоп наш агульны.

**П. ФІЛІПАЎ,**
старшыня Ярэміцкага сельсавета:

— Сельскі Савет і кіно. Тут ёсць праблема. Правільна робяць карэліцкія кінафікатары, далёка глядзяць, вырашаючы свае задачы ў цесным супрацоўніцтве з сельскімі Саветамі. Вось і сёння на свой семінар запрасілі ўсіх старшыняў сельскіх Саветаў раёна. Мы разам выхоўваем чалавека, і кіно — наш агульны клопат. Скажам, мясцовыя кінамеханікі звярнуліся ў Савет з просьбай дапамагчы ў абсталяванні рэкламных шчытоў. Мы выдзелілі сродкі, матэрыял, паставілі па некалькі шчытоў у кожнай вёсцы. Гэта не адзіны прыклад. Працаваць трэба разам.

**М. СІПАЧ,**
начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення кінафікацыі:

—Калі мы хочам глыбока вырашаць пытанні кінапракату, а гэта мы робім і павінны рабіць яшчэ лепш, трэба добра вывучаць і свой уласны вопыт. У нас выраслі цудоўныя майстры сваёй справы. Многія з іх выступалі тут. Выраслі цудоўныя калектывы, як у Смаргонскім, Навагрудскім, Карэліцкім раёнах. У іх вопыце мы знойдзем адказ на самыя розныя праблемы, якія ў цэлым не можам пакуль што вырашыць і якія стрымліваюць уплыў кінамастацтва на нашага чалавека. Шмат дзе дрэнна з паказам дакументальных і навукова-папулярных фільмаў. Слаба выкарыстоўваем іх магчымасці, густ да іх належным чынам людзям не прывіваем. А вопыт карэліцкіх таварышаў можа стаць вялікай школай. Называліся лічбы. 100 сельскагаспадарчых фільмаў у сярэднім прапускае кожны кінамеханік раёна. Давайце павучымся ў іх. Ведаю, што многія кінамеханікі кожны касавы фільм даюць падоўжаным, разам з дакументальным. Разумна. А ці часта мы вывешваем кінаэкраны там, дзе людзі адпачываюць? У парках, на плошчах...

*З залы пасяджэнняў дыялог вынеслі ў вёскі Заполле, Пагор'е, Малюшычы. Тут у калгасных клубах, удзельнікі семінара ўбачылі новыя адкідныя кінаэкраны, зручныя для сельскіх клубаў, цудоўныя клубы, сустрэліся з калгаснымі спецыялістамі, кіраўнікамі. Дыялог працягваўся ў кіназалах, дзе гасцей прымалі кінамеханікі А. Качан, П. Рокач, А. Гіз, М. Кравец. Вось дыялог, які адбыўся ў Пагор'і з Алесем Качаном:*

*— Якія адносіны ў кінамеханіка з загадчыкам клуба?*

*— Разумеем адзін аднаго. Ён ведае планы дэманстрацыі фільмаў, я — планы канцэртаў і рэпетыцый. Адзін аднаму не замінаем.*

*— Колькі сеансаў бывае ў месяц?*

*— Дваццаць чатыры.*

*— Колькі разоў зрываюцца?*

*— Яшчэ такога не было. Фільмы завозяцца па графіку.*

*— Ці слухае вас калі-небудзь сельвыканком?*

*— А як жа? У нас шмат агульных клопатаў. Вось у ліпені слухалі.*

*— Якое пытанне стаяла?*

*— Выкананне плана дэманстрацыі фільмаў, работа з гледачамі...*

*Размова канкрэтная і працяглая. Аб усім, што хвалюе сёння работнікаў кінапракату. Што хвалюе вёску. Што хвалюе калгас. Невыпадкова размова пра фільм «У агні жыцця», які апавядае аб легендарным старшыні калгаса «Рассвет» Кірылу Пракопавічу Арлоўскім, неяк вельмі натуральна пераходзіць у размову пра жніво, сёлетні ўраджай азімых, сенакос. Кінамеханікі — людзі, у аснойным, вясковыя і з вёскаю, з хлебаробам у іх адно жыццё. Жыццё зямлі, людзей і кінаэкрана.*

*Дарога з калгасаў вядзе зноў у Карэлічы, у залу пасяджэнняў. Зноў выступленні, абмен думкамі...*

**Г. ЖУК,**
намеснік начальніка Галаўнога ўпраўлення кінафікацыі і кінапракату Камітэта па кінематаграфіі:

— Хачу звярнуць вашу ўвагу, таварышы, на прапаганду лепшых фільмаў савецкага кінамастацтва. Гэту задачу пакладзіце ў аснову сваёй работы. Маю на ўвазе такія фільмы, як «Вызваленне», «Пасол Савецкага Саюза», «Па ленінскім плане», «У агні жыцця» і іншыя—фільмы глыбокага зместу, высокіх ідэй, мастацкай сілы. Такія творы павінны выхоўваць нашага чалавека. Для іх прапаганды мала аднаго рэкламнага шчыта. Жывое слова работніка кінапракату аб фільме павінна дайсці да кожнага чалавека, абудзіць у ім неадольнае жаданне ўбачыць твор самому. Такі вынік дзейнасці—высокая заслуга кінамеханіка як прапагандыста савецкага кінамастацтва...

*Семінар працягваўся. Работнікі кінапракату Карэліцкага раёна прынялі сацыялістычныя абавязацельствы ў гонар XXIV з'езда КПСС. Там запісана:*

*Выканаць дзяржаўны план кінапракату па ўсіх паказчыках да 20 снежня, а па сельскай кінасетцы — да 23 лістапада.*

*Брыгады кінамеханікаў Турэцкага і Ярэміцкага сельсаветаў абавязуюцца выканаць гадавы план да 15 верасня.*

*У гонар XXIV з'езда КПСС правесці па ўсіх калгасах і саўгасах два тэматычных паказы сельскагаспадарчых дакументальных і навукова-папулярных фільмаў. Правесці паказ лепшых савецкіх фільмаў.*

*Прадоўжыць работу па паляпшэнню якасці паказу фільмаў. Да канца года дадаткова пераабсталяваць для паказу шыракаэкранных фільмаў тры сельскіх кінаўстаноўкі...*

**В. ФІЛІМОНАЎ.**

---

усякай цеганіны. Трэба — значыць трэба. З будаўнічымі матэрыяламі, з цэментам, з шыферам складаней, калгас іх здабывае з цяжкасцю, і тут прыходзіцца часам адмаўляць. А калі трэба машыны, торфу — калі ласка... Тут адказ старшыні заўсёды ясны і кароткі. І наконт корму для каровы: «Не бойся, ніхто яшчэ ў калгасе з-за гэтага карову не прадаваў». І калгаснікі, як я сам пераканаўся, вераць яму. «Раз Шчарбак сказаў...». Вераць, бо ведаюць: старшыня — чалавек справядлівы, сам не пакрыўдзіць і другому ў крыўду не дасць. Можа быць рэзкім, можа ўспыліць, пашумець, можа часам і прыпомніць: «Ну што — прыйшоў? А я ж табе казаў, што прыйдзе ко́за да воза?» Не бывае толькі абыякавым і несправядлівым. Асабліва, калі ты сумленна працуеш, не хітрыш, не выгадваеш. («Не смейце мне крыўдзіць Зосю. Яна святы чалавек», — прыкрыкнуў ён неяк пры мне на загадчыка фермы.) І ведаюць яшчэ, што Шчарбак заўсёды гаворыць тое, што думае, ніколі не вядзе з імі, працоўнымі людзьмі, двайной гульні. Ён не можа цярпець няшчырасці, не любіць тых, хто фальшывіць, у каго, як ён паказвае, узняўшы руку з растапыранымі пальцамі: «Вось так — пяць, а так — дзесяць». Як тады не будзеш давяраць — «раз Шчарбак сказаў...».

Не ведаю, ці можна кіраваць з поспехам без любві і даверу да людзей. Я ў гэтым сумняваюся. Але вось што да Шчарбакова, то ён любіць людзей — не ідэальных, не плакатных, а жывых, канкрэтных, з іх недахопамі, дзівосінкамі. Нават пра сварлівую, няўдачлівую Баравічыху, якая не хоча працаваць, але ўсё дапякае рознымі скаргамі і прэтэнзіямі, ён так сказаў: «Ведаеш, а мне ў ёй нешта падабаецца». Не раз добрым словам успамінаў ён у размовах брыгадзіра Льва Рудога, старога агародніка Ігната Гладкага, дырэктара Дома культуры Івана Бірука, свайго намесніка Івана Лазарчыка («Мы з ім — як Хор і Калініч, — пажартаваў ён раз. — Дапаўняем адзін аднаго»)...

Ясная справа, што такі падыход да людзей спрыяе старшыні ў яго дзейнасці, станоўча ўплывае на маральны клімат у калгасе, а значыць, і на яго матэрыяльна-вытворчыя паказчыкі.

...Пасля «нарада» і прыёму калгаснікаў Пётр Майсеевіч таропка ішоў да газіка, які прывычна чакаў яго ля праўлення: «Паехалі».

Апеты паэтамі і праслаўлены раманістамі газік працягвае служыць верай і праўдай сельскай гаспадарцы. У калгасе ёсць і «масквіч», але ён, хоць яшчэ і параўнаўча новы, нешта ўсё капрызіць, і Шчарбакоў аддае перавагу свайму старому другу — газіку. Як робіць ён усё хутка, у тэмпе, гэтак і машыну водзіць. Шафёра і механіка ён заўсёды папярэджвае: «Галоўнае, глядзіце, тармазы». У вёсцы рэгуліроўшчыкаў і светафораў няма, няма і тратуараў. Да таго ж на вуліцы бывае жывёла. Ды справа не толькі ў гэтым. Добрыя тармазы тут патрэбны і па вытворчай прычыне. Толькі старшыня прыбавіць газу, а тут насустрач імчыцца на матацыкле намеснік або брыгадзір. Стоп! І абодва спыняюцца, як укапаныя, ідзе кароткая «перастрэлка» — што, дзе, як. Толькі старшыня пераключыў хуткасць — што такое? Не працуе трактар? Што з ім?..

Словам, патрэбны добрыя тармазы. Добры матор і такія ж надзейныя тармазы. (Дыялектыка калгаснага кіравання!) Зрэшты, патрэбны яны Пятру Майсеевічу, можа быць, па той простай прычыне, што надзейнасць, дакладнасць, упэўненасць любіць ён адчуваць усюды. І за рулём, у прыватнасці.

(Заканчэнне ў наступным нумары)

# ЗГОДЗЕН, АЛЕ З ПАПРАЎКАЙ

Кажуць, што на Уздзеншчыне з кожнага акна паглядае ці паэт ці празаік. І пра гэта вельмі добра напісаў Пятрусь Ліпай у артыкуле «Уздзеншчына, парнас беларускі» («Літаратура і мастацтва», 17 ліпеня г. г.).

Але на гэтай зямлі цяжка знайсці хоць адзін мемарыяльны знак, ну хоць бы такі, як, скажам, у Бязверхавічах на Случчыне, каля прызбы былой хаты, дзе нарадзіўся Рыгор Мурашка, ці такую дошку, як на капыльскай хаце Цішкі Гартнага.

Вера Адамаўна, родная сястра Паўлюка Труса, расказвае, што да яе штогод ідуць турысты, просяць павадзіць па паэтавых сцежках. А ў самым Нізку стаіць ад часу спарахнелая хатка П. Труса, у якой ён нарадзіўся, але без усякага надпісу або знака.

Прачытаўшы артыкул П. Ліпая, мне хочацца зрабіць некаторыя заўвагі. Па-першае, варта ўлічыць усе пісьменніцкія мясціны і іх адзначыць. Па-другое, варта ўвагі адкрыццё музеяў не толькі ў самой Уздзе, што само сабой зразумела, але і па раёне.

Разам з тым трэба, відаць, неяк ушаноўваць і ашчадна захоўваць і іншыя дарагія сэрцу мясціны. Вось аўтар, напрыклад, гаворыць пра красу свайго краю. І з ім нельга не пагадзіцца. Але ж многія, напэўна, едучы з Лошы ў Узду, бачылі каля Забалоцця замест Нёмана — роў. На самай справе, замест таго, каб устанавіць мемарыяльны знак і захаваць як помнік прыроды радовішча бацькі-Нёмана, у самых яго вытоках працерабілі роўненькі раўчук. А там жа пад вербамі, дзе бруіцца першая нёманская крынічка, можна было б паставіць альтанку — прыгожую, запамінальную. Я ўпэўнены, што тады б сюды не раз прыехалі госці з Літвы, бо і для іх Нёман — родная рака.

Згодзен з аўтарам, што трэба арганізоўваць літаратурныя паходы. Згодзен і з тым, што трэба адраджаць фальклорна-бытавое свята Купалле. Але я не магу пагадзіцца, што свята Янкі Купалы трэба праводзіць на Нёмане. Янка Купала — гэта Вязынка, Маладзечаншчына, дзе зрэшты і па сёння жывуць у народзе традыцыі святкавання Купалля.

П. Ліпай гаворыць толькі пра Уздзеншчыну. Але трэба памятаць і пра Слонімскі, і Капыльскі, і Ушацкі парнасы. Наогул, калі пачынаць гаворку, то трэба не забываць і пра астатнія літаратурныя мясціны. І пра гэтую важную справу, на маю думку, павінен дбаць не толькі Саюз пісьменнікаў.

Добрую робіць справу ў прапагандзе літаратурных мясцін свайго краю лагойская раённая газета «Ленінскі сцяг» і стаўбцоўскі «Прамень». На іх прыкладзе варта павучыцца іншым газетам, у прыватнасці ўздзенскай раённай газеце «Чырвоная Зорка», у якой, на жаль, мала сустрэнеш артыкулаў па літаратурна-краязнаўчых пытаннях. Хіба толькі вершы пачынаючых, якія час ад часу з'яўляюцца ў газеце і расказваюць пра маляўнічыя краявіды Уздзеншчыны.

І яшчэ адно. Відаць, наспела патрэба ў стварэнні літаратурнага музея ў Мінску накшталт літаратурнага музея ў Маскве па вуліцы Дзімітрава, 38. Ад таго, што яго ў нас няма, многае траціць літаратурная спадчына. А некаторыя рэдкія рэчы маглі б даўно стаць набыткам музея, а не валяцца ў прыватных асоб. Мае падставы крыўдзіцца родная сястра К. Чорнага, што ёй няма куды здаць паліто пісьменніка, якое больш 25 гадоў вісіць у яе шафе...

Турысты ідуць. Іх трэба сустракаць і паказваць ім літаратурныя мясціны. А як іх, гэтыя мясціны, зрабіць прывабнымі і цікавымі — неабходна падумаць усім нам разам.

**Г. ДАМАШОВЕЦ.**

г. Маладзечна.

# ДРУГОЕ ЖЫЦЦЁ ХВОЙНІКА

*Я НЕ бачыў кутка, больш маляўнічага за нашу Капыльшчыну. Не верыце? А вы прыязджайце, дык пабачыце, якія ў нас дубровы. А Лаўскі і Старыцкі бары, што ў гады вайны наводзілі жах на акупантаў. Але гутарка пойдзе пра маленькую, нічым, здавалася б, непрыкметную зялёную градку, што знаходзіцца ў трыццаць другім квадраце Капыльскага лясніцтва.*

*«...Не зусім вялікі, так мо дзесяцін у трыццаць лясок ляжаў на ўсходнім баку Сілцоў, якраз выпіраючы сваім рогам у роў-даліну, шырокі і плоскі, пасярэдзіне якога працякае маленькая рачулка...» Так пісаў пра гэтае месца Цішка Гартны ў рамане «Сокі цаліны». Сілцы — гэта Капыль, а лясок—той самы хвойнік, што расце на схіле крутых пагоркаў.*

*Аж да самай вайны хвойнік быў любімым месцам адпачынку нашчадкаў гартнаўскага падпольшчыка Рыгора Нязвычнага. У летнія сонечныя дні было ў ім поўна дачнікаў, якія сотнямі з'язджаліся сюды, каб палазіць па схілах у густым ляшчынніку, падыхаць чыстым паветрам, настоеным на гаючай смалістай хвоі. Любілі гэты куток і Алесь Гурло, і Янка Купала, які ў 1929 годзе гасцяваў у Капылі і захапляўся мясцовымі «Альпамі».*

*Нямецкія акупанты бязлітасна знішчылі капыльскі хвойнік. Засталося толькі пяць ці шэсць нізкарослых каржачкоў. Непрывычна-балюча было глядзець на пустыя, выпаленыя сонцам схілы. І, здавалася, ніхто і ніщто не здолее вярнуць назад страчаную прыгажосць.*

*Але адразу ж пасля выгнання фашыстаў клапатлівыя рукі работнікаў лясной аховы пасадзілі тут новыя кволенькія дрэўцы. За чвэрць стагоддзя набраліся яны сілы, выцягнуліся ўвысь, раздаліся ўшыркі. А тыя зачахлыя каржачкі сталі ўжо ветэранамі і клапатліва распусцілі свае зялёныя шаты над маладняком. Шуміць, гамоніць малады лясок!*

*Па ініцыятыве работнікаў Капыльскага лясніцтва тут ствараецца зялёная зона культуры і адпачынку. Сёлетняй вясной на схілах узгоркаў пасаджаны тысячы маленькіх хвоек і ялінак. У маладым хвойніку ў хуткім часе будуць пастаўлены лаўкі са столікамі, «грыбкі-мухаморы», кіёскі. На адной з палян мяркуецца абсталяваць танцавальную пляцоўку і абсадзіць яе жоўтай акацыяй.*

*А побач, у нізіне, узвысілася дамба новага возера. Даўжыня яе — 300 метраў, бакі замацаваны жалезабетонам і дзярнінаю. У дамбу ўкладзена 26 тысяч кубаметраў грунту, 11 тон арматурнага жалеза і больш за 300 кубаметраў бетону. Значная частка гэтай работы выканана ў выхадныя дні грамадскасцю райцэнтра, якая прыняла актыўны ўдзел у добраўпарадкаванні зоны адпачынку.*

*Люстэрка паверхні возера—9,5 гектара, глыбіня вады ў некаторых месцах—каля шасці метраў .Тут будзе пляж, лодачная станцыя. Словам, робіцца ўсё для таго, каб гэты маляўнічы кут стаў адным з прыгажэйшых у Беларусі. І ходзяць упартыя чуткі, што быццам бы тут пабудуюць міжкалгасны дом адпачынку.*

*А пакуль што велізарную чашу між двух гор запаўняе вада невялічкай Каменкі. Колькі такіх цудоўных мясцін на Беларусі! Усім бы ім такі клопат.*

**Ус. ГУРЫНОВІЧ,**
**сакратар Капыльскай раённай газеты «Слава працы».**

# А БЕЗ ГОРКАГА НЕЛЬГА!

Толькі паказаў наш любімы Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы спектакль «На дне», толькі ў маскоўскім і рэспубліканскім друку з'явіліся захопленыя водгукі, толькі мы пачалі гаварыць і спрачацца пра новае ўвасабленне горкаўскага твора, як гэтая назва знікла з афішы. Чаму? Прачытаўшы артыкул дырэктара тэатра І Міхалюты ў «Літаратуры і мастацтве», 10 ліпеня г. г., даведваешся: звольніўся выканаўца ролі Саціна. Што ж, прычына, відаць, слушная. Толькі не верыцца, што ў такім багатым на таленты першай велічыні калектыве зусім няма акцёра, здольнага па-свойму сыграць галоўную ролю ў гэтай п'есе.

Меркаванні гледача, зразумела, не абавязковыя для ажыццяўлення, але я, скажам, веру, што Віктар Тарасаў прапанаваў бы нам вельмі арыгінальны малюнак вядомага вобраза, а Барона, якога ён іграў раней, мог бы ўзяць хтосьці маладзейшы за яго. Напрыклад, у МХАТ калісьці У. Яршоў па чарзе іграў абедзве ролі — у адзін вечар Барона, у другі Саціна. Тое ж, здаецца, рабіў і В. Качалаў. Можа, кіраўніцтва купалаўскага тэатра паспрабуе зрабіць такі ж творчы эксперымент?

Бо на юбілейнай афішы без твораў Максіма Горкага нашаму тэатру абысціся нельга! На пачатку свайго шляху, як мы ведаем з гісторыі, на гэтай сцэне ставілі «На дне». Вялікую славу прынесла калектыву непаўторна яркая і па-творчаму самастойная пастаноўка «Апошніх». Тут з поспехам ігралі «Зыкавых». Гэта тыя старонкі, не ўспомніць якія на 50-гадовым свяце тэатра ніхто не мае права. Тым больш, самі купалаўцы!

Тыя, каму давялося глядзець «На дне» з П. Кармуніным — Лукой, Г. Гарбукам — Акцёрам, В. Тарасавым — Баронам, Л. Рахленкам — Бубнавым, сцвярджаюць, што пасля спектакля застаюцца незабыўныя ўражанні. Мне не пашанцавала — пайшоў аднойчы на «На дне», але захварэў нехта з артыстаў, спектакль замянілі. Ну, спадзяваўся, пабачу ў наступны вечар. А яго — наступнага — няма. Удвая шкадуеш, бо драматургія Максіма Горкага заўсёды ў купалаўцаў бывала ў пашане і прыносіла поспех, узбагачала акцёраў і давала эстэтычную асалоду нам, гледачам. Трэба спадзявацца, што ў новым сезоне спектакль «На дне» будзе адноўлены.

**А. ІВЕНСКІ,**
**пракурор аддзела пракуратуры Мінскай вобласці.**




# «ДЗЕ ГУСТА, ДЗЕ ПУСТА»

Пытанні размяшчэння бібліятэк, узнятыя ў карэспандэнцыі «Дзе густа, дзе пуста», апублікаванай у «Літаратуры і мастацтве» 17 ліпеня г.г., сапраўды надзённыя і патрабуюць увагі і вывучэння.

У гэтым напрамку на Магілёўшчыне сёетое зроблена. У 1967 годзе ва ўсіх раёнах і гарадах былі створаны спецыяльныя камісіі для вывучэння сеткі бібліятэк, яе ўпарадкавання і развіцця. На падставе атрыманых матэрыялаў быў складзены і зацверджаны саветам абласнога ўпраўлення культуры перспектыўны план развіцця сеткі бібліятэк у Магілёўскай вобласці на 1968—1980 гг.

Цяпер канкрэтна аб Бабруйску, пра які ішла гаворка ў карэспандэнцыі. Сапраўды тут бібліятэкі размешчаны вельмі нераўнамерна. Таму прызнана неабходным перавесці цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Горкага ў раён новай забудовы на вуліцах Савецкай і Мінскай; перамясціць дзіцячую бібліятэку імя Крупскай у раён новабудоўляў вуліцы імя Шміта; недалёка ад мэблевай фабрыкі № 2 адкрыць гарадскую бібліятэку з дзіцячым аддзяленнем; у раёне шыннага камбіната адкрыць масавую і дзіцячую бібліятэкі, а ў раёне гарбарнага камбіната — прафсаюзную бібліятэку.

Упраўленне культуры згодна з аўтарам карэспандэнцыі, што пры планаванні забудовы горада трэба бібліятэкі, як і магазіны, набліжаць да месца работы і жыцця людзей. Дарэчы, для магазінаў, сталовых і майстэрняў бытавога абслугоўвання выдзяляюцца памяшканні ў новых будынках. На жаль, на размяшчэнне бібліятэк гэта палажэнне, распрацаванае ўрадам, не распаўсюджваецца. А шкада! Не выдзяляюцца на будаўніцтва бібліятэк і сродкі з цэнтралізаванай крыніцы фінансавання. Так, у гэтым пяцігоддзі вобласці не былі выдзелены ліміты на праектаванне і будаўніцтва раённых і гарадскіх бібліятэк.

**З. ЛЫСЕНКА,**
**намеснік начальніка ўпраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкома.**

У НАШУ ФАНАТЭКУ

# РОДНЫЯ ГАЛАСЫ

*СЯРОД сталых рубрык у каталогах Усесаюзнай фірмы грампласцінак «Мелодыя» нашу ўвагу на гэты раз прыцягваюць словы «Паэзія, проза, драматургія». Унікальны альбом з дзвюх пласцінак — у яго ўвайшлі рэстаўраваныя запісы галасоў 32-х пісьменнікаў, сярод іх—Л. Талстога, М. Горкага, А. Купрына, В. Верасаева. Зразумела, набор такіх пласцінак шырока папулярны. Цяпер набыць іх зусім немагчыма. Услед за гэтым альбомам з'явілася цікавая серыя дыскаў з галасамі літоўскіх пісьменнікаў. Прыкладу літоўскіх энтузіястаў паследавалі ў Казахстане і Латвіі.*

*Прыемна, што з'явіўся альбом — «Галасы пісьменнікаў Беларусі»—доўгачаканы падарунак аматарам беларускай паэзіі і прозы. Ён складаецца з дзвюх пласцінак тыпу «гранд» і «гігант». На першай (дыск Д 27403-4) — М. Танк чытае вершы «Жывы Ленін», «Як многа гаворым», «Сустрэча», «Аве Марыя», «Смаленне кабана» і «Прачытай і перадай другому»; Я. Брыль — навелу «Скрыпка спявае» з кнігі «Жменя сонечных промняў»; П. Броўка — «А Ленін кажа нам» і «Партызанскі тэлеграф»; П .Панчанка — «Дождж ідзе», «Родная мова», «Памяці М. Святлова» і «Чалавечнасць».*

*У аўтарскай інтэрпрэтацыі вершы і проза гучаць вельмі арыгінальна, непаўторна. Даўно вядома, што як бы выдатна, як бы пранікнёна ні чытаў артыст — аўтар робіць свае акцэнты і дае сваю інтанацыю, паўтарыць якія не можа нават выдатны чытальнік. Гэта яшчэ раз адчуваеш, слухаючы першы запіс паэтычных галасоў Беларусі.*

*Глыбока хвалюе аўтарскае чытанне ўрыўкаў з прозы І. Шамякіна, якім адкрываецца другая грампласцінка (дыск Д 027405-6). На ёй жа Іван Мележ чытае сцэну з рамана «Подых навальніцы», А. Вялюгін — вершы «Спелы бор», «Партызанская школа», «Рыбацкі могільнік», «Вечар» і іншыя. Заключае праграму дыска А. Якімовіч.*

*Пачатак пакладзены. І гэта вельмі радасна.*

*Але альбом выклікае і расчараванне. Для паэзіі Янкі Купалы, якая ўвайшла ў скарбніцу савецкай літаратуры надзвычай яркай старонкай, не знайшлося месца. Няма ў альбоме і галасоў Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага. За непрадуманасць праграмы альбома трэба папракнуць рэдактараў фірмы «Мелодыя» і, мабыць, Саюз пісьменнікаў Беларусі, у прыватнасці, тых, хто займаецца прапагандай нашых здабыткаў.*

*І яшчэ. Па невядомых прычынах у раздзеле «Драматургія» фірма зусім не прадстаўляе мастацтва выдатных беларускіх тэатраў і іх акцёраў.*

*Сёлета спаўняецца 50 гадоў Акадэмічнаму тэатру імя Я. Купалы. На сцэне яго выступалі бліскучыя акцёры, якія зрабілі ўклад у развіццё ўсяго савецкага тэатра. У серыі «Творчыя партрэты» ўжо з'явілася каля 20 партрэтаў буйнейшых майстроў драматычнага мастацтва Масквы, Кіева, Ленінграда, Алма-Аты, але ніводнага партрэта беларускіх майстроў сцэны. Гэта прыкрае непаразуменне. Можа, Беларускае тэатральнае аб'яднанне пасадзейнічае, каб яго выправіць?*

*Грамадскасць не разумее, чым тлумачыцца адсутнасць грампласцінак з запісам спектакляў купалаўскіх і коласаўскіх артыстаў. А такія спектаклі ёсць на магнітафонных стужках добрай якасці. Знаёмства з класічнай беларускай п'есай Я. Купалы «Паўлінка» ў пастаноўцы тэатра, які носіць імя аўтара камедыі, прынясе нямала радасці ўсім, хто яе паслухае. Вартыя ўвагі і іншыя работы нашых тэатраў. Яны патрэбны і для гісторыі, і як дапаможнікі для самадзейнасці і тэатральных інстытутаў, і для працэса эстэтычнага выхавання людзей.*

**Ул. ЯФРЭМАЎ.**



Міхась Вышынскі

# НАПРАДВЕСНІ

## урывак з аповесці

«На павароце» — так называецца аповесць. Замысел быў даўні і душэўны: свет жыцця вясковых хлопцаў у школе фабрычна-завадскога навучання, іх шлях да чалавечай і працоўнай даросласці, да пазнання простых жыццёвых ісцін. Словам, фармаванне іх як асоб грамадства.

Час падзей — пяцідзесятыя гады.

Аповесць напісана ў форме размовы настаўніка і журналіста—дакладней, расказу-споведзі настаўніка.

АЎТАР.

Наша першая гарадская вясна была руплівай, ранняй. Яшчэ недзе ў лютым пачалося веснавое світанне года — год, як і дзень, пачынаецца са світання. Прапалі цёмныя зімовыя дзянькі. Заціўкалі, нарэшце, на майдане нашы ўвішныя сінічкі — так быстра і звонка, бы паўдзённы капеж. Моцна запахла сырым цяплом, снегам. Неба ціха і падоўгу грала чыстымі сонечнымі барвамі.

Зіма чэзла на вачах. Вышай падымалася сакавіцкае неба — прастарнелі далі і зямля. Цямнеў, асядаў на майдане снег. Ранічкай пасля начнога марозіку гурбы пры платах былі цвёрдымі, што валуны. Мы, забаўляючыся, лазілі па іх, што па якіх горах. Апаўдні прыпякала: мігцела раздабрэлае сонца, велічна плылі небам першыя аблокі. І нашы снежныя суметы, як зямныя родзічы тых аблок, падтайвалі, размякалі... Понізу дрэў, наўкруг камлёў, паяўляліся лункі, на сугрэвах — як само дзіва вясны — раўчукі і цёплыя праталінкі. Мы ўсё бачылі, усё прыкмячалі: на пераломе пор года, ведаю я, абвастраецца чалавечы зрок-слых. Гарланілі, як шалёныя, насіліся ў блізкім полі гракі. Яны нібыта намагаліся перакрычаць нас неўгамаваных, непаседлівых. Як і яны, мы ажно дурнелі ад вясновае радасці. Мы, дзеці зямлі, былі неаддзельнымі ад яе, ад нашае вясны — нас яднала з ёй юная маладосць.

Тая радасць, тыя грачыныя песні, святло тае вясны і цяпер звіняць-жывуць ва мне, як нейкае небывалае свята прыроды.

Весялосць наша мімаволі перадавался дарослым: майстру, шафёрам. Я ўжо не кажу пра Сыціка. Той, пазіраючы на нас, ажно свіціўся белазубаю ўсмешкай. Цяпер ён прыходзіў да нас як не кожнага дня. Закурваў, здымаў шапку-аблавушку...

— Эх, каб не плеш, нябогі, — пасміхаўся ён, аціраючы потную лысіну, — дык, э... лысы не быў бы. Жысць! Дзіўная гэта штука...—Вясна, бачылі мы, настройвала яго адначасна і на новы жартоўны лад, і на раздумлівы, нязвыкла ціхі.— Я от ужо шэсцьдзесят такіх, э... вёсен стрэў-пражыў,— гаварыў ён. — Час, здэцца, даўно да іх прывыкнуць, а не кажная для мяне, як новая. Пад такім от вясёлым сонейкам і думаць не хочацца, што некалі яно патухне для цябе навек — куды там! — апошнія словы ён выгаворваў нейкім непрывычным для сябе тонам: тон той нас здзіўляў і смяшыў. — Дзіўная, нябогі, штука жысць, а яшчэ дзіўней, э... сам чалавек! Як бы яму ні трудна, ні крута было на свеце, а ўсё ж жысць гэтая не губляе для яго, э... радасці-смаку, не прыядаецца, не. І от: колькі б ён ні жыў — яму ўсё будзе мала жыцця. Я ніколі, заі, не верыў і не веру той нэндзе, якая, э... кляне жысць і кажа, што яна яму збрыдзела... Не верце і вы. Бо гаварыць можна ўсё: язык без касці...

Мы тады, смеючыся, напаміналі яму пра самазабойцаў: вісельнікаў, тапельцаў...

— Э, то нягеглыя, збалелыя душой людзі,— разважаў ён. — Тут кароткае памутненне галавы, кароткі заварот мазгоў. Чалавек, э... здаровага розуму на такое дзела не пойдзе!

Аднак перакуры цяпер у нас сталі карацейшымі. Работа пад вясновым небам вабіла, нібыта сама клікала да сябе. Цяпер яна пайшла ў нас жывей і весялей.

— Ах, вы, пчолкі-мураўі, — дабрадушна памыркваў Сыцік і браўся радзіць ды памагаць нам.

Подмасці, як і сцены гаража, падымаліся ўсё вышай і вышай... Гэтыя подмасці нарошчвалі нам нашы ж цеслі-зайцы. Жвавая суполка братоў-зайцаў яшчэ з зімы ўвіхалася разам з намі. Падымаліся ўгору сцены, а разам з імі, услед за імі, падымаліся і мы, вясёлыя камяняры. Пад гэты час мы ўжо выганялі ў камяніцы высозныя, як у вакзале, прасценкі, закладалі ў іх драўляныя «пробкі» пад аконныя і дзвярныя карабкі.

Мы працавалі, і майдан пад намі нібыта шарэў, зніжаўся, а неба бліжэла... Вышыня чаравала і вабіла. Як, паўтараю, і сама работа. Яе ціхі шал, яе гон часам так заварожваў нас, што мы забываліся на сябе, на час і нават на абед. Бачылі толькі перад сабой скарэлыя спяцоўкі, цэглу, чулі толькі пах раствору — мяккі, духмяны, устойлівы пах. Так пахлі некалі мне дома пшанічныя аладкі. Ачыналіся мы, калі трэба было паднесці цэглы ці таго ж раствору.

Адначасна ішла работа і ў самім будынку. Фараон з Мацюшэнкам і Русіновічам выкопвалі ямы — доўгія і глыбокія. Тыя, з якіх рамантуюць спадыспаду машыны. Мы ж будавалі не проста гараж, а гараж-майстэрню. Як бы які заводзік. Землякопы нашы на гэты раз не «давілі сачка» — укалвалі ад душы. Наганялі цяпер тую сваю земляную работу, на якой прахалоджваліся зімой. Ніхто і не думаў, што гэтак моцна падзейнічае на іх школьны сход. Мацюшэнка з Русіновічам прыціхлі, нібыта навечна зажурыліся... Аціх і Фараон. Перад Дзялендзікамі ён быў цяпер ліса лісой — усё набіваўся да нас у дружбакі.

Па майдане хадзілі машыны. Браты-цеслі ў суполцы з шафёрамі згружалі сасновыя брусы, дошкі. Ядраны, духмяны водар смалы расцякаўся ў паветры. Я заўжды любіў гэты пах — асабліва вясной, калі за зімку так згаладнееш душой па ўсіх жывых зямных пахах, па зелені. Начальства лясгаса і аўтапарка загадзя нарыхтоўвала для даху гаража матэрыял.

З дня на дзень павінны былі прывезці пад'ёмны кран. Без яго тут мы ніяк не маглі абысціся. Наспеў час прывозіць жалезабетонныя перамычкі ды бэлькі — а хіба голымі рукамі можна было згрузіць іх з машыны, падняць на сцены?

Клопатаў, словам, было шмат: і ў нас, і ў вясны. Усе і ўсё жыло сваім абноўленым жыццём: людзі, птушкі, зямля. І ўсіх аб'ядноўвала адно: вясновая радасць жыцця. У такія дні жыццё неяк адчувалася вечным. Сваім размахам, сваёй усеабдымнай дзейнасцю яно як бы выключала з прыроды смерць. Сама думка аб ёй была цяпер недарэчнай і неверагоднай. А яна, злавесная госця, іменна ў гэты час і напомніла пра сябе.

Аднаго разу Леанід Апанасавіч паслаў нечага да суседзяў на аб'ект Пілюгайцава і Шыкіна. Вярнуліся яны адтуль нешта занадта хутка. Ускараскаліся на подмасці, пасталі, паўзіраліся на нас так, нібыта век не бачылі.

— Ну, зараз скажам, — з нейкай бы ўрачыстасцю загаманіў Пілюгайцаў і шматзначна пераглянуўся са сваім прыяцелем. — Слухай, палундра: ваш клоун... Ну, Сыцік, кажуць, канцы аддаў... Толькі што ўчулі-та, — кіўнуў ён на суседнюю камяніцу.

Нас як апякло. Мы пакідалі работу, абступілі іх: што яшчэ за дурныя жартачкі?

— Ён праўду кажа, — трасянуў галавой Шыкін, — самі ідзіце папытайце, калі не верыце.

Не, яны не жартавалі — гэта было відаць па іх тварах.

— Як? З чаго — атакавалі і мы іх.

— Гэта ўжо нам невядома,—паціскалі яны плячыма.

Гэтую навіну спагадзя пацвердзіў і сам Леанід Апанасавіч — ён бачыўся, гаварыў з Сыцікавым брыгадзірам.

Я, Іван і Марк і адпрасіліся ў Леаніда Апанасавіча ў Вяршкі — так звалі вёсачку, у якой жыў Лесавічок. Адпрасіліся не дзеля пустое цікаўнасці. Хацелася развітацца з чалавекам, правесці яго ў апошнюю дарогу. Туды, у Вяршкі, прасіліся шмат хто з нашых, але майстар не пусціў.

Вёсачка была недалёка ад горада. Мы, дарэчы, былі ў ёй ужо раз: зімой з самім Лесавічком, калі ездзілі ў кар'ер пасабляць нагружаць яму пясок... Ён будаваўся, мы бачылі яго хату. І старую, і новую.

Ззяў пагодлівы красавіцкі дзень. Мы брылі разлезлай палявой дарогай, — разгубленыя, сцішэлыя. Паўдзённае сонца пякло-папякала ў плечы. Мы паздымалі цёплыя шапкі, узялі ў рукі целагрэйкі. Захліпаліся, спявалі ў раздоллі веснавога неба жаўранкі. Са звонам гулі на пагорках і ў каўдобінах ручаіны. Ружавелі голым веццем прыдарожныя бярозы — так свежа і чыста, як ружавеюць яны толькі вясной. Усё гэта, што магло другім часам пацешыць вока, бачылася цяпер нейкім чужым. Чужым і нерэальным. Нерэальнае сонца, і смуга ў лагчынах, нерэальнымі былі нават мы самі для сябе. Мы жылі трывогай і ўзрушэннем.

На паўдарозе да Вяршкоў нас нагналі аднабрыгаднікі Сыціка: рыжы Болесь з дзяўчынай.

— І вы туды? — суцішылі яны хаду.

— Туды...,— і мы з недаўменнем ўтаропіліся на сваіх падарожных. — Скажыце, як жа? Чаму? Вы ведаеце?

— Ведаем. Было тут, фабзаі, з ім от такое дзела, — адразу пачаў Болесь, — уранкі прыходзіла да брыгадзіра дачка яго, расказвала...

Слова за слова, і пякучая таямніца чалавечай смерці неўзабаве адкрылася нам.

Нядзельным днём гуляў Сыцік на радзінах у сваёй вёсцы. Усё ішло чын-чынам: чалавек браў чарку, гаманіў, спяваў. А надвечар нехта з гасцей уляцеў, як чорт, у хату, закрычаў дурным голасам, што ў вёсцы — пажар! Нарабіў усім жудасці. Пажар той напраўду быў, але не такі страхалюдны, каб гальмакаваць на ўвесь свет. Ды што ты скажаш: п'яны чалавек, што дурны. Гарэла ўсяго, як пасля аказалася, лазенька на лужку ў Сіцыкава суседа. У лазенцы той нейкія льняныя ачоскі ляжалі. Малыя там забаўляліся, курылі, ну і запалілі.

Пачуўшы крык, выскачыў Сыцік на падвор'е, трывожна паўзіраўся на дым, і здалося яму, што ягоная хата гарыць. І нібыта новая — тая, якую ён для дачкі-настаўніцы будаваў, для свае адзінай любай донькі. (Пра яе Сыцік, як помню, нам часцяком расказваў: і як ёй туга даводзіцца ў гарадской школе (дзеці зусім не хочуць вучыцца), і як несалодка з дзіцем у родзічаў на кватэры... Казаў: от пабудую дом, — і хай перабіраецца з чалавекам сваім сюды ў вёску — тут во-во адкрыецца школа, тут будзе ёй лягчэй). Апроч яе, у старога нікога не было — я, мусіць, не гаварыў табе, Эдзік, што жыў ён адзін-адным, удаўцом.

«Ну і вот: пусціўся ён бегчы дамоў — з усіх сіл! Насустрач, як вышла, смерці. У яго ж было хворае сэрца. (Пра гэта, да слова, з нас ніхто не ведаў і не здагадваўся: з віду ён выдаваў такім ружавашчокім мацаком!) А тут гэткі страх, гэткі шалёны бег... Да таго ж, чалавек быў на падпітку... Да хаты свае ён не дабег: як ляцеў, так і ўпаў пасярод вуліцы, нібыта раптам падстрэлілі чалавека — разрыў сэрца

— Во як было, дзеці мае. Эх-ва, бацька: шкада, брат, шкада цябе, — пацмокаў Болесь і абняў сваю сімпатычную спадарожніцу. — Так і не пагуляеш ужо ты на нашым вяселлі!..

— Божа мілы, — падцяла бровы дзяўчына, — які ён быў слаўны чалавек! Яго будуць сёння хаваць?

— Анягож! — як труба, загуў рыжы. — Чалавек ужо суткі, як не дыхае... Уся брыгада зараз будзе там. Будзе духавы аркестр — мясцком не паскупіўся на грошы, будзе начальства з упраўлення... Усё ж памёр не хто-небудзь, а лепшы рабацяга на ўсё ўпраўленне, калі не трэста.

Нам усё неяк думалася, што гэта смерць — якісьці абман, непаразуменне жыцця. І ўсё верылася, што во-во мы спаткаем недзе тут, па дарозе, жывога Лесавічка, пачуем ягоны бойкі голас, смех. Як жа так? Мы ж яго яшчэ пазаўчора бачылі, гаварылі. Штось тут у самім факце чалавечай смерці ніяк не паддавалася нашай свядомасці — так, як не паддавалася ёй, як палохала бясконцасць сусвету. Хацелася неяк адасобіцца душой ад сябе, ад звычайнага, прывычнага, і глянуць на гэты бязлітасны жыццёвы факт якімісь іншымі вачыма і з іншых вышынь з іншых вышынь і даляў. Што ж, мы былі дзецьмі зямлі, і мы толькі пачыналі жыць.

Мы прыпаміналі апошнюю сустрэчу з Сыцікам. Нам успомніліся ягоныя словы, што от пад такім вясёлым сонейкам і думаць не хочацца, што некалі яно для цябе патухне навек... Успомнілася, і як ён гэта казаў: апроч уцехі ў ягоных словах была невыразная трывога. Мы яе тады не зразумелі...

— Мабыць, чалавек-такі наперад чуе сваю смерць, — ясна выказаў Марк тое, што цяпер смутна жыло ва ўсіх нас.

На панадворку Сыцікавага селішча нас уразіла цішыня. Была яна якаясь цьмяная, стоеная, хоць і сонца свяціла і людзі тоўпіліся ля платоў і ў дзвярах старэнькай хаткі.

З вострай увагай зірнулі мы на новы дом, смольныя сасновыя сцены, шыферны дах, пустыя вокны... Ах ты, дом-дамок! Каб не ты, каб не тая вунь напаўзгарэлая лазенька, то, пэўна, ж, жыў бы твой гаспадар.

Мы зайшлі ў хату. Там шарэў паўзмрок, той прывідны і лёгкі, ад якога мроіцца ў вачах: вокны з сонечнага боку былі занавешаны. Гарэлі на стале свечкі. І сярод іх, у труне, абабітай чырвоным, ляжаў ён, Лесавічок. Ён і... не ён. Бялеўся твар, ненатуральна белы для яго, вечнага муляра, што заўсёды знаўся з ветрам і сонцам з пагодай і з непагаддзю. Упалыя шчокі, сінія кругі пад вачыма... А барада яго густая, шэрая, як хмарка, барада была амаль белая. Лесавічок пасівеў — увесь і так хутка! Гэта болей усяго ўразіла нас.

Гэта смерць была для нас не першай. Кожны з нас, ведаў я, на сваім вяку бачыў мёртвых — і дома, і па-за домам. Але да смерці няможна ніколі ні прывыкнуць, ні змірыцца з ёй. Хіба толькі, кажуць, на вайне.

Чамусьці мне жыва прыгадаўся страх, які аднаго разу перажыў я з Іванам на аб'екце, калі ўпаў з верхатуры, з подмасцяў. Мы тады залішне загрузілі іх цэглай, растворам — цвікі ў мёрзлых рыгелях сядзелі слабка і стойкі не вытрымалі... Стоячы ў парозе цёмнае хаткі, я, нібыта на яве, зноў перажываў той імгненны, удушлівы і якісь атрутны жах-страх, калі пад намі ўсё раптам затрашчала, абрынулася на дол, калі мы матляну-ліся ў паветры, бы кулі, а ўслед нам загрымела цэгла, паляцелі шчыты і скрыні з растворам. То быў, канечне, страх перад смерцю. Улучыла б адна якая шалёная цагліна ў дурную мазгаўню і ўсё — капцы! Нам пашанцавала: мы ўдала прызямліліся.

Цяпер, нанова перажываючы колішні жах, я ўяўляў сябе мёртвым. Нават як бы чуў сябе ім. Усё, аказваецца, проста: ляжыш, выцягнуўшыся, і ні цяпла ў табе, ні думак-пачуццяў, ні цемры нават — нічога. Ты — ніхто. Усяго толькі тло. Гэта і ёсць смерць.

У нашых душах і галовах у той паўдзённы час стаяў суцэльны звон-туман... Ўражанні былі вострыя, жорсткія — думкі і пачуцці бясконца нараджаліся, мітусіліся ў трывозе і паміралі. Усе іх немагчыма было адразу асэнсаваць, нават перажыць да канца.

Але добра помню, як доўга пякла мне душу якаясь гарката ад таго, што чалавечае жыццё такая кволая рэч. Якую ўладу яшчэ маюць над ім розныя сляпыя і недарэчныя выпадкі! От гэты пажар у Вяршках, от тая наша катастрофа на подмасцях — колькі ўсяго такога здараецца пад небам! Цяжка было думаць, што ўсясільны чалавек, аказваецца, яшчэ і бяссільны, і што кожнаму з нас, чалавекаў, не падуладна ні свая смерць, ні сваё нараджэнне.

Мы разгублена тапталіся па хаце. Заходзілі і выходзілі людзі. Толькі пры труне на зэдліку нярушна сядзела маладзічка ў чорнай хустцы. Здагадаліся: гэта яна, настаўніца, дачка нябожчыка. Губы ў яе паторгваліся, твар быў заплаканы, шэ-



Мал. В. ТАРАСАВА.

ры. У руках яна камячыла хустачку. Па другі бок труны, помніцца, габелі дзве-тры бабкі ў чорным — пэўна, сваячкі Сыціка. Як у царкве, яны няўзнак, няўважна хрысціліся, папраўляючы свечкі, нешта самі сабе шапталі.

Я падняў вочы на сцены — усюды віселі фотакарткі ў рамках, і як не на ўсіх быў ён, Лесавічок. У розным узросце, паставах, але ўсюды жывы, смяшлівы, вясёлы, — такі, якім мы яго ведалі. Я падштурхнуў Івана, паказаў на ваенныя фотакарткі: ніхто з нас не ведаў, што ў Сыціка было гэтулькі медалёў. Усе гэтыя медалі цяпер ляжалі на падушачках ля труны...

Нас раптам ахапіла нейкае балючае, журблівае зняменне. Было такое адчуванне, нібыта памёр хто з нашых шчырых дружкоў-заяў. Тое, што Лесавічок быў стары, не служыла для нас суцяшэннем у яго смерці. Галоўнае: не стала чалавека. Калі паверыш, дык мы, бывала, пры ім неяк і розніцы ва ўзросце не адчувалі. Ён быў нам як равеснік.

Я колькі разоў чуў, што моладзь з прычыны свае маладосці, жалезнага здароўя — эгаістычная. Што яна не можа па-сапраўднаму адчуць, перажыць людское гора. Так, думаецца, разважае той хто забыўся на сваё юнацтва. Я ўспамінаю сябе, Дзялендзікаў у дзень тае смерці і лішні раз упэўніваюся, што іменна ў маладосці ён успрымае ўсё, а тым болей якое няшчасце — глыбей, вастрэй, ярчэй, як у сталыя гады.

Людзей у хаце ўсё большала — папрыходзілі ўсе Сыцікавы аднабрыгаднікі, прыехалі музыканты. Бабкі патушылі свечкі. Дачка нябожчыка ўстала, паціху загаманіла аб чымсьці з брыгадзірам будаўнікоў, з мажным, вусатым — як цяпер яго бачу — дзядзькам.

Ярка помню тую хвіліну, калі выносілі труну. людзі збіліся на падворку. На сонца няможна было глянуць нават на міг: гэткім зыркім было яно пасля хатняга прыцемку. У вачах паколвала, зыбалася шэрая смуга, у ёй — труна над галовамі людзей...

Потым я, сунімаючы хваляванне, брыў разам з усімі вуліцай, паглядаў на Дзялендзікаў і адчуваў, што ў чымсьці ўжо мы — я, Іван і Марк — не будзем тымі, якімі былі да гэтага дня. Такія падзеі бясследна не праходзяць. Да гэтага часу мы як бы ведалі адзін бок жыцця — жывы, дзейсны. Другі бок жыцця быў у цяню, па-за нашымі вачыма і душамі. Быў у чужых далях. Сёння ён нам азначыўся — усё мае свой пачатак і канец! Гэта яшчэ раз навяло нас на думку, што жыццё— штука сур'ёзная і адносіцца да яго трэба сур'ёзна.

Не, дзіўным нейкім, асаблівым быў той вясновы дзень — ніколі я болей не перажываў, здаецца, такіх дзён. Кожная хвіліна яго прыносіла нам штосьці новае, нечаканае. Не забыцца, як на выхадзе з вёскі мяне ўразілі, як што нечуванае, песні ў канцавой хаце — там гулялі вяселле. Развясёлыя хмельныя крыкі ўбіліся ў жалобны спеў і як абразілі чужое гора. Я збянтэжана паглядаў на людзей, на знаёмых і незнаёмых, нібыта пытаў: як гэта можа адначасна спалучацца ў жыцці — гора і радасць?!

## СЯРОД КНІГ

# ДЗІВОСНАЕ ПОБАЧ

Аднным з істотных момантаў, якія характарызуюць становішча сучаснай дзіцячай літаратуры, з'яўляецца папаўненне яе набытку навукова-папулярнай і пазнаваўчай кнігай. Гэта з'ява заканамерная, яна прадыктавана ўсім ходам грамадскага развіцця, адказвае запатрабаванням, якія ставіць перад літаратурай сучасная навукова-тэхнічная рэвалюцыя.

Тэматычны дыяпазон пазнаваўчай літаратуры — неабсяжны. Гэта само жыццё ў яго няспынным імклівым руху наперад з усімі зменамі ў навуцы, тэхніцы, культурным і сацыяльным абліччы грамадства. Адначасова гэта і ўласны побыт чалавека, узяты ў адзінстве агульных і індывідуальных рыс.

Пазнаваўчая літаратура прывыкла спяшацца. Гэта прывычка ў апошні час перарастае ў тэндэнцыю, якую, карыстаючыся спартыўным тэрмінам, можна ахарактарызаваць як «гонку за лідэрам». Навукова - папулярная кніга настойліва імкнецца ісці па свежых слядах адкрыццяў, схопліваючы яшчэ ў зародкавым стане адбіткі і рысы з'яў, якія заўтра зменяць нашы ўяўленні аб прыродзе, грамадстве, чалавеку. Гэта імкненні наблізіць чытача да навейшых здабыткаў думкі і творчасці заслухоўвае ўхвалы. Яно было б яшчэ больш плённым, калі б у спаборніцтве за моднымі «перспектыўнымі» навінкамі навукова-папулярная і пазнаваўчая літаратура не ў такой адкрытай ступені абстрагоўвалася ад важных і надзённых праблем і з'яў сучаснасці, бо забываючыся на дзівоснае, што існуе побач, яна ў нейкай ступені страчвае сваю галоўную якасць — прапагандысцка - выхаваўчую ролю.

Гэтыя нататкі не прэтэндуюць на ўсебаковы разгляд праблем і характарыстыку становішча ў навукова-папулярным жанры для дзяцей, ні тым больш на катэгарычнасць абагульненняў і вывадаў. Проста нам хацелася выказаць некалькі думак, якія ўзніклі пры знаёмстве з кніжкамі трох аўтараў. Мы маем на ўвазе кніжкі Хв. Жычкі «Мая вуліца», П. Місько «Падарожжа ў калгас» і А. Чаркасава «Магутны твой зямляк».

Галоўныя патрабаванні, якія прад'яўляюцца да навукова-папулярнай, пазнаваўчай літаратуры, — яна павінна адлюстроўваць найпярвейшыя тэндэнцыі сучаснай навукі і тэхнікі, быць не толькі пазнаваўчай, але і прапагандысцкай. У той жа час яна павінна выхоўваць у людзей актыўнае мысленне, дапамагаць засвойваць факты, вучыць метадам даследчыцкай работы. Гэтыя кніжкі, скажам адразу, не адпавядаюць усім тым патрабаванням, пра якія мы гаварылі, але бясспрэчным застаецца тое, што ўсе яны вызначаюцца здольнасцю выклікаць у чытача жывую мысліцельную рэакцыю.

Канкрэтная ўстаноўка кніжкі Хв. Жычкі— засцерагчы ад выпадковасцей, з якімі мы патэнцыяльна можам сустрэцца на вуліцы.

Дасціпна і настойліва, але без надакучлівасці вучыць пісьменнік свайго малодшага сябра — школьніка Пецю «чытаць вуліцу», тлумачыць яе граматыку і змест. Разам з чытачом ён накіроўваецца (дзе пешкі, дзе ў аўтамабілі) у падарожжа па вуліцах, плошчах, магістралях сучаснага горада. І гэта падарожжа ўдала «ўпісваецца» экскурсам у гісторыю гарадоў, транспартных сродкаў, шляхоў зносін. Мусім падкрэсліць, што ў кніжцы Хв. Жычкі «Мая вуліца» мы знаходзім арганічнае спалучэнне цікавай інфармацыі і разумнай мастацкай дыдактыкі.

Аповесць П. Місько вабіць своеасаблівым спалучэннем рамантыкі і дакументальнасці, будзённасці зместу і «святочнага» настрою апавядання. Сапраўды, крышку незвычайнае спалучэнне: калгас і рамантыка.

...Для Светы Мельнікавай, дзевяцікласніцы з далёкай Караганды, паездка ў час летніх вакацый у беларускі калгас аказалася падарожжам у рамантыку. Незабыўныя ўражанні засталіся ад экскурсій у легендарную Брэсцкую крэпасць і Белавежскую пушчу. Шмат цікавага даведалася яна са старажытнай мінуўшчыны і зусім недалёкай гісторыі нашай рэспублікі. Але галоўнае ў яе ўражаннях — гэта яе жыццё у камсамольска - маладзёжным лагеры «Юнацтва», які ўжо некалькі год як створаны ў калгасе. Пра жыццё і побыт, святы і будні гэтай невялічкай юнацкай рэспублікі і расказвае гераіня ў пісьмах да свайго школьнага сябра.

Аповесць П. Місько прыцягвае не толькі тым, што ў ёй прасочваецца праблема працоўнага выхавання школьнікаў у спалучэнні з адпачынкам, але і сваімі літаратурнымі вартасцямі. Пісьменнік расказвае пра сваіх герояў жыва, захапляюча, дасціпна. Думаецца, што вось гэтае спалучэнне праблемнасці і займальнасці вызначае поспех аповесці П. Місько.

Далёка за межамі краіны вядомы трактары, пазначаныя літарамі «МТЗ», словам «Беларусь». І мы з законнай гордасцю гаворым пра гэта. А калі спытацца, што сёння ведае пра Мінскі трактарны завод наш школьнік— вясковы хлопчык з Лоеўшчыны ці Ашмяншчыны, ці хаця б той жа юны мінчанін, які амаль штодня чуе гэта — «трактарны завод?» Як нараджаецца трактар? Думаецца, што не заўсёды мы пачуем больш-менш дакладны адказ. Але гэта робіць А. Чаркасаў у навукова - папулярным нарысе «Магутны твой зямляк».

Дасканалае веданне тэхналогіі вытворчасці, востры журналісцкі зрок дапамагаюць аўтару быць цікавым апавядальнікам. Многа інфармацыі пра трактарабудаванне, геаграфію і шляхі «міграцыі» «Беларуса».

Рамантыка адкрыцця пачынаецца за гранню спазнанага. Той, каго вабяць зорныя светы, падарожжы ў казачнае і рэальнае, хто захоплены рамантыкай пранікнення ў таемны свет атама ці зялёнага ліста, павінен ведаць сваю зямлю, сваю вуліцу, павінен навучыцца знаходзіць дзівоснае у звычайным. Пра гэта і гавораць юнаму чытачу кніжкі Хв. Жычкі, П. Місько, А. Чаркасава.

Д. ГАЛЬМАКОЎ.

# КАЛІ ТРЭБА ПАРАІЦЦА...

Літаратар прынёс на студыю кінасцэнарый, мастак паказвае выставачнаму камітэту палатно, кампазітар знаёміць выканаўцаў з новым запісам фальклорнай песні... Пачынаюцца ўзаемаадносіны паміж аўтарам і установай, якая набывае або выконвае, выдае яго твор. Далёка не заўсёды яны бязвоблачныя. Пытанні ідэйнага зместу і творчай самастойнасці пераходзяць і ў прафесіянальныя спрэчкі паміж зацікаўленымі бакамі, і ў сферу прававую. Часцей за ўсё установа мае сваіх юрысконсультаў, якія ведаюць аўтарскае права і ўмеюць ім карыстацца. Не тое з аўтарамі — яны звяртаюцца да адвакатаў, пачынаюць гартаць адпаведныя пастановы і інструкцыі, каб нешта зразумець і адстаяць свае інтарэсы. Ведаць асноўныя палажэнні аўтарскага права карысна нават і тым, хто не збіраецца канфліктаваць з заказчыкам, з выдавецтвам або тэатрам, са студыяй або карціннай галерэяй. Чалавек павінен быць узброены ў сваёй галіне і ў юрыдычных адносінах.

Цяпер выдадзена цікавая і змястоўная кніжка «Асновы аўтарскага права» А. Іофе, дзе чытачам даецца агляд тых норм, якімі карыстаюцца творчыя работнікі пры выкананні мастацкіх твораў розных жанраў. Чытаецца яна не як дапаможнік, а як кніжка-дарадчык. Скажам, у свой час аўтар сцэнарыя «Ленін у Кастрычніку» быў абвінавачаны ў тым, што ён запазычыў сюжэтныя хады і агульную трактоўку падзей у аўтараў іншага сцэнарыя. Мабыць, і такі прыклад зацікавіць чытача, будзе павучальны ў вызначэнні прынцыпаў арыгінальнасці мастацкага твора, напісанага на падставе гістарычных дакументаў і фактаў. Дарэчы, некалькі гадоў назад выйшла яшчэ адна кніга, якая так і называецца «Крытэрый творчасці ў аўтарскім праве і судовай практыцы» У. Іонаса, дзе такіх прыкладаў даецца яшчэ больш.

Ці кожны з практыкаў-аўтараў адразу ж згодзіцца, скажам, з тым, што тэма — гэта не творчы элемент твора і не можа ахоўвацца аўтарскім правам? Чаму? А давайце задумаемся разам з А. Іофе і У. Іонасам — ёсць, напрыклад, тэма: «Вяртанне інваліда вайны да актыўнай працоўнай і грамадскай дзейнасці». На гэту тэму у Б. Палявога напісана «Аповесць аб сапраўдным чалавеку», у П. Паўленкі — «Шчасце», у М. Паслядовіча — «Святло над Ліпскам». Сапраўды, тэматычна гэтыя творы вельмі блізкія! Але яны зусім розныя, кожны — гэта арыгінальнае мастацкае адлюстраванне жыцця.

А як адносна сюжэтаў? І тут закон бачыць многа спецыфічнага і своеасаблівага. Калі ўзяць вызначэнне сюжэта, як «сувязей, супярэчнасцей, сімпатый, антыпатый і наогул узаемаадносін людзей, гісторыі росту і арганізацыі таго або іншага характару, тыпу» (М. Горкі), тады гэты элемент мастацкага твора ставіцца ў непасрэдную сувязь з вобразамі-характарамі. І навізна ці плагіят у яго распрацоўцы аўтарам могуць быць вызначаны толькі ў комплексным разглядзе сюжэта як аднаго з кампанентаў у задуме і вырашэнні тэмы.

У кнізе У. Іонаса падрабязна апісаны выпадак, які аналізуе і А. Іофе, на Кіргізскай кінастудыі са сцэнарыем «Блакітная зорка». Яго аўтары пабудавалі на падставе іншага сцэнарыя — «Белы матыль». І кінематаграфісты палічылі гэта звычайным плагіятам. Між тым, юрыдычнае даследаванне паказала, што абодва сцэнарыі напісаны на так званы «вандроўны сюжэт», што і пацвердзіў юрыдычны аналіз структуры літаратурнай першакрыніцы фільма...

Дадатная якасць кнігі А. Іофе ў тым, што ён абагульняе вялікі практычны вопыт скарыстання аўтарскага права ў спрэчных справах, аргументуе рашэнні судовых інстанцый літарай і духам нашых законаў. Таму гэту працу можна параіць усім, хто выступае аўтарамі мастацкіх твораў, як крыніцу ведаў, неабходных для таго, каб не памыляцца ў сваіх прэтэнзіях. Юрыдычная дасведчанасць у наш час садзейнічае больш упэўненай рабоце і дзелавым узаемаадносінам паміж творцамі і заказчыкамі, творцамі і выдаўцамі.

М. БРЫЖАНЬ.

А. Іофе. «Асновы аўтарскага права». Выдавецтва «Знание». Масква. 1969 г.

Аркадзь СУРСКІ

# ДЫЯЛОГІ НА ВЕРНІСАЖАХ І Ў МАЙСТЭРНІ

П. Данелія за работай над бюстам камсамольца-падпольшчыка Багданчука.

НАЎРАД ці трэба прадстаўляць чытачам Пятра Аляксеевіча Данелію—імя гэтага беларускага мастака добра вядома ўсім, хто любіць наша выяўленчае мастацтва. Сёлета Брэсцкі філіял Саюза мастакоў БССР цёпла адзначыў 50-годдзе з дня яго нараджэння і 25-годдзе творчага шляху. Творы Пятра Данеліі экспанаваліся на ўсесаюзных выстаўках у Маскве, на выстаўцы твораў савецкіх мастакоў у Бухарэсце. Каля трох дзесяткаў палотнаў Пятра Данеліі набыты музеямі рэспублікі. Дзесяткі маладых мастакоў, выхаванцаў студыі Брэсцкага Дома народнай творчасці, якой Пятро Данелія кіраваў два дзесяткі гадоў, атрымалі пуцёўкі ў прафесіянальнае мастацтва.

Творчасць і педагагічная дзейнасць у яго звязана з грамадскай работай. Лектар-прапагандыст выяўленчага мастацтва... Галоўны мастак Брэста (на грамадскіх асновах)... Старшыня мастацкага савета майстэрань Мастацкага фонду БССР у Брэсце... Член бюро абласнога філіяла Саюза мастакоў БССР... Ці ж не сведчанне гэта аўтарытэту, якім карыстаецца мастак сярод калег і грамадскасці!.

Падкрэслю таксама, што разам з І. Рудчыкам, М. Аўчыннікавым і аўтарам гэтых радкоў Пятро Данелія актыўна спрыяў станаўленню калектыву брэсцкіх мастакоў з самых першых крокаў яго існавання.

МОЖА БЫЦЬ, вось такая творчая і грамадская актыўнасць якраз і з'яўляецца вынікам пераадолення перашкод на шляху Пятра Данеліі да творчасці. А перашкоды былі немалыя.

Ураджэнец Махачкалы, Пятро Данелія пасля сканчэння сярэдняй школы паступіў у Маскоўскае мастацкае вучылішча. Але неўзабаве (у 1939 годзе) быў прызваны ў дзеючую армію. Толькі пасля Перамогі, у 1945 годзе, здолеў вярнуцца да творчасці.

Брэст стаў для Пятра Данеліі другой радзімай. Тут ён сфарміраваўся як мастак. Цяжкасці пасляваенных гадоў перашкодзілі працягваць адукацыю ў Маскве. Але малады мастак не разгубіўся. Прага да творчасці, упартая праца над сабой дазволілі ў сціслыя тэрміны «паўтарыць пройдзенае». Ужо ў канцы саракавых гадоў ён становіцца кваліфікаваным жывапісцам і ўступае ў Саюз мастакоў БССР.

1946—1950 гады... Прынцыповы перыяд у творчай біяграфіі Пятра Данеліі, характэрны напружаным пошукам «сябе ў мастацтве»—сваёй тэмы, свайго жанру. Нямала было грандыёзных задум, сярод якіх—вялікае палатно пра гераічную абарону Брэсцкай цытадэлі. Але здзейсніць такую задуму, зразумела, было не проста. Ён шмат піша пейзажаў, авалодваючы ўмельствам перадаваць паэзію беларускай прыроды, яе непаўторнасць. Набытае ўмельства памагае зрабіць першыя крокі да ажыццяўлення галоўнай задумы—Пятро Данелія ў выніку працяглай штудзіроўкі стварае серыю жывапісных эцюдаў гераічнай цытадэлі: «Свяшчэнныя руіны», «Холмскія вароты», «Цярэспальскія вароты», «Каземат», «Шпіталь», «Гарнізонны клуб» і іншыя. Гэтыя эцюды маюць права быць названы завершанымі мастацкімі творамі. Сёння, калі глядзіш на іх, пераконваешся, што многія з гэтых сціплых палотнаў—сапраўды унікальныя.

Адначасова мастак піша такія каларытныя пейзажы, як «Цяплее», «Вясна», «Сакавік», «Брэсцкі порт», «Зімка», «Гурзуф», «Мыс Чэхава» і іншыя.

Расло майстэрства. Накопліваўся багаты эцюдны матэрыял па Брэсцкай крэпасці. І ўсё ж патрабавальны да сябе мастак не знаходзіць цэласнага вобраза, каб раскрыць усю веліч эпапеі крэпасці-героя. Давялося адкласці хвалюючую задуму на будучыню...

На пачатку свайго станаўлення як творчай індывідуальнасці П. Данелія—пад моцным уплывам перасоўнікаў. Манера яго пісьма—рэалістычная верагоднасць і старанная дэталізацыя. Але ўжо другі этап яго творчага шляху (50-я гады) адзначаны пошукам новых рэалістычных форм—новых выяўленчых сродкаў, новых стылявых рашэнняў.

Проста дубліраванне натуры перастала задавальняць. Узнікла нездольнае жаданне пазбавіцца фактаграфічнай дакументальнасці. Узнікла імкненне перадаваць паэтычную чароўнасць прыроды ў абагульненым вобразе.

З'яўляюцца яго вядомыя серыі пейзажаў-карцін аб Радзіме, аб велічнасці і прыгажосці яе прастораў—«Плывуць аблокі», «Лістападаўскі вецер», «Перад дажджом» і іншыя.

У 60-я ГАДЫ ад лірычнага сузірання прыроды мастак рашуча пераходзіць да яе мастацкага мадэліравання: яго пейзажныя кампазіцыі становяцца тэматычнымі карцінамі з глыбокім лірыка-філасофскім падтэкстам, рамантычнай акрыленасцю, метафарычнай абагульненасцю вобразаў.

Такое перадасэнсаванне творчага падыходу да рэчаіснасці прыводзіць і да перагляду арсенала сродкаў выразнасці. Удасканальваецца малюнак, усталёўваецца дэкаратыўная пластычнасць пісьма, узбагачаецца эмацыянальнае гучанне колеру, выразная рытмічнасць пранізвае ўвесь вобразны лад карціны. Гэтая ўнутраная эвалюцыя мастака найбольш адчувальная ў карцінах «З горада», «Дарога», «Праясняецца», «Падвечар», «Дзень», «Па ўзгорках», «Маршчыны зямлі», «І зноў вясна». З асаблівай цеплынёй П. Данелія піша «Курганы Ленінскіх Горак», «Памяць», «На радзіме Ільіча»—пейзажы, эстэтычны патэнцыял якіх значна вырас у параўнанні з тым, што стварыў мастак на пачатку дарогі і ў пяцідзесятыя гады.

П. Данелія—мэтанакіраваны ў пошуках. Змястоўнасць мастацкай формы выразна выяўляе ўнутраны свет самога мастака, яго эстэтычныя і светапоглядавыя пазіцыі, характарызуе яго метад і стыль. Не замыкаючыся ў рамках пейзажу, мастак імкнецца пашырыць свой творчы дыяпазон. Ён працуе ў галіне партрэта, станковай і медальернай графікі, манументальна-дэкаратыўнага жывапісу, афармляе інтэр'еры і плошчы. І ва ўсіх гэтых жанрах—працуе прафесіянальна. Не абышоў ён і скульптуру: створаны ім манументальны бюст маладога падпольшчыка — члена КПЗБ Сяргея Багданчука своеасаблівы па трактоўцы і выразны па лепцы. Уласцівая П. Данелію-жывапісцу абагульненасць вобраза адчувальная ў ім.

МАСТАК не забываецца пра вялікую задачу; якую некалі паставіў перад сабой—раскрыць у манументальных формах эпапею Вялікай Айчыннай вайны. Створаныя мастаком за апошнія гады жывапісныя кампазіцыі «Іду да вас», «Партызанская балада»—першая сур'ёзная заяўка на гэтым шляху. Філасофская абагульненасць вобразаў, мажорна-трагедыйная рытміка, суровая лаканічнасць стылю, якая ўзыходзіць да старажытнарускага сценапісу, характарызуюць гэтыя цікавыя вопыты мастака. Іх рана яшчэ падвяргаць глыбокаму аналізу. Бо намечаны толькі пункцірам сцежкі да раскрыцця вялікай тэмы. Але сама накіраванасць пошукаў дае падставы для перспектыўных прагнозаў.

Я не паграшу супраць ісціны, калі скажу: у год свайго 50-годдзя П. Данелія прадстае перад патрабавальным гледачом як мастак шырокага дыяпазону, з багатым інтэлектуальным і эмацыянальным даляглядам. Ён тонка адчувае пластычную выразнасць, вобразную змястоўнасць мастацкіх форм. Ён па праве лічыцца адным з вядучых мастакоў Брэстчыны. Такія вывады вынікаюць з маўклівых «дыялогаў» паміж творамі П. Данеліі і іх гледачом на вернісажах. А каб бліжэй пазнаць унутраны свет мастака — трэба пабываць у яго майстэрні.

У МАЙСТЭРНІ П. Данеліі ўсё—палотны і графічныя лісты, эцюды і эскізы, пластылінавыя макеты помнікаў і гіпсавыя анатамічныя мадэлі, мастацкая і прафесіянальная літаратура, газеты і часопісы—наводзіць на роздум, спрыяе творчай размове.

З 1946 года я сачу за творчай эвалюцыяй П. Данеліі і да гэтага часу не маю яснага адказу на пытанне, з якога і пачаўся наш дыялог на гэты раз:

— Вы, Пятро Аляксеевіч, захоўваеце рыцарскую вернасць свайму ўлюбёнаму жанру — пейзажу. Аддаеце яму прыкладна дзевяноста працэнтаў рабочага часу. Чым тлумачыцца такое «адналюбства», такое, я сказаў бы, лірычнае самаабмежаванне? Былі ж у вас удачы і ў іншых жанрах...

Пятро Аляксеевіч адказвае шчыра і прама:

— Перш за ўсё, я зыходжу з таго, што не падзяляю думкі тых, хто жанры выяўленчага мастацтва падзяляе на больш важныя і менш важныя. Не лічу пейзаж менш важным жанрам, чым любы іншы. Я перакананы: для нашага выяўленчага мастацтва важней за ўсё дасягнуць найбольшых прафесіянальных вышыняў ва ўсіх жанрах. І вымяраць мастака трэба па значнасці яго ўкладу ў той жанр, у якім ён найбольш паспяхова працуе. Тэматыка пейзажу і яго эмацыянальная палітра настолькі разнастайныя, што гаварыць пра якоесьці жанравае «адналюбства» або «самаабмежаванне» наўрад ці ёсць падставы. Свае адносіны да рэчаіснасці мастак можа выказаць у пейзажы не менш ярка, чым у іншых жанрах. Усё залежыць ад яго здольнасцей і вопыту. Прыгадайце хаця б «Уладзімірку» Левітана...

— Што датычыць пейзажнага жанру,—кажу,—дык ён сапраўды не мае патрэбы ў абароне сваіх суверэнных правоў, як роўны сярод роўных. Але не пра гэта гаворка. Мы ўсе любім і цэнім пейзаж—гэты чулы паэтычны інструмент. Але ж сродкі выяўлення пейзажу, як і ўсякага жанру, абмежаваны яго спецыфікай — мастак-пейзажыст выказвае адносіны да рэчаіснасці праз вобразы прыроды, як першапачатковай, так і пераўтворанай чалавекам, але без удзелу ў карціне самога чалавека... Мадэлюруючы вобразы прыроды ў святле свайго эстэтычнага ідэалу, мастак увасабляе ў іх свае перажыванні, сваё вобразнае бачанне. Такія карціны, як левітанаўская «Уладзімірка» або вашы «Свяшчэнныя руіны Брэсцкай крэпасці», безумоўна, пра многае гавораць гледачу. Але яны не паказваюць непасрэдна герояў-катаржан, якія ішлі па Уладзімірцы паміраць у сібірскіх рудніках, або абаронцаў Брэсцкай крэпасці, якія стаялі насмерць. Не раскрываюць іх характараў, іх непаўторнай мужнасці ў барацьбе, іх бязмежнай любві да радзімы. І гэта заканамерна. Такі тэматычны аспект — ужо ў арбіце іншага жанру. У арбіце сюжэтна-тэматычнай карціны, галоўны герой якой—чалавек з яго неўтаймоўнымі страсцямі, з яго незгінальным характарам і магутнай воляю, чалавек-працаўнік, стваральнік новага, цудоўнага свету і адважны змагар за яго перамогу. Вось якраз з гэтых пазіцый я і мяркую, што савецкі мастак, які валодае сродкамі выяўлення як пейзажу, так і сюжэтна-тэматычнай карціны, узбагаціў бы і сябе і мастацтва, калі б сумяшчаў гэтыя жанры. Ці ж не так?

— Несумненна, — адказвае Данелія.—Праз практыку ў іншых жанрах мастак адкрывае нешта новае ў разуменні прыгожага, і такое сумяшчэнне творчых профіляў, канечне, узбагачае мастака. І ўсё ж, папракаць мастака за выбар таго або іншага жанру—не бачу падстаў. Гэта яго неад'емнае права. Не прыйдзе ж у галаву папракаць, напрыклад Чэхава, што ён пісаў навелы, а не раманы такога плана, як талстоўская «Вайна і мір»!..

З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ

Абай КУНАНБАЕЎ

*Споўнілася 125 год з дня нараджэння пачынальніка новай казахскай пісьмовай літаратуры, паэта-асветніка, Абая Кунанбаева.*

*У выдавецтве «Беларусь» выходзіць зборнік выбраных твораў паэта.*

*Прапануем увазе чытачоў некалькі старонак лірыкі Абая Кунанбаева ў перакладзе Рыгора Барадуліна.*

## ПАЭТ

Чакай, паэт, каварны час
Святога забыцця —
Святло натхнення зрыне ўраз
Хмурыну пачуцця.

І верш гучыць, як весні цуд,
Як у гарах ручай.
Змый, сэрца, шэрых будняў бруд.
Дык выручай, адчай!

Раскоша сонцу ў вышыні.
Душа, даволі сноў!
Гэй, думка, цеціву напні —
Хай словы мчацца зноў.

Глянь, як цвіце абмыты свет —
Душы зялёны луг!
На думку наніжы, паэт,
Вясновых слоў жамчуг.

Каб горды розум не злянеў,
Скіруй пагляд арла,
Скіруй, паэт, суровы гнеў
Супроць бяды і зла.

На справядлівы, грозны суд
Усё, паэт, аддай.
Хай словы, вольныя ад пут,
Лунаюць з краю ў край!

Хай падкалодна гадаўё
Сіпіць са злосцю ўслед, —
Іх слова кожнае тваё
Палохае, паэт!..

●

Анёл бліскавіцы, Рагіт,
Агніста ляціць да зямлі.
Дыміцца ў аблоках блакіт.
Абмыліся кавылі.

Рагіт размахнуўся — і дым
Рассеяўся ўмомант наўкол.
І сілай і бліскам святым
Надзелена слова з вякоў.

Гартуюцца словы на бой,
У полымі, быццам мячы.
Хто іх зразумеў!
Між сабой
Грызуцца сычы-багачы.

Надзею ўскладзеш ты хіба
На стомленага махляра!
Кіпіць толькі злосць і цяжба.
Калі ж прасвятлее пара!!

Анёл бліскавіцы, Рагіт,
Агністай малітвай малю, —
Раз'ясні пахмуры блакіт,
Ад цемры ачысці зямлю!

Я пагаджаюся з Пятром Аляксеевічам, што папракаць Чэхава за любоў да малых форм было б несур'ёзна, як і мастака за любоў да пейзажу. Але справа ў тым, што з маленькіх апавяданняў Чэхава ствараюцца вялікія мастацкія фільмы, а з пейзажаў, нават вялікіх, нельга стварыць і маленькай п'ескі. Бо прадмет мастацкага даследавання і сродкі выразнасці гэтых жанраў — несуадпаведныя: у апавяданні — жывы герой, які дзейнічае, у пейзажы герой — «за кадрам». Пра гэта я і кажу мастаку. Ён задумваецца на нейкі час, а пасля тлумачыць:

— Калі ўдумацца, дык чалавек, як галоўны герой твора, не выпадкова стаў радзей трапляцца ў маіх работах... Не таму, што я астыў да яго, не!.. Ён заўсёды ў мяне «ў фокусе». Але з гадамі, разумееце, мацней адчуваеш сваю адказнасць... Патрэбен час, каб выспела гатоўнасць брацца за вялікую тэму. І патрэбен час для ажыццяўлення сур'ёзнай задумы. Мабыць, такі час для мяне надыходзіць...

Я слухаю П. Данелію і думаю, што за эстэтычную шчодрасць яго пейзажаў глядач удзячны яму.

— Але глядач чакае ад вас, — заначаю, — добрых тэматычных карцін. Каб у іх відаць быў наш сучаснік, паказаны буйным планам. Зразумела, дзеля ўвасаблення «героя нашага часу» патрэбны новыя словы, новыя сродкі, якія адпавядалі б нашаму сённяшняму ўспрыняццю. У гэтай сувязі закранем паэтычную жывапісную мову. У вашых карцінах часта адчуваецца некаторая паэтычная недагаворанасць. Метафарычнасць вобразаў. Іх унутраная рытміка і меладычнасць колерных сугуччаў надаюць вашым пейзажам чароўнасць нейкай нявыказанай адухоўленасці. Глядач, настроены на вашу хвалю, з паўслова разумее алегарычнасць мовы, знаходзіць у вашых рамантычных вобразах водгук на покліч сваёй душы. А глядач, які ўспрымае рэчаіснасць у іначшым, больш спрошчаным ключы, у лепшым выпадку стварае сваю канцэпцыю, а ў горшым — проста не разумее карціны. Але ў абодвух выпадках карціна не будзе прачытана так, як хацелася б яе аўтару... Ці лічыце вы такую манеру мастакоўскай недагаворанасці, абагульненасці жывапісна-пластычнай мовы найбольш чоткім выяўленнем вашага творчага бачання, вашага жывапіснага крэда, і ці з'яўляецца яна, на ваш погляд, стылявым напрамкам апошняга дзесяцігоддзя?..

П. Данелія, адказваючы, адзначае, што пытанне пра сучаснасць стылю вельмі складанае і спрэчнае. Кожная эпоха стварае сваю эстэтыку, сваё разуменне прыгожага. Ён падкрэслівае, што ў нашу бурную, пераходную эпоху, ва ўмовах вялізнай шматнацыянальнай дзяржавы атрад мастакоў кожнай савецкай рэспублікі спрабуе набыць сваё творчае аблічча, звяртаючыся да крыніц мастацтва свайго народа, беручы на ўзбраенне дасягненні дзеячоў мастацтва братніх рэспублік і сусветнага прагрэсіўнага мастацтва. Усе гэтыя яркія кветкі мастацтва, розныя па нацыянальнай форме, але адзіныя па ідэйным змесце, узаемна ўзбагачаючы адзін аднаго, складаюць цудоўны букет савецкага мастацтва. Эталона адзінага сучаснага стылю, як такога, у нашага шматнацыянальнага мастацтва няма і быць не можа.

— На маю думку, — гаворыць мастак, — гэта ўсё да лепшага. Такі адзіны сучасны стыль, калі б ён існаваў, звязваў бы творчыя пошукі і прыводзіў бы да нівеліроўкі А разнастайнасць стыляў узбагачае мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Нездарма нашы выстаўкі становяцца ўсё больш цікавымі. Для савецкага мастака галоўнае — не стыль дзеля стылю, а ідэйная аснова твора: яна нараджае і стыль. Гэта правільна для мастацтва ў цэлым і для кожнага мастака ў паасобку. Стылявое вырашэнне кожнай карціны вызначаецца яе ідэйна-эстэтычным зместам і павінна служыць, перш за ўсё, найлепшаму раскрыццю задумы. Напрыклад, станковая карціна — не плакат, разлічаны на імгненнае прачытанне. Яна патрабуе доўгага разглядання, сяброўскага і ўважлівага. І тады яна здольная павесці задушэўную гутарку з гледачом...

— І апошняе пытанне: наколькі сур'ёзны ваш зварот да скульптуры?

— Скульптура — мая яшчэ школьная мара. Імкненне «ляпіць» вобраз, калі вы заўважылі, мяне прыцягвае і ў жывапісе, і вось я вырашыў праверыць сваё пластычнае чуццё на практыцы. Вопыт мяне задаволіў, і, па магчымасці, мяркую яго працягваць.

Пакідаючы майстэрню П. Даналіі, я думаў пра тое, якое складанае, адказнае і якое ўсё ж цудоўнае творчае жыццё савецкага мастака. Якое яно напоўненае...

Брэст.



П. ДАНЕЛІЯ. Дзень.

# Сямён Львовіч ТАЛКАЧОЎ

На 64-м годзе жыцця памёр галоўны канцэртмайстар Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР, народны артыст БССР Сямён Львовіч Талкачоў.

С. Л. Талкачоў нарадзіўся 16 мая 1907 года ў г. Бабруйску ў сям'і слесара. Пасля заканчэння Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі ён працаваў салістам і канцэртмайстрам-акампаніятарам у Ленінградскай філармоніі, тэатрах оперы і балета Новасібірска і Куйбышава.

З 1939 года творчае жыццё С. Л. Талкачова было непарыўна звязана са станаўленнем і развіццём Беларускага тэатра оперы і балета. Працуючы галоўным канцэртмайстрам тэатра, ён многа сіл і працы ўклаў у стварэнне беларускіх нацыянальных і класічных опернабалетных спектакляў. З'яўляючыся вопытным канцэртмайстрам, высокакваліфікаваным музыкантам, С. Л. Талкачоў разам з салістамі тэатра і філармоніі праводзіў вялікую канцэртную дзейнасць, прапагандуючы лепшыя творы савецкай і класічнай музыкі.

За вялікія заслугі ў развіцці беларускага музычнага мастацтва С. Л. Талкачову прысвоена ганаровае званне народнага артыста Беларускай ССР. Ён узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны», медалем «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.», Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.



Светлая памяць пра Сямёна Львовіча Талкачова назаўсёды захаваецца ў сэрцах усіх, хто ведаў яго.

**Міністэрства культуры БССР, Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР, Беларускае тэатральнае аб'яднанне.**

**Міністэрства культуры БССР з глыбокім смуткам паведамляе аб смерці народнага артыста БССР, галоўнага канцэртмайстра Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР Сямёна Львовіча Талкачова і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**

**Беларускае тэатральнае аб'яднанне глыбока смуткуе з прычыны смерці галоўнага канцэртмайстра Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР Сямёна Львовіча Талкачова і выказвае спачуванне сваякам і блізкім нябожчыка.**

*РЭПЛІКА*

# СТРУМЕНЬ НЕ Ў СТРУМЕНЬ

Пісаць пра тэатр можна па-рознаму — выказваць толькі сваё эмацыянальнае захапленне пабачаным на сцэне, удумліва аналізаваць, абмяжоўвацца ацэнкамі асобных выканаўцаў і нават спыняць увагу на рэжысуры або, скажам, на дэкаратыўным афармленні. Пажадана прафесіянальна. Грунтоўна. Зразумела. Без правінцыяльнай прэтэнцыёзнасці.

Газета «Вячэрні Мінск» 6 жніўня г. г. выступіла з рэцэнзіяй на спектакль «На досвітку» ў пастаноўцы нашых гасцей — Омскага тэатра музычнай камедыі. Не будзем аспрэчваць яе занадта паблажлівы тон, але з тым, як даюцца ацэнкі, мабыць, паспрачацца варта. Бо так пісаць пра тэатр наогул — ну, як бы гэта сказаць? — не рэкамендуецца.

«Агульны фон, чорна-белая цветавая гама, прыглушанае святло, музычнае вырашэнне і манера ігры актрысы... дапамагаюць перадаць асноўнае ў вобразе Веры Халоднай — загадкавасць і таямнічасць арэола, якія акружаюць каралеву экрана». Лексічная дакладнасць тут парушана: «чорна-белая ц в е т а в а я гама» і «загадкавасць і таямнічасць» — словы прыблізна правільныя у кантэксце. Але спытаем — якім чынам «агульны фон» можа дапамагчы актрысе перадаць асноўнае ў вобразе? Скажам, Карэніну іграюць часам на фоне па-бытавому падрабязных дэкарацый, а часам на фоне сукнаў. Добрая актрыса ў любых умовах перадасць асноўнае ў вобразе, а пасрэдная не здолее і на «агульным фоне» гэта зрабіць. Далей — «музычнае вырашэнне»... Чаго? Чыё? Аркестра ці партыі ў кампазітарскай партытуры? А можа ў вакальным выкананні партыі? А што, калі б святло было не «прыглушанае», тады актрыса не раскрыла б асноўнае?..

Колькі пытанняў! А напісан толькі адзін сказ.

Ды такіх у рэцэнзіі многа. Яшчэ прыклад: «Часам прадуманасць мізансцэн прыводзіць да надуманасці». Прыдумвае мізансцэны рэжысёр. Надуманае нешта, відаць, мы адчуваем у манеры ігры. А якая сувязь паміж «прыдуманымі мізансцэнамі» і характарам выканання?..

Яшчэ прыклад: «Увага да гераічнага струменя прывяла да некаторага змяншэння вагі лірычных элементаў у спектаклі». Ну, браточкі, гэта ўжо куды прыгажэй за сябра Аркадзя сказана! Чыя ўвага да струменю і колькі вагі зменшыла ў лірычных элементах — паспрабуйце разабрацца.

У канцы рэцэнзіі гаворыцца, што аўтару «...часам хацелася б больш дакладнага вырашэння музычных вобразаў». Часам хацелася б... Чаго? Ад каго? Ад кампазітара? А можа наогул музычны бок пастаноўкі не зусім адпавядае партытуры?

Ах, гэтае спакуслівае жаданне выказацца арыгінальна і прыгожа! Як яно падводзіць «часам» нас — мы пачынаем на паперы будаваць з бразготак рэбусы, якія потым разгадваюць і чытачы, і тыя, пра каго гаворыць газетны артыкул. Гэта і здарылася з артыкулам «Дзень пачынаецца са світання» ў «Вячэрнім Мінску».

---

●

**Ты не вер языкам, што ўсхваляюць цябе.**
**Знай — ліслівае слова магілу грабе.**
**Сам сабе ты надзейная ў свеце апора.**
**А даверлівасць кіне ў журбе і ў жальбе.**

**Ходзіць слава ліслівая хітрай лісой.**
**Не сябруй з незаслужанай пахвальбой.**
**Спанталычаны, хіба ты рады спадману, —**
**За хлусню ты заплоціш цаной дарагой.**

**Як бяда наляціць, ты спіны не згінай!**
**А пагрукае радасць, хутчэй сустракай!**
**Зазірні ў сваё сэрца і там, у прадонні,**
**Свой затоены скарб для сябе адшукай.**

●

**Слоў у мяне, бы ў неба спелых зор.**
**Я думкаю лунаў па стромах гор.**
**Я верыў, разум сораму збаіцца,**
**Адчуе краю роднага дакор.**

**Але казахі гаваркі народ.**
**І з першых слоў ім не прыйсці да згод.**
**Слязьмі гарачымі, крывёю сэрца**
**Не растапіць душы настылы лёд.**

**Не ўпарціся, народ цярплівы мой,**
**Слоў табуны вазьмі ты на пастой.**
**Што страціш ты, калі іх зразумееш!**
**Не для забавы гавару пустой.**

**Не збіся з тропу ад згрызот і бед.**
**І ведай верны шлях — ісці на свет**
**Не маеш ведаў і не любіш працу,**
**Сумей хоць пасвіць табуны як след!**

●

**Як гутарыць з думкай развага ў цішы,**
**Шляхі ўсе адкрыты для птушкі душы,**
**Напеў — гэта водцень душэўных рухаў.**
**Спеў, сэрца запоўні і гнеў затушы!**
**А песня лунае, звініць, як струмень.**
**І будзіцца думка, і ясніцца дзень.**

**У сотах песні — жыцця ўся слодыч.**
**Як светлы прамень, шчыра песню сустрэнь!**

**Ці можа за песню што быць саладзей!**
**У сэрцах запальвае зоры надзей.**
**Абудзіць пачуцці нясмеласці, смутку.**
**І сэрца прыспіць, як дзіця, ля грудзей.**

**Людзей, што спяваюць прачула, не шмат.**
**Не кожны аддацца мелодыі рад.**
**Дзе сэрца, якое напеў пачуўшы,**
**Хвалюецца, рвецца, як птушка з-за крат!**

**То песня высокаю хваляй памкне,**
**Уладна загадвае: «слухай мяне!»**
**Ды гук ласкавее, цішэе, знікае,**
**Нібыта заранка ў густым тумане.**

**Разумная песня — імкненне і рух,**
**Бязглуздая песня — задуха з задух.**
**Мелодыі ёсць, што як мудрае слова,**
**І будзяць і лечаць узвышаны дух.**

**Дух песні раскрыў я вянкамі радкоў.**
**Краса маіх слоў для разумных галоў.**
**Калі яны ёлупа ашаломяць,**
**Дык веру — узрадуюць слых мудрацоў.**
**Любому, хто полымя ў сэрцы хавае,**
**Даступліва мудрасць узвышаных слоў.**

**Змяняюцца лета зімою глухой,**
**Юнацтва вясёлыя гульні — тугой.**
**Калі ты глыбока напеў разумееш,**
**Размову вядзеш са сваёю душой.**

**Для песні абраза — пустая хвала,**
**Праўдзіваю песня заўсёды была.**
**Напеў саграваe душу ў непагоду**
**І радуе сэрца спагадай цяпла.**

джэння народа, сцвярджаецца, што гэтай адказнай і пачэснай справай можа заняцца той, хто «знаёмы са сваім народам, ведае яго жаданні і патрэбы, імкненні і ідэалы». У заключэнне выказваюцца арганізацыйныя прапановы: «Каб гэты рух бясследна не прэпаў, каб, наадварот, ён прынёс найбольшую карысць, аб'яднаемся, папершае, у самастойнае беларускае зямляцтва, а пасля і ў таварыства з чыста дэмакратычным характарам, хоць бы пад назвай «Беларуская грамада». Не менш цікавая і канцоўка звароту, у якой абгрунтоўваецца законнае права беларускага народа «стаць **самастойным і раўнапраўным членам агульнай федэратыўнай славянскай сям'і»** (падкрэслена мной. — **С. А.**).

Са зваротам «Да беларускай моладзі» найбольш цесна і блізка звязана брашура Данілы Баравіка «Пісьмы пра Беларусь». Уласна кажучы, гаворка пойдзе толькі пра першы ліст, датаваны 16 снежня 1882 года. Хто такі Д. Баравік і ці напісаў і выдаў ён больш што — невядома, можна толькі сказаць, што гэта хтосьці з невядомых яшчэ нам дзеячоў беларускага народніцтва, чалавек навукі, добра знаёмы з грамадскім жыццём і побытам роднага краю. Выдаўцы «Пісьма» агаворваюцца, што выданне брашуры «спачатку меркавалася на мове беларускай», але зрабіць гэта не ўдалося, бо, на іх думку, у беларускай мове не выпрацаваны многія навуковыя тэрміны.

Д. Баравік гаворыць пра вялікую ролю інтэлігенцыі ў справе абуджэння свайго народа ад векавечнага сну. У гэтым сэнсе беларуская інтэлігенцыя ў вялікім даўгу перад сваёй радзімай, перад сваім народам, які яшчэ не абудзіўся да грамадскага жыцця. На думку аўтара, вінаваты ў гэтым многія фактары: паншчына і яе рэшткі, адсутнасць дзяржаўнасці і дэмакратычных устаноў, дваццацігадовае ваеннае становішча на Беларусі, паланізацыя, а пасля русіфікацыя. У брашуры робіцца экскурс у гістарычнае мінулае роднага краю, адзначаюцца першыя крокі ў справе вывучэння народнага побыту, высока ацэньваецца даследчая праца Насовіча, Мікуцкага, Шэйна і Бяссонава, а таксама паэтычныя творы Дуніна-Марцінкевіча і Дарэўскага-Вярыгі.

У руках Д. Баравіка багаты фактычны матэрыял, шмат уласных назіранняў пра эканамічны і культурны стан беларускай вёскі, якія дазваляюць яму зрабіць вывад: «Як энергічна ні насаджалася б чужая культура ў народзе, яна ніяк не можа прывіцца, калі не адпавядае духу народа і калі яна не выцякае з арганічнай патрэбы нацыянальнага жыцця». Д. Баравік звяртаецца да беларускай інтэлігенцыі прыгледзецца, чым жыве просты беларускі народ, прыслухацца да яго голасу і патрэб, пранікнуць у глыбіні «мясцовага жыцця», зразумець «мясцовую самабытнасць» і адмовіцца ад «гвалтоўнай аднастайнасці», якая насаджаецца ўладамі.

Але па сваім светапоглядзе Д. Баравік — народнік ліберальнага складу, ён нідзе не гаворыць пра сацыяльную барацьбу, пра класавае размежаванне ў вёсцы. Перабольшваючы ролю інтэлігенцыі ў грамадскім жыцці краю, аўтар «Пісьма» ставіць перад ёю толькі чыста асветніцкія мэты («эканамічнае, разумовае і маральнае ўдасканаленне народа»).

Таму нічога няма дзіўнага, што ў Д. Баравіка ў хуткім часе з'явіўся апанент, які рашуча выступіў супраць ліберальнага асветніцтва, паставіў перад беларускім нацыянальным рухам рэвалюцыйныя задачы, заклікаў беларускіх дзеячоў «быць салідарнымі з партыяй «Народная воля» і дружна ісці разам супроць агульнага ворага — дэспатызму». 1 студзеня 1884 года выйшла гектаграфаваная кніга Шчырага Беларуса «Пасланне да землякоў беларусаў». У параўнанні з першым «Пісьмом пра Беларусь»,— вельмі грунтоўнае і змястоўнае даследаванне палемічнага зместу (налічвае 44 старонкі).

Шчыры Беларус разглядае брашуру Д. Баравіка і кажа, што яна яго не задавальняе сваёй ідэйнай накіраванасцю, бо ў ёй няма нічога выразнага пра «праграму дзейнасці», не гаворыцца, «які сцяг жадае ўзняць новая беларуская група і ў імя якіх ідэалаў яна будзе працаваць». Праўда, ён пагаджаецца, што трэба весці вывучэнне беларускага народнага жыцця, але абмяжоўвацца толькі гэтым цяпер нельга: «Вывучэнне радзімы складае падрыхтоўчую работу, побач з якой павінна ісці больш шырокая дзейнасць у імя вышэйшых ідэалаў». «Шырокая дзейнасць», паводле думкі Шчырага Беларуса, — гэта рэвалюцыйная прапаганда, а «вышэйшыя ідэалы» — перамога над царызмам.

Беларускі нацыянальны рух пачаўся са значным спазненнем, і таму ён павінен ісці шляхам «найбольш рацыянальным», не паўтараць памылак сваіх папярэднікаў, не абмяжоўвацца толькі асветніцкімі задачамі. Аўтар «Пасланя» глыбока аналізуе рэвалюцыйную сітуацыю ў Расіі і лічыць, што надышоў у палітычнай барацьбе такі перыяд, калі шырокі размах і вялікае значэнне набывае «мясцовы рух»: «Факты... сведчаць, з аднаго боку, на выспяванне ў народзе рэвалюцыйнай сілы, сведчаць пра страшнае нездавальненне, якое жыве ў масах, сведчыць пра тое, што народ здольны скінуць цяжкія ланцугі сучаснага дзяржаўнага ладу і прыгнечання; з другога боку гавораць.., чым больш будзе важакоў і мясцовых агітатараў, тым хутчэй мясцовы рух выльецца ў агульны». Таму беларускай інтэлігенцыі трэба ў такі час займацца не проста і не толькі асветніцтвам, а ўзначаліць мясцовую барацьбу, каб надаць ёй «вызваленчы», «сацыяльна-палітычны характар». Шчыры Беларус, як бачна, не супраць вывучэння народнага жыцця, але ён патрабуе не абмяжоўвацца запісамі песень, вывучэннем побыту і звычаяў, а заклікае звярнуць перш за ўсё ўвагу на сацыяльны змест, класавую накіраванасць мясцовага руху: «Неабходна добра вывучыць сучаснае эканамічнае становішча народа, а таксама яго палітычнае мінулае: ...нарэшце, неабходна вывучыць народныя хваляванні і бунты, як рэзультат уціску, як барацьбу за свае ідэалы і г. д.; уласна кажучы, трэба добра вывучыць ролю народа ў мінулым і сучасным жыцці радзімы». З усяго гэтага лагічна вынікае вельмі важны вывад: «Я думаю, характар гэтага (беларускага. — **С. А.**) руху павінен быць вызваленчы, галоўнаю мэтаю яго павінна быць вызваленне з-пад гнёту абсалютызму; галоўная задача новай беларускай групы павінна заключацца ў барацьбе з сучасным палітычным і эканамічным ладам, г. зн. задача, поўнасцю адпаведная з галоўнай задачай рускай рэвалюцыйнай партыі «Народная воля».

Адначасова, а можа і крыху раней, з'явіўся зварот «Да беларускай інтэлігенцыі». Ён быў выдадзены асобнай пракламацыяй на гектографе і ў снежні 1883 года распаўсюджваўся ў многіх гарадах Беларусі. Асобнага выдання пакуль што выявіць не ўдалося, поўны тэкст звароту змешчаны ў першым нумары «Гомана». Як і ў «Пасланні» Шчырага Беларуса, у звароце многа ўвагі аддаецца сацыяльным праблемам, а перад беларускай інтэлігенцыяй ставіцца «вялікая і святая задача... раскатурхаць магутныя сілы свайго народа, накіраваць прагрэсіўнае развіццё яго, даць яму магчымасць праявіць свой нацыянальны геній...» Новае ў гэтым звароце ў параўнанні з «Пасланнем» імкненне звязаць сацыяльныя праблемы з нацыянальна-вызваленчым рухам: «У сучасны момант поруч з барацьбой за свабоду асобы і вызваленнем працы ідзе ўпартая барацьба за нацыянальнае раўнапраўе і незалежнасць, вось чаму федэралізм зрабіўся адным з галоўных прынцыпаў прагрэсіўных партый усіх краін, вось чаму ў рэвалюцыйны катэхізіс увайшла як неабвержны дагмат нацыянальная салідарнасць на пачатках роўнасці, а не падпарадкавання».

●

23 сакавіка 1884 года пецярбургская паліцыя натрапіла, нарэшце, на след студэнта са Шклова Х. Ратнера і зрабіла ў яго на кватэры вобыск. Было выкрыта месца нелегальнай друкарні нарадавольцаў, знойдзены гектограф з усім неабходным начыннем і прыстасаваннем для друку і цэлы склад нелегальнай літаратуры. Сярод гектаграфаваных выданняў у дакладзе самому цару называюцца толькі казка Салтыкова-Шчадрына «Добродетели и пороки» (110 экземпляраў) і першы нумар часопіса «Гоман» (32 экземпляры) як відавочная прадукцыя ратнераўскага гектографа. Апрача таго, пры вобыску ў рукі жандармерыі трапілі тры рукапісы: два напісаны рукою Х. Ратнера, а трэці — Пятром Філіпавічам Якубовічам, вядомым рускім паэтам-нарадавольцам. Калі меркаваць па змесце гэтых рукапісаў паводле судовых дакументаў, гэта былі матэрыялы другога нумара «Гомана».

У часе следства Х. Ратнер не адмаўляў, што займаўся друкаваннем нелегальных выданняў і паказаў, што актыўны ўдзел у выданні часопіса прымаў Міхаіл Паўлавіч Аўчыннікаў. У следчай справе ёсць такі запіс: «Аўчыннікаў часта наведваў яго, Ратнера; ён ведаў пра тое, што Аўчыннікаў належыць да рэвалюцыйнага таварыства і пад яго дыктоўку напісаў адабраны ў яго, абвінавачанага, артыкул пра мясцовыя рэвалюцыйныя гурткі, які прызначаўся для часопіса «Гоман»; па просьбе таго ж Аўчыннікава Ратнер прыступіў да гектаграфавання вышэйадзначанай казкі Шчадрына (як пасведчыла стрыечная сястра Х. Ратнера — А. Ратнер — яны збіраліся яшчэ надрукаваць «Ліст Бялінскага да Гогаля»).

М. Аўчыннікаў — вядомы народнік, адзін з кіраўнікоў «маладой» партыі «Народная воля» — раней абвінавачваўся ў «дзяржаўным злачынстве», быў высланы ў г. Канск Енісейскай губерні, але ўцёк адтуль. «Заходнія» губерні былі сталым месцам яго актыўнай рэвалюцыйнай дзейнасці, царскія следчыя так характарызавалі яго працу пасля ўцёку з высылкі: «Увайшоў у цесныя сувязі з мешчанінам Янчэўскім, які наладжваў тайныя друкарні ў Паўночна-Заходнім краі, ездзіў для гэтай мэты ў Мінск, Гродна і Вільню, дзе знаходзіліся склады друкарскага шрыфту, прычым у Мінску займаўся прапагандай сярод рабочых, пасля арганізаваў на больш трывалай аснове рэвалюцыйную пашпартную справу...; у 1883 годзе накіраваўся... у Вільню для арганізацыі тайнай друкарні, а таксама ездзіў у Мінск, Бабруйск і Гомель для прапаганды сярод рабочых».

Нейкія адносіны да часопіса «Гоман» і яго выдаўцоў меў і паэт П. Якубовіч (Мяльшын), у 1883 — 1884 гадах адзін з кіраўнікоў партыі «Народная воля». У часе вобыску ў Х. Ратнера быў знойдзены рукапіс, напісаны Якубовічам, наконт якога сам аўтар пасведчыў, што «артыкул прызначаўся да друку ў № 10 часопіса «Народная воля».

Сын шклоўскага мешчаніна студэнт Х. Ратнер быў арганізатарам нелегальнай друкарні, у ёй з гектографа выйшаў першы нумар «Гомана» і, відаць, іншыя выданні беларускай групы, а таксама забароненыя ў Расіі творы Салтыкова-Шчадрына і Бялінскага. У вачах царскіх чыноўнікаў ён акрэсліваўся як даволі значная фігура: «З ліку прыцягнутых да адказнасці найбольш цяжкае абвінавачванне падае на Хаіма Ратнера, які ўяўляецца асобаю, што не толькі займала важнае становішча ў другарадных гуртках злачыннай арганізацыі, для адной з якіх ён напісаў артыкул, знойдзены пры вобыску, але і знаходзіўся за апошні час у непасрэдных сувязях з важнымі агітатарамі, да ліку якіх належаў Аўчыннікаў і Якубовіч».

Пэўныя адносіны да нелегальнай друкарні Х. Ратнера меў і Пётр Мікалаевіч Мануйлаў, затрыманы па гэтай справе былі студэнты У. Крупскі, М. Стацкевіч і С. Касцюшка-Буйніцкі. Усе яны былі знаёмы з Х. Ратнерам, збіраліся на кватэры ў Стацкевіча і Крупскага, чыталі «Гоман» і іншыя забароненыя кнігі. У дакументах упамінаецца яшчэ і Рагачоўская група (Марголін, Бродскі і інш.).

Гэтая судовая справа датычыць «Гомана» № 1, які выйшаў у лютым ці сакавіку. Другі нумар часопіса з'явіўся 15 лістапада 1884 года, у хуткім часе пасля трагічных падзей 7 кастрычніка 1884, калі быў схоплены кіраўнік «Народнай волі» Герман Лапацін і каля 500 актыўных членаў партыі. Гэта наводзіць на думку, што беларуская група «Гоман» і пасля масавых рэпрэсій захавала сваю жыццёвую сілу і змагла выдаць чарговы нумар. Значыцца, беларуская група не здавалася, працягвала барацьбу. Ёсць усе падставы думаць, што другі нумар «Гомана» выйшаў пры садзеянні А. Марчанкі, які ў гэты час апынуўся на волі...

Два нумары «Гомана», якія дайшлі да нас, выразна сведчаць, што гэта быў не проста інфармацыйны орган беларускай рэвалюцыйнай групы нарадавольцаў, а **праграмна-тэарэтычны** часопіс. На яго старонках абмяркоўваліся не толькі надзённыя праблемы беларускага вызваленчага руху, У ім, як на далоні, перадавая грамадская думка Беларусі свайго часу з яе моцнымі і слабымі бакамі. «Гоман» вызначаецца сваім рашучым і баявым заклікам да салідарнасці і згуртаванасці ўсіх народаў Расіі на аснове роўнасці і братэрства ў барацьбе супраць царскай манархіі. Прапагандуючы прынцыпы нацыянальнай самастойнасці кожнага народа, аўтары ўжо тады ўздымалі пытанне пра «свабодны федэральна-палітычны лад» рэспубліканскай Расіі, дзе кожны народ будзе роўны сярод роўных. У часопісе выказана крэда беларускай групы: «Мы—**беларусы,** таму што мы павінны змагацца ў імя мясцовых інтарэсаў беларускага народа і федэрацыйнай аўтаноміі краіны; мы—**рэвалюцыянеры,** таму што, падзяляючы праграму барацьбы «Народнай волі», лічым неабходным прыняць удзел у гэтай барацьбе; мы — **сацыялісты,** таму што нашай галоўнай мэтай з'яўляецца эканамічнае паляпшэнне жыцця краіны на аснове навуковага сацыялізма» («Гоман», 1884, № 2, стар. 35—36).

Гаворка пра навуковы сацыялізм вядзецца невыпадкова: сталася так, што беларускія нарадавольцы-гоманаўцы былі першымі прапагандыстамі марксізма на Беларусі. Дарэчы адзначыць той цікавы факт, што ў першым нумары «Гомана» было паведамленне пра арганізацыю марксісцкай групы «Вызваленне працы» і выданне ёю «Бібліятэкі сучаснага сацыялізма»: «Нельга не аднесціся з поўным спачуваннем да цудоўнай мэты таварыства «Вызваленне працы» і не пажадаць разам з рэдактарам «Бібліятэкі сучаснага сацыялізма», каб рэвалюцыянеры, якія дзейнічаюць у Расіі і ад якіх залежыць больш за ўсё поспех выдання, аказалі гэтай справе сваё садзеянне і падтрымку». А ўдзельнік беларускай групы Шчыры Беларус у сваім «Пасланні да землякоў-беларусаў» так пісаў пра марксісцкае вучэнне: «Ідэалы новага сацыяльнага ладу пачынаюць пранікаць усюды, асабліва з таго часу, як яны атрымалі цвёрдае навуковае абгрунтаванне ў працах Маркса—гэтага прызнанага правадыра навуковага сацыялізма».

Праўда, у «Гомане» былі свае слабыя і супярэчлівыя месцы (прыкметна заўважаецца перабольшанне ролі інтэлігенцыі ў грамадска-палітычным жыцці, часам аўтары не бачаць класавага размежавання беларускага народа, чамусьці побач з заклікам да рэвалюцыйнай барацьбы з царызмам зрэдку ставіцца пытанне толькі пра абмежаванне (?) манархіі). Аднак агульны тэарэтычны ўзровень артыкулаў часопіса незвычайна высокі.

Заклікі, брашуры Д. Баравіка і Шчырага Беларуса, часопіс «Гоман» —гэта мастацкая публіцыстыка, у якой б'ецца жывы пульс часу, публіцыстыка, цесна звязаная з жыццём і грамадскімі надзеямі роднага краю.

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

## Алесю КУЧАРУ — 60 гадоў

*Спаўняецца 60 гадоў вядомаму беларускаму драматургу і крытыку Алесю Кучару.*

*З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру віншаванне, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Алесь Евелевіч!**

**Горача вітаем Вас і шлем свае віншаванні ў дзень Вашага шасцідзесяцігоддзя.**

**Вось ужо амаль сорак год працуеце Вы ў літаратуры. На Вашым творчым рахунку — літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, п'есы, кінасцэнарыі. Вашы п'есы, якія ставіліся ў свой час тэатрамі рэспублікі, адлюстравалі гераічную барацьбу савецкіх людзей у тыле ворага («Гэта было ў Мінску»), першыя крокі маладога заводскага калектыву («Неспакойныя сэрцы»). З карысцю папрацавалі Вы і ў кіно. Фільмы «Пісьмы да жывых», «Усходні калідор» і асабліва напісаныя Вамі ў сааўтарстве сцэнарыі фільмаў «Чырвонае лісце» і «Гадзіннік спыніўся апоўначы» з'яўляюцца ўкладам у развіццё беларускага кінематографа.**

**Жадаем Вам, дарагі Алесь Евелевіч, добрага здароўя, доўгіх год шчаслівага жыцця, новых творчых поспехаў!»**



*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання.*

Антон БЯЛЕВІЧ

# ЧАРАЎНІКІ, ЯКІЯ ВЕДАЮЦЬ ПАЭЗІЮ

**Да тэатра гэтага ідзеш як да светлай гаючай крыніцы. Умеюць купалаўцы закрануць у тваёй душы запаветныя струны, і душа настройваецца на паэтычны лад. Не, хлусіць не буду — такое бывае не кожны раз: здараецца, прасядзіш вечар у тэатры, а пойдзеш дахаты такі ж, якім завітаў на родны «агеньчык». Але вяртаешся туды зноў і зноў, бо ведаеш, што яны, чараўнікі купалаўскай трупы, сёння могуць іграць горш, а заўтра абавязкова возьмуць рэванш і пакажуць дзівоснае мастацтва.**

**Шчыра скажу, паэзію жыцця яны раскрываюць ярчэй за ўсё ў роднай стыхіі. Мне пашчасціла — нашы волаты літаратуры дазвалялі мне звяртацца да іх па-сяброўску: дзядзька Янка, дзядзька Кузьма, дзядзька Кандрат. А як толькі адкрыецца заслона, як толькі пачнуць гаварыць аб сваім іхнія Пустарэвічы ды Крыніцкія, Леапольд Гушка ці Туляга з Зёлкіным, я адчуваю, што гэта ж вялікія паэты і знаўцы народнага жыцця — Купала, Чорны, Крапіва... Вылушчваюць зерне з чалавечых характараў— чыстае, адборнае, багатае. Ну, вядома, перш-наперш жыццёвае праўдападабенства падкупляе, але не менш радуе сапраўды мастакоўскае раскрыццё абагуленых тыпаў. Хай сабе характар узяты чалавека нават дрэннага, хцівага і прагнага, але і ён узняты на вышыню буйнага вобраза. Так працуюць скульптары. Так пішуць паэты.**

**І вялікае дзякуй нашым артыстам! Яны так арганічна жывуць у вобразах, што ў цябе нараджаецца нейкае дзівоснае адчуванне: ты ў тэатры, гэта сцэна, і разам з тым — жыццё, прапушчанае праз тэмперамент мастакоў. І гэта застаецца з табой на ўсё жыццё. Зробленае Барысам Платонавым і Глебам Глебавым, Лідзіяй Ржэцкай і Уладзімірам Уладамірскім, Ірынай Жданові і Верай Пола, Уладзімірам Дзядзюшкам і Галінай Макаравай, Леанідам Рахленкам і Лідзіяй Шынко... Вось пачаў пералік, а паспрабуй спыніцца — цяжка! Мінаюць гады, а тое, што хоць аднаго разу табе падарылі гэтыя адмысловыя майстры, трапяткім і незабыўным малюнкам стаіць перад вачыма і трывожыць роздум.**

**Калі скласці ў адно ўсё, што кожны з нас пераЖЫЎ на лепшых спектаклях купалаўцаў, будзе мора прасветленай радасці ад шчаслівага адчування хараства. Хараства вялікага мастацтва, здольнага так глыбока панароднаму, па-грамадзянску горача гаварыць пра галоўнае — пра веліч простага чалавека ў выпрабаваннях і ў працы, у горы і ў святы. Мабыць, калі тэатр будзе адзначаць 50-годдзе, трупа адчуе, як б'ецца хвалямі гэтае мора народнай павагі да першага нашага тэатра. Сталага і заўсёды рухомага ў шуканнях паэтычнай праўды аб часе і аб людзях роднай зямлі.**

Мікола ДЗЯШКЕВІЧ

# «КАПІТАН» УЗЫХОДЗІЦЬ НА МОСЦІК...



ПАЧЫНАЦЬ размову з Генадзем Аўсянікавым было цяжка.

— Ты не крыўдуй, таварыш карэспандэнт, але я зараз мушу пайсці, бо яшчэ трэба бялізну ў пральню здаць, — ён збянтэжана паглядае на мяне.— Ведаеш, жонкі няма, на гастролях, у Палтаве...

Мне аж няёмка стала. Каб хоць неяк яго затрымаць, каб гэтая чорная прагаліна паміж намі не разрасталася, я, не ведаючы што сказаць, от так сабе ўзяў дый ляпнуў:

— А што, вы мінчанін?

— А не-е-е, з-пад Магілёва, з Бялынічаў.

Ён да таго хораша гэта сказаў, што я борздзенька падсеў бліжэй, як гавораць у Бялынічах, «лэпнуў яго за плячо» і па-свойску спытаўся:

— Слухай, Генка, а як яно ўсё-такі ў цябе пачалося? Як ты прыйшоў у тэатр?

— І чаго гэта табе прыперла раптам пісаць пра мяне? Ці не марная ўсё гэта справа, як ты думаеш? Ну, скажы, пад якой рубрыкай выйдзе твой матэрыял? «Нашы майстры мастацтва»? — от ужо ў тэатры смеху будзе! «Акцёры і ролі»? — таксама, здаецца, няма чаго пісаць. А можа — «Творчасць юных»?.. Чорт яго ведае, як яно ўсё пачалося! Скончыў сямігодку, рваўся да самастойнага жыцця, ну і паступіў у машынабудаўнічы тэхнікум. Правучыўся год і раптам мяне, як кажуць, паклікала мора. Кінуў тэхнікум, паступіў у «мараходку». Правучыўся год, пацягнула ў свае Бялынічы. Вярнуўся. Скончыў школу. Ведаеш, я ў Бялынічах галоўным комікам быў. Ніводзін канцэрт раённага маштабу без канферансье Аўсянікава не абыходзіўся. Па-праўдзе кажучы, я і сёння сам сябе пытаю: «Як жа гэта выйшла?». Памятаю, на другім курсе наш мастацкі кіраўнік Канстанцін Мікалаевіч Саннікаў задаў нам «сачыненне». Адным словам, трэба было напісаць якраз пра тое, пра што ты пытаешся. Некаторыя нашы пісалі, што тэатр ужо з другога класа быў іх самай запаветнай марай. Дзівакі! У юнацтве ж марыш пра ўсё — і пра мора, і пра тэатр, і пра геалагічныя маршруты, і пра авіяцыю...

Сябры Генадзя гавораць, што прыехаў ён у інстытут кудлаты, як чорт. Валасы з карка ледзь не даставалі да барады. Флоцкі пінжачок з карнатымі рукавамі, шырачэзныя штаны і цяльняшка, у якіх ён здаваў уступныя экзамены, яшчэ і сёння да слёз смяшаць В. Тарасава, П. Дубашынскага — усіх, хто некалі разам з ім хваляваўся, стоячы за дзвярыма прыёмнай камісіі. Можа таму і празвалі яго ў тэатры «капітанам».

У 1957 годзе Аўсянікаў закончыў тэатральна-мастацкі інстытут. Без перабольшання — яго лічылі адным з лепшых на курсе, больш таго, нават прарочылі славу «нашчадка Глебава». І не проста хто-небудзь там прарочыў, а Саннікаў і Платонаў! Калі я ў яго спытаўся, як ён цяпер ставіцца да мінулых размоў наконт яго будучыні, Генадзь адмахнуўся:

— Ат, было мне тады проста ў чым паказацца — Афанасій з п'есы «У добры час», Аркашка Нешчасліўцаў з «Лесу», Старац з «Раскіданага гнязда». Сам разумееш, кожная з гэтых дыпломных работ адпавядала маёй індывідуальнасці і разам з тым сам жа матэрыял п'ес багацейшы...

Так, індывідуальнасць у яго сапраўды зайздросная. Нават, у «Дзесяці сутках...», дзе Аўсянікаў, выконваючы ролю міліцыянера, гаворыць словы, накшталт, «грамадзянін, пройдземце!», або «маэстра, вальс!», ён бязмежна абаяльны. Вось ён на авансцэне, лёгка казырае гледачам, і ўсмешка, што зайграла на яго твары нібы дадае святла рампе. Прыродная абаяльнасць выратоўвае Г. Аўсянікава і ў мізэрнай па тэксце ролі.

А яшчэ? Яшчэ ў яго вельмі добры голас: мяккі, трошкі глухаваты, але, мусіць, у нечым характэрна народны. Калі ён гаворыць, дык гэта не чужыя словы «з тэксту», а яго, ім знойдзеныя і ўзважаныя.

Помніце ў «Апошняй ахвяры» чалавека з правінцыі, што вырваўся ў Маскву і пакаштаваў сталічных спакус? Помніце Аўсянікава ў гэтай ролі? Узмакрэлага, расхлябанага, з развіслымі губамі? Помніце, як ён, захліпаючыся, крычыць: «А бож-ж-жачка мой!»? Калі я глядзеў спектакль першы раз, мяне проста скаланула, настолькі голас яго тут здаўся падобным на той, глебаўскі. Ну, дакладней будзе, па-глебаўску арганічны і маляўнічы.

Прыродны гумар Генадзя адчуваецца і ў жыцці, і на сцэне. Але пра гэта гаворка крышку пазней.

Такім чынам, і абаяльнасць, і адметны голас, і прыродны гумар, ды плюс да гэтага ўменне лёгка і свабодна імправізаваць, што было заўважана на інстытуцкай сцэне, і давалі падставы для надзей на зайздроснае будучае пачынаючага артыста.

Трынаццаць гадоў ён працуе ў тэатры. Тэрмін не малы. За гэты час яго аднакурснікі атрымалі званні, набылі вядомасць, маюць рэпутацыю прызнаных мастакоў. А пра яго ходзяць чуткі самага супярэчлівага характару. Адны сцвярджаюць, што Аўсянікаў быў і застаецца майстрам эпізода, што ролі буйных маштабаў яму не па сіле; некаму здаецца, што гэта — акцёр чыста этнаграфічнага плана. Хтосьці гаварыў, быццам ён аднастайны, што ў яго з'явіліся штампы. А некаторыя перакананы, што Аўсянікаў яшчэ не раскрыўся як акцёр на ўсю моц таленту...

Як жа разабрацца ў гэтай сумятні пагляду і меркаванняў? Асцярожна намякаю яму на гэта.

— У мяне ўсяго было. І правалы. І невялічкія, але ўсё ж удачы. Здаралася, што сезонамі іграць амаль нічога не даводзілася. Але пакрысе я зразумеў многае. Пераканаўся, што без тэатра мне не жыць, што тэатр — гэта сапраўдная і штодзённая праца. Агульнавядомыя ісціны? Зрэшты, я і сам напэўна ў душы пасмяяўся б, калі б мне нехта такую лухту нёс. Але, зразумей, дайшло гэта да мяне! Сцэне патрэбна не захапленне, а поўная адданасць. Мне расказвалі пра тэатр Брэхта. У час спектакля там за кулісамі не існуе нічога, акрамя таго, што неабходна для працы. Нават артысты, што не прымаюць удзел у сённяшнім спектаклі, не маюць права сюды заходзіць. Ля выхаду на сцэну ляжыць невялікі дыванчык, на яго становіцца акцёр, які праз некалькі хвілін павінен выйсці на сцэну. І ніхто не смее крануць яго, патурбаваць, задаць хоць адно пытанне. Ён выйшаў на сцэну, а яго месца займае наступны. Я не ведаю чаму, але думкі пра гэты тэатр мне ўсё часцей і часцей пачынаюць лезці ў галаву...

Думаецца, што каменціраваць гэтыя словы Генадзя Аўсянікава няма патрэбы. Гэта прага сапраўднай творчасці-працы.

Я гаварыў з многімі артыстамі купалаўскага тэатра, і кожны з іх сцвярджаў адно: «За гады работы ў тэатры Генадзь у творчых адносінах вельмі і вельмі вырас». Расказваюць, што на рэпетыцыях «Рудабельскай рэспублікі» Сяргей Грахоўскі доўга з недавер'ем прыглядаўся да П. Кармуніна (дзед Цярэшка) і да Г. Аўсянікава (польскі салдат), якія, як яму здалося, «псавалі» адну з лепшых сцэн рамана — эпізод, калі дзед Цярэшка бярэ ў палон польскага салдата. Пачынаючы з касцюмаў і да прыдуманага імі самімі імя жонкі салдата, артысты наімправізавалі. Сутнасць сцэны не згубілася. Гэта зразумеў і С. Грахоўскі: «Добра, хлопцы. Я хоць і не пісаў гэтага, але ў вас атрымалася...»

Сябра па сцэне Генадзь Гарбук пра выканаўчую манеру Аўсянікава гаворыць:

— Ёсць што іграць гэтаму чалавеку. Генка акцёр сучасны — яму не трэба многа слоў, ён чулым сэрцам прасвятляе характар персанажа...

...Позняй ноччу, на аўтобусным прыпынку з'яўляецца чалавек, у белым, трошкі зашмальцаваным макінтошы, з балалайкай падпахай. Відаць, не ўсё гладка склалася ў яго жыцці. А ён жартуе з незнаёмымі людзьмі наконт таго, што гэта «жахліва», але яму даводзіцца ў нашу эпоху... іграць на балалайцы. Расказвае анекдот пра тое, як ён марыў далучыцца да нечага вялікага, чыстага, сапраўднага, а яму сказалі: «Вазьміце слана, вымыйце яго ў ванне — вось і будзе вам: і вялікае, і чыстае, і сапраўднае». Ён жартуе, п'янаваты, вясёлы грамадзянін проста жартуе з незнаёмымі людзьмі, а яны—не надта каб хацелі слухаць яго.

Прыпынак пусцее. І раптам ён мармыча сабе пад нос: «І павёў ён яе, як Рамео павёў Джульету, як Фауст павёў Маргарыту і як яшчэ нехта павёў кагосьці...» Паўза. А за ёй — немы крык: «Таксі-і-і!»

Даўно ўжо ішла на сцэне п'еса «Яшчэ раз пра каханне». Даўно забыліся гледачы і на гэты спектакль — трошкі сентыментальную гісторыю фізіка Электрона і сцюардэсы Наташы, а невялічкі чалавечак у зашмальцаваным макінтошы так і застаўся ў маёй памяці.

— Люблю іграць людзей «з трэшчынкай», — гаворыць Аўсянікаў. — У іхняй неўладкаванасці, дзівацтвах, знешняй прастаце бывае так многа схавана сапраўднай чалавечнасці. Яны памыліліся, набілі гуз на лобе, але не здаюцца, не капітулююць. Цікава!..

«Алё? Доўбік слухае!..» — на сцэне сядзіць бурклівы, трошкі нават азвярэлы дзядзька, здаецца, тыповы бюракрат, які ніколі не гаварыў па-чалавечы з людзьмі («Выклік багам»).

АКЦЁР СМЯЕЦЦА, АКЦЁР СУМУЕ, АКЦЁР ЗДЗЕКУЕЦЦА...



Генадзь Аўсянікаў у спектаклях «Футбол» (Стэндзі Рэмінгтон), «Трэцяя патэтычная» (Прошка), «Паўлінка» (Пустарэвіч).

Фота Ул. КРУКА.

Ён ведае толькі адно. «Алё? Доўбік слухае!» — амаль і ўсе словы, якія даводзіцца гаварыць артысту на сцэне. І раптам мы даведваемся, што ў вайну гэты персанаж быў не такі (ён двойчы паранены), і цяпер баіцца не за сябе, а за гэтую маладзенькую доктарку, якая можа «вельмі проста аддаць канцы» ў такую завіруху. Потым ён сам накіне на плечы ёй свой цёплы кажух, па-гаспадарску агледзіць, як зашпілілася яна. І—ўздыхне, расчэша свае густыя бровы...

Эпізод маленечкі, а хораша, неяк вельмі па-свойму сказаць пра чалавека Аўсянікаў здолеў і ў гэтым выпадку.

І яшчэ... Амаль няма ніводнай у выканаўцы работы, дзе б яго герой не выклікаў у зале смех. Іншы раз гэта і сапраўды зроблена адмыслова. Але часам здараецца якраз адваротнае. Ведаючы, што насмяшыць публіку яму лёгка, Аўсянікаў, як кажуць, «выязджае» на камічнай сітуацыі. Думка, сутнасць вобраза падмяняюцца каскадам даўно заіграных жарцікаў. Так з'яўляюцца штампы. Яны ёсць у Аўсянікава, і міма іх, на вялікі жаль, прайсці нельга.

Лічу, што ў камедыі «Адкуль грэх?» аўтару найбольш удаўся вобраз Разумнікава, лектара таварыства «Веды». І шкада, што Аўсянікаў у гэтай ролі выкарыстаў не новы агульнавядомы знешні малюнак ролі лектара, знаёмы нам «паводле Райкіна». Нават «тэсезець» пакінуў, якое ў яго паўтараецца многа разоў і гучыць надакучліва. Магчымай тут вострай сатыры на падобны тып «дзеячоў» не атрымалася, хоць аўтар і выканаўца дамагаліся гэтага. Штамп падвёў!

У адной рэцэнзіі на спектакль «Праўду! Нічога акрамя праўды!» адзначалася, што Г. Аўсянікаў у ролі Леанарда толькі «смяшыць публіку». Мне захацелася распытаць у акцёра, як ён сам расцэньвае такую заўвагу крытыка.

— Бачыш, справа ў тым, што рэжысёр Раеўскі хваляваўся, каб пастаноўка не атрымалася занадта «сухой», каб публіка не засумавала. І таму, замест аднаго разу, я ўстаю з свайго месца цэлых тры разы і ўсё «прашу слова». А ўсе бачаць, што сказаць мне няма чаго...

Так, рэжысёры ў купалаўскім тэатры ў апошні час змяняюцца надзвычай хутка, і кожны з новых пастаноўшчыкаў, хоча ён ці не хоча, падштурхоўвае выканаўцу на эксплуатацыю знешніх дадзеных у традыцыйным плане. Матэрыял п'ес таксама бывае бедны — і артыст часам вымушаны шукаць і трукі, і жарцікі, і «абыгрываць» усё на свеце, каб хоць як вылузацца з ролі. Зразумела, у гэтым вінен бывае не толькі рэжысёр або драматург: значная частка віны кладзецца на плечы самога акцёра. Траціць пачуццё мастацкай адказнасці пры кожным выхадзе на сцэну нельга! Помста за гэта бывае жорсткая.

— Мне думаецца, — сказаў мне Сцяпан Сцяпанавіч Бірыла, — што Генадзь самастойна пераадолеў складаны для сябе рубеж: ён ведае, дзе і калі пачынае паўтарацца. Паглядзіце яго ў ролях, якія калісьці выконваў Глебаў. Несумненна, што і ў яго Кроплі («Канстанцін Заслонаў»), і ў Пустарэвічы («Паўлінка»), і ў Максіме («Лявоніха на арбіце») паступова знікае Аўсянікаў—комік раённага маштабу, нараджаецца Аўсянікаў — мастак, мастак удумлівы і своеасаблівы... Этнаграфічны? Таксама, здаецца, памылка. Яго артыстычную ўвагу прыцягвае перш за ўсё чалавек у шырокім сэнсе гэтага слова, а народны дух працінае кожную з яго работ. І гэта цудоўна! Станаўленне Аўсянікава-акцёра абяцае цікавага майстра сцэны. Такой характэрнай індывідуальнасці пакуль што ў нас у трупе няма. Толькі не трэба баяцца, што ён заваліць або не заваліць тую ці іншую ролю, а давяраць яму іх! З даверу пачынаецца ўзлёт артыста...

Нядаўна мы зноў сустрэліся з Аўсянікавым. Ён быў надзвычай усхваляваны, хоць і стрымліваў сябе.

— Ну, нарэшце такі атрымаў! У пары з Кармуніным ў «Калабку» галоўную ролю буду рыхтаваць. «Калабок»—новая п'еса Макаёнка. Арэшак! От каб жа зрабіць яе, каб яна ў мяне атрымалася! Гэта ж такая роля, такая роля! Ды ёю ўсё жыццё ганарыцца можна!..

На ім была чорная куртка і белая трошкі дзівакаватая кепка. Ён ішоў, папыхваючы капітанскай люлькай, нейкі свабодны, упэўнены і, здаецца, шчаслівы. І сапраўды, што гэта за цуд — давер да мастака.

Госці Мінска

# СПЯВАЕ Лілі ІВАНОВА



*ГАСЦЯМІ Мінска былі эстрадны аркестр Сафійскага радыё і тэлебачання «Балкантон» і лаўрэат Міжнароднага конкурсу ў Браціславе, Канах і Барселоне, уладальніца «Залатой пласцінкі», якую яна заваявала ў Афінах, заслужаная артыстка Балгарскай Народнай Рэспублікі Лілі Іванова.*

*У канцэрце ўдзельнічалі маладыя салісткі Росіца Бялкова, Мустафа Чаушэў і вакальны дуэт у складзе Ніны Івановай і Марыі Маналавай. У аркестры працуюць два кампазітары — лаўрэаты Міжнароднага конкурсу «Залаты Арфей» Морыс Аладжэм і Тонча Русеў, якія многа пішуць песень для свайго аркестра. У праграме калектыву балгарскія, савецкія, італьянскія, англійскія песні.*

*На здымку — Лілі Іванова.*

Фота Ул. КРУКА.

*ПРА ТЫХ, КАГО НЕ БАЧЫЦЬ ГЛЯДАЧ*

# МІКОЛА ЮЖЫК З КІНАХРОНІКІ



ЛЕТАМ 1952 года пятнаццацігадовы Коля Южык прыехаў у Мінск з вёскі Баброўнікі, што пад Валожынам, каб уладкавацца на працу ў якой-небудзь сталічнай фатаграфіі. Да таго часу ён асвоіў камеру «фотакор», купленую ім на зробленыя ў летнія канікулы грошы, скончыў сем класаў, і быў поўны юнацкага запалу і энергіі. Тады ён дакладна не ведаў сэнсу слова «ілюзія», але адчуў, як зашчымела ў сэрцы, калі на работу яго не ўзялі.

Але трэба было думаць і пра кавалак хлеба: 150 рублёў, якія даў бацька на дарогу, разышліся. Па тэорыі — гэта выпадковасць, па жыццёвай неабходнасці — заканамернасць: Коля Южык уладкаваўся на хлебазаводзе вучнем цеставода. Ён падносіў духмяныя булкі, гарачыя баранкі, боханы белага і чорнага хлеба, і сталічнае жыццё ўжо не здавалася такім горкім, як напачатку. А даўняя мара тым часам зноў завалодвала яго думкамі. Коля дастаў з чамадана свой старэнькі «фотакор» і зняў на «памяць» свайго настаўніка-цеставода і ўсю яго сям'ю. А потым сваіх сяброў. А праз два гады, у маі 1954, даведаўся, што кінастудыі «Беларусьфільм» патрэбны асістэнты кінааператараў.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Іосіф Навумавіч Вейняровіч павёў яго на здымачную пляцоўку. Там Мікалай Южык упершыню ўбачыў, як робіцца кіно і торфаперагнойныя гаршчочкі. Фільм, які яны здымалі, называўся «Торф — неацэннае багацце Беларусі». Праўда, канчаў здымкі другі кінааператар— заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Міхаіл Сямёнавіч Бераў. З ім і здружыўся Мікалай Южык. Міхаіл Сямёнавіч — адзін з тых мастакоў, хто не хаваў тайн свайго майстэрства: усё, што ён зразумеў і «нажыў» на практыцы, ахвотна перадаваў свайму вернаму «Санча Пансе»—асістэнту.

Мікалай Южык прыгадвае выпадак, калі яны з Міхаілам Сямёнавічам выехалі ў Гомельскую вобласць, каб зняць сюжэт для хронікі пра перасяленне баброў. У Берава было дзве камеры. Адну — на штатыве — ён пакінуў на беразе, а другую, ручную, узяў з сабою. Захапіўшыся здымкамі і пераступаючы з адной лодкі ў другую, М. Бераў упаў у ваду.

Першае пытанне, якое ён задаў свайму асістэнту потым, было: ці зняў ён гэты момант. Мікола сказаў, што спачатку спрабаваў здымаць, а потым, зразумеўшы, што аператар тоне, адклаў камеру і кінуўся ратаваць. Адказ быў нечаканы і парадаксальны: «Дзівак! Трэба было здымаць. Сапраўдны хранікёр абавязкова здымаў бы. Я ўтапіўся б, а ты стаў бы кінааператарам. Таму што злавіў бы стрыжань падзеі...».

Атрымаўшы права на самастойныя здымкі, скалясіўшы ўсю рэспубліку, многія гарады і вёскі нашай краіны, Мікалай Южык не адзін раз успамінаў тую сцэну і словы, якія сказаў яму на паўжарце, на паўсур'ёзе старэйшы майстар беларускай кінадакументалістыкі.

Першая самастойная работа М. Южыка — сюжэт для кіначасопіса «Савецкая Беларусь» «Вясна 1960 года». Дробязь, здаецца, а колькі перадумаў, перахваляваўся, перш чым прыступіць да здымак. А разам з ім і яго апошні афіцыйны настаўнік — кінааператар Дзмітрый Раманавіч Фрыд. «Чалавек, якога я вельмі паважаю за шчырасць і добразычлівасць», — прызнаецца М. Южык.

Мо гэта былі кадры далёка не дасканалыя ў мастацкім вырашэнні тэмы, у рэжысёрскай задуме. Толькі ўсё ж сюжэт змясцілі ў часопісе і, як водзіцца ў такіх выпадках, павіншавалі маладога аператара з дэбютам.

А неўзабаве — і сапраўднае выпрабаванне. У ліпені 1960 года паслалі на Каўказ здымаць першую беларускую алімпіяду. Давялося «вывучыць» альпінізм. Спачатку гэта справа падалася М. Южыку вельмі складанай і цяжкай. Нават хацеў адмовіцца, вярнуцца ў Мінск. Але ведаючы, што заданне адказнае (а яшчэ—добра памятаючы словы М. Берава — «Што ж гэта за хранікёр, які не выканаў заданне!»), перабароў сябе, пераадолеў цяжкасці, з якімі сустрэўся.

З Каўказа Мікалай Южык прывёз два сюжэты. Адзін расказваў пра 1-ю беларускую алімпіяду, другі — пра ўзыходжанне на Эльбрус, на заходняй вяршыні якога (5.633 м.) была пакінута эмблема зубра.

35 дзён правёў разам з удзельнікамі 1-й беларускай алімпіяды Мікола Южык. 35 дзён трывог, сумнення, работы. Упершыню ён здымаў ва ўмовах, дзе ніхто яму не мог ні падказаць, ні дапамагчы. Усё было нязвыкла: месца здымак, «угадванне» дыяфрагмы — бліскучы снег, яркае сонца, чыстае неба: вока не прывыкла да такога асвятлення (а як яшчэ «павядуць» сябе аб'ектывы!)

Камісія, якая прымала абодва сюжэты, «паставіла» «выдатна». Яму далі камеру «Конвас — аўтамат», вызначылі асістэнта, уручылі пасведчанне кінааператара.

Лета 1963 года. Разам з Валерыем Кавалёвым выязджае Мікалай Южык у Казахстан, да студэнтаў будаўнічых атрадаў з Беларусі. У выніку — хвалюючы дакументальны расказ «Цаліна, вуліца Мінская» (сцэнарый і рэжысура В. Грушо і У. Шэлега). 1964 год. М. Южык здымае навукова-папулярны фільм «Фіноз» (сцэнарый В. Зуба, рэжысёр Ю. Лысятаў). На міжнародным кінафестывалі ў Празе гэты фільм атрымлівае дыплом 1-й ступені.

Разам з рэжысёрам Юрыем Лысятавым па сцэнарыі Р. Васкабойнікава, прафесара Віцебскага ветэрынарнага інстытута, М. Южык здымае фільм «Хірургія на ферме», адзначаны пасля 1-м прызам на Усесаюзным кінафестывалі навукова-папулярных фільмаў у Маскве (1968 г.).

Гледачы часта сустракалі імя М. Южыка і ў цітрах кіначасопісаў, і ў такіх карцінах, як «Дарога без прывалу», «Кветкі ў снежні», «Колькі шчасцю гадоў», «Фарбы перамогі».

І ўсюды яго работу можна заўважыць па нетаропкім «класічна-вывераным» стылі: ціхія кантрасты, спакойныя, нават, здаецца, празмерна марудныя панарамы. Усё жыццёва дакладна, у строгай суаднесенасці з мастацкай праўдай. І поспех яго фільмаў, на маю думку, у тым, што, якім бы мы малюнак ні бачылі на экране, а ўсім сваім ладам, сваёй унутранай пабудовай ён расказвае пра чалавека, яго стваральную працу, веліч і хараство гэтай працы. Здавалася б, што можна, напрыклад, расказаць аб чалавеку ў такім фільме, як «Хірургія на ферме». Сутнасць яго ў тым, каб узбагаціць ветэрынараў практычным вопытам, наглядна паказаць ім, як правільна трэба зрабіць тую ці іншую аперацыю над жывёлай ва ўмовах звычайнай (мала абсталяванай медыцынскімі апаратамі) фермы. Але паралельна з гэтым (безумоўна, не без дапамогі рэжысёра Юрыя Лысятава, з якім ён дарэчы, думае працягваць работу над гэтай тэмай) камера М. Южыка паказвае нам рукі прафесара, яго спрыт, нават велічнасць чалавека. І хоць здымкі праводзіліся не скрытай камерай, усё ж месцамі мы ловім сябе на думцы, што вось цяпер, менавіта ў гэты момант — ні хірург, ні ўладальнік жывёлы не бачаць, як іх здымаюць.

І тут мы прыгадваем той «стрыжань падзеі», пра які гаварыў некалі Міхаіл Сямёнавіч Бераў. Прыгадваем і радуемся за маладога кінааператара, за яго працу і тыя шчаслівыя мінуты адкрыцця іназірання за жыццём, якія ён дорыць нам, кінагледачам.

В. ПОЛЯК.

Джордж МІКЕШ

# ЯК СКРАБСЦІ НЕБА

**Джордж Мікеш — вядомы сучасны англійскі пісьменнік-гумарыст. Нарадзіўся ў 1912 годзе ў Венгрыі, а напярэдадні другой сусветнай вайны эмігрыраваў у Англію і з таго часу жыве там.**

**Яго кнігі «Як быць іншаземцам», «Як танцаваць танга» і «Як скрабсці неба»—дасціпная сатыра на сучаснае буржуазнае грамадства.**

**У прадмове да кнігі «Як скрабсці неба» Джорж Мікеш, у прыватнасці, пісаў: «Я правёў цэлыя два месяцы ў Злучаных Штатах, вывучаючы іх гісторыю, эканоміку, палітыку, этнаграфію, канстытуцыю, расавую праблему, прававыканаўчыя і юрыдычныя інстытуты, сацыялогію, геалогію, генеалогію і антрапалогію. І нягледзячы на ўсё гэта я сутыкнуўся з цэлым радам цяжкасцей. Справа ў тым, што Амерыку ўбачыць нялёгка».**

**Прапануем увазе чытачоў урыўкі з гэтай кнігі.**

## ХЛОПЕЦ ШТО ТРЭБА

Амерыканцы — нацыя, для якой чысціня абутку—усё! Толькі некаторым выдатным, багатым і кансерватыўна-настроеным жыхарам Новай Англіі ўдаецца пакуль захаваць удзячную традыцыю — хадзіць у наваксаваных чаравіках і ў лахманах у будні дні і ў святы. Брытвы яны таксама не прызнаюць.

У Англіі лічылі, што я апранаюся нядрэнна. Ва ўсякім выпадку, мяне цярпелі. Але калі я прыехаў у Злучаныя Штаты, мой брат зараз жа прапанаваў мне тэрмінова адправіцца ў магазін і купіць новае адзенне. Я выглядаў, паводле яго слоў, жабраком. У Амерыцы кожнага адносяць да пэўнай катэгорыі грамадства з пэўным даходам і строга прытрымліваюцца наступных правіл:

— Выкіньце ўсе вашы старыя сарочкі і купіце новыя, скажам, чырвоныя, у буйную чорную клетку. Можна купіць ліловыя з матылькамі фісташкавага колеру або нябесна-блакітнага з карычневымі рыбкамі. Не забудзьце пра гальштук. Будзе да твару гальштук у блакітную і залатую палоску, спярэшчаную матылькамі і рыбкамі. Можна началіць і жоўты з малюнкам аголенай жанчыны. Пры электрычным асвятленні яна становіцца яшчэ больш аголенай. На уікэнд, вядома, можна адправіцца ў гальштуку не такіх «строгіх» тонаў, аб якіх гаварылася вышэй...

Павінен папярэдзіць вас, дарагі чытач, што амерыканскія пральні — вельмі незвычайныя. Здаўшы туды бялізну, вы можаце быць упэўненымі, што іменна сваю вы і атрымаеце. Амерыканец не адчувае пры гэтым хваляванняў, такіх характэрных для англійскага заказчыка, бо бялізну, здадзеную тут у пральню, вам вернуць усё ж цалкам.

У Англіі ж, адкрываючы канверт з бялізнай, вы можаце знайсці ў ім пялёнкі, бюстгальтар, а іншы раз і віктарыянскія трусікі з карункамі замест вашых непрыглядных сарочак і насовак.

Так што не хвалюйцеся і спакойна закурыце цыгару, і чым даўжэйшая яна будзе, тым лепш. Па даўжыні цыгары ў Штатах мяркуюць аб вашай плацёжаздольнасці. Асобы, якія належаць да катэгорыі з мізэрным даходам, кураць цыгары не больш трох футаў у даўжыню. У амерыканскіх машынах навейшых марак ёсць круглая адтуліна ў ветравым шкле, спецыяльна прызначанае для цыгары вадзіцеля. У амерыканскім кіно можна абпаліць вушы таму, хто сядзіць наперадзе, і не папрасіць прабачэння.

Нарэшце, вы купляеце капялюш. У Амерыцы этыкет нашэння капелюшоў вельмі строгі. Вам трэба быць у капелюшы, калі вы заходзіце ў памяшканне, грамадскае або прыватнае. Але калі заходзіце, скажам, у элеватар (так у Амерыцы называецца ліфт), галаўны ўбор трэба зняць. Праўда, гэта правіла не захоўваецца, калі вы знаходзіцеся ў дзелавой установе, дзе вы абавязкова павінны быць у капелюшы. У тых выпадках, калі вы, дарагі чытач, сумняваецеся, хадзіце ў капелюшы, так надзейней.

У Штатах лічыцца таксама прыкметай дрэннага тону, калі вы не носіце капялюш у час мядовага месяца, у ваннай або парыкмахерскай.

## ПРАСТОРА І ЧАС

Пакончыўшы са сваім туалетам, пачынайце мітусіцца. Куды вы спяшаецеся, гэта ўжо не важна. Важна некуды спяшацца, таму што ўсе кудысьці спяшаюцца. У Амерыцы ёсць хуткасныя ліфты і хуткасныя падземкі, ёсць сталовыя, дзе вам пададуць абед з чатырох страў за 90 секунд, ёсць суднаверфі, дзе сходзяць са стапеляў па два лайнеры ў гадзіну, водазмяшчэннем па 50 тысяч тон кожны, а дзеці заможных бацькоў з'яўляюцца на свет прыкладна праз тры месяцы (тыя, хто беднейшыя, затрачваюць на гэта крыху больш часу).

Амерыканскаму бакалейшчыку незнаёмыя тыя пачуцці радасці, якія так характэрныя для яго англійскага калегі. Апошні можа пагаварыць аб надвор'і з кожным пакупніком, а ў гэты час спакойная чарга слухае іх дыялог.

Калі вы лічыце, што паязды лонданскага метро ў гадзіны пік перапоўнены, вы глыбока памыляецеся.

У дзевяць раніцы або ў пяць вечара на маршруце Бэйкерлоа паміж Пікадзілі і Оксфорд Сёркус у параўнанні з тым, што робіцца ў гэты час ў нью-йоркскай падземцы — цішыня ў пячоры пустэльніка. У амерыканскай падземцы людзі могуць уладкавацца на вашай галаве або сесці вам на плечы, як галубы на плошчы Святога Марка ў Венецыі; пажылыя лэдзі будуць поўзаць па вашых каленях. Не здзіўляйцеся, калі знойдзеце ў сваіх кішэнях некалькі малышоў.

Калі вам здасца, што ў вагоне ўжо і яблыку няма дзе ўпасці, не верце сваім вачам. На наступным прыпынку гурт развясёлых хлопцаў, узяўшыся за рукі, так націсне на дзверы, што той-сёй з пасажыраў, якія не паспелі грунтоўна ўладкавацца ў вагоне, акажуцца на платформе. І ніхто не злуе. Усе разумеюць, што хлопцы некуды спяшаюцца.

Амерыканцы вечна спяшаюцца. Спяшаюцца, калі працуюць, калі гавораць, калі спяць і нават калі п'юць манхэтэнскія кактэйлі, сухое марціні і неразведзенае віскі. Віно яны не смакуюць, яны п'юць з адзінай мэтай — напіцца.

А цяпер пагаворым аб амерыканскіх памерах.

Штат Тэхас у тры разы большы за Злучанае каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, хоць самі Злучаныя Штаты — трэцяя па велічыні краіна на амерыканскім кантыненце.

Нядзельны нумар газеты мала чым адрозніваецца ад шматтомнай Брытанскай энцыклапедыі, а на Коні Айленд столькі забаўных устаноў, што іх хапіла б на развесяленне іншай дзяржавы на цэлых сем гадоў.

Аднойчы мой сябар, мастак з Еўропы, прыбыўшы ў Злучаныя Штаты, напісаў партрэт прэзідэнта вялікага спецыялізаванага універмага па продажы ланцугоў. Прэзідэнту партрэт спадабаўся.

— Колькі? — запытаўся ён.

— Дзвесце, — адказаў мой сябар.

— Выдатна, — сказаў прэзідэнт і кіўнуў галавой.— А колькі б вы ўзялі за некалькі копій?

Мой сябар крыху пакрыўдзіўся, але яму патрэбны былі грошы.

— Бачыце, — сказаў ён. — гэта залежыць ад... Колькі вам трэба?

— Пяцьсот.

— Прабачце, колькі?

— Я ж сказаў — пяцьсот! Бачыце, я хачу, каб мой партрэт вісеў ва ўсіх аддзяленнях маёй кампаніі. Але больш чым па сто долараў за экземпляр вы не атрымаеце.



# КАРУСЕЛЬ АБСУРДУ

**Давайце зойдзем у звычайны гастраном...**

**Зайшлі! Які аддзел самы прыгожы!..**

**Тытунёвы! Бліскучыя пачкі цыгарэт, салідныя кардонкі папярос. А назвы, назвы!.. «Прыма», «Арбіта», «Памір», «Шыпка», «БТ», «Беламорканал», «Казбек», «Любіцельскія», «Капітанскі», «Залатое руно»... Бацюхны! Ну як тут утрымацца! Дайце пачку, калі ласка!**

**Сядзем ля тэлевізара...**

**Селі! Ну і кіно! Вось зараз герой адзін з дзесяццю ворагамі расправіцца. Зараз — толькі цыгарэту дакурыць!..**

**Уключым радыё...**

**Уключылі! Вось зноў: «Куплены ў дарогу цыгарэты...».**

**Такое ўражанне, што ўвесь свет курыцца цыгарэтным дымам, які падымаецца слупамі, ахінае планету, а людзі быццам навыперадкі:**

**— А ну, хто больш надыміць!**

**І дымяць! На сходах, на пасяджэннях, на сяброўскіх вечарынках, на рабоце, дома, на вуліцы...**

**Ды што граха таіць, — і на мастацкіх саветах, і на творчых абмеркаваннях, і ў рэдакцыях — дымяць!..**

**Курыцца дым, ахінае планету. А паспрабуй скажы, — адмахнуцца:**

**— Чулі, чулі...**

**Аднак возьмем на сябе смеласць, напомнім яшчэ раз:**

**«Тытунь — гэта яд!»**

У ГІСТОРЫІ курэння тытуню настае, быць можа, перыяд крызісу. Пасля чатырох стагоддзяў няспыннай экспансіі гэта самая распаўсюджаная шкодная звычка (трэцяя частка чалавецтва курыць) пачынае адступаць, пра што між іншым сведчыць і скарачэнне інвестыцый буйных тытунёвых канцэрнаў на Захадзе. Яны ўкладаюць капіталы ў іншыя галіны прамысловасці спажывецкіх тавараў.

Тытунь, крыніца багацця велізарных канцэрнаў, важная крыніца прыбыткаў у дзяржаўных бюджэтах і сфера працоўнай занятасці мільёнаў людзей у сусветным маштабе, лёгка выйграў бы прапагандысцкую вайну з медыцынай, калі б улады многіх краін не былі вымушаны адступіцца ад свайго нейтралітэту.

Пад націскам грамадскай думкі і актыўных арганізацый праціўнікаў курэння ў Злучаных Штатах вытворцы папярос вымушаны змяшчаць на кожным пачку надпіс, які папярэджвае курыльшчыка, што, курачы, ён рызыкуе здароўем. У Злучаных Штатах Амерыкі і Канадзе тэлевізійныя рэкламы тытунёвых канцэрнаў можна перадаваць толькі пры ўмове, што адразу пасля іх будуць паказаны перадачы, якія засцерагаюць ад курэння. З будучага года ў ЗША будзе ўведзена забарона рэкламаваць папяросы ў прэсе. Але найдалей у гэтым кірунку пайшла Нарвегія: па нарвежскім тэлебачанні, якое звычайна даволі паблажлівае ў многіх справах, нельга не толькі рэкламаваць папяросы, але нават паказваць сцэны з курэннем, калі гэтага не вымагае артыстычная патрэба.

На чале кампаніі супраць курэння ў Італіі стаў міністр аховы здароўя. У крыжовы паход супраць курэння мабілізаваны ўрачы, аптэкары, акушэркі, радыё і тэлебачанне, а таксама міністр... транспарту. Урачоў папрасілі, каб яны не курылі пры пацыентах, тэлебачанне, — каб не прапагандавала курэнне ўскосна, паказваючы фільмы ці праграмы, у якіх бы дзеючыя асобы курылі. Роля міністра транспарту ў паходзе павінна заключацца ў тым, што ён увядзе больш вагонаў для тых, хто не курыць.

У Савецкім Саюзе апошнім часам вядзецца вялікая кампанія супраць курэння. У ФРГ нядаўна забаронена курыць у службовых памяшканнях, у якіх працуе хоць адзін чалавек, які не курыць. У Балгарыі афіцыйную забарону курэння пашырылі і на грамадскія будынкі, транспарт, спартыўныя аб'екты.

У ЗША з 240 тысяч урачоў кінулі курыць 100 тысяч. Ва ўсіх штатах у цэлым у апошнія гады кінула курыць больш за 19 мільёнаў чалавек. У 1969 годзе продаж папярос упаў на самы нізкі за апошняе дзесяцігоддзе ўзровень — 535 мільярдаў штук, лічба, якая, зрэшты, нават такая, жахае амерыканскую медыцыну.

У Вялікабрытаніі курыльшчыкаў зменшылася на мільён у параўнанні з самым высокім узроўнем у пяцідзесятыя гады. Да добрага тону ў шмат якіх краінах пачало належаць сцвярджэнне, што ты пераадолеў сваю загану, сярод амерыканскай моладзі пашыраецца мода кідаць курыць, узнікаюць клубы праціўнікаў курэння. Як паведамляў нядаўна тыднёвік «Доокола свята», Вілі Брант запрасіў у Бон англійскага гіпнатызёра Х. Блайта, каб той дапамог 57-гадоваму канцлеру ФРГ адвыкнуць ад папярос.

А ў Польшчы?

У 1967 годзе прададзена 59 мільярдаў папярос на суму 12 мільёнаў злотых.

У 1969 годзе — 68 мільярдаў штук на 14 мільёнаў злотых.

У 1970 годзе польскі гандаль атрымае ад аб'яднання тытунёвай прамысловасці рэкордную колькасць папярос — 73 мільярды. Адзін працэнт чалавецтва, які прыкладна мы складаем, выкурвае каля двух працэнтаў папярос свету, ці ў два разы больш, чым сярэдне-статыстычны жыхар планеты.

Тытуняводствам у Польшчы займаецца больш як 200 тысяч сялян, якія для гэтай пераборлівай расліны рэзервуюць найлепшыя глебы нашай краіны. Каля мільёна долараў выдаткоўваем мы на імпарт замежнага тытуню.

Карусель абсурду круціцца. Чаму?

Усё даказвае, што «сярэдні» польскі курыльшчык не зусім добра арыентуецца ў тым, пра што гаворка.

Справа куды больш сур'ёзная, чым мы лічым, прызвычаіўшыся бачыць людзей з папяросай як абавязковы атрыбут сучаснага краявіду. Курыльшчыкі не агрэсіўныя, ім нават здаецца, што «папяроса супакойвае», але хутчэй за ўсё курэнне будзе прызнана праблемай не меншай грамадскай важнасці, чым п'янства. Ужо цяпер яно больш смертаноснае. Колькасць смяротных зыходаў ад раку лёгкіх у Англіі ў чатыры разы большая за колькасць ахвяр аўтамабільных катастроф! У Злучаных Штатах падлічана, што праз кожныя 105 секунд памірае чалавек ад хвароб, выкліканых курэннем. Ад тытуню пастаянна пакутуюць 11 мільёнаў чалавек, пяць працэнтаў грамадства. Сярод мужчын «інфарктных» прафесій у «інфарктным» узросце (45—54 гадоў) курыльшчыкаў памірае ў тры разы больш. 77 мільёнаў працоўных дзён у год траціць амерыканскае грамадства ў сувязі з хваробамі, спрычыненнымі курэннем. А прыгадаем яшчэ «ўдзел» акуркаў... у пажарах, у якіх кожны год гіне, прынамсі, 1800 амерыканцаў. У Канадзе, якая разам з Аўстрыяй, Новай Зеландыяй, Ірландыяй і Польшчай трымаюць першынство ў спажыванні тытуню, сярэдняя працягласць жыцця мужчын пачала змяншацца, з'ява выключная ў высокаразвітых краінах.

Не цяжка сабе ўявіць, як выглядаюць польскія статыстычныя лічбы, якіх я не цытую тут толькі таму, каб такім непасрэдным супастаўленнем не выклікаць істэрыі страху. Прашу зірнуць у статыстычны даведнік...

Гэта было занадта для майго сябра.

— Прабачце, сэр... — сказаў ён. — Я ж мастак, а не...

— Калі вы сапраўны мастак, тады хутчэй за работу! — перапыніў ён.

І яны ударылі па руках.

Так пачынаў сваю кар'еру ў Амерыцы еўрапейскі мастак. Зараз ён спецыялізуецца на партрэтах прэзідэнтаў універмагаў па продажы ланцугоў і нададрэз адмаўляецца маляваць менш як дзвесце копій. І паспяхова. За нацюрморт, напрыклад, ён бярэ пяцьсот долараў, а за масавы яго тыраж робіць скідку. На дваццаць працэнтаў.

## ЯК АЎТАМАТЫЗАВАЦЬ СВАЕ МАЗГІ

Амерыканцы не могуць жыць без аўтаматаў. Але вось што цікава: яны працуюць!

У Еўропе падыдзеш да аўтамата, апусціш манету, тузанеш за ручку, а ён — ні гуку. У Штатах вы можаце ісці ў заклад, што за свой цэнт вы атрымаеце шакаладку або жавальную гумку. Ёсць у Амерыцы афіцыянты-аўтаматы, паліцэйскія-аўтаматы. Ёсць і такія аўтаматы, якія за пяць цэнтаў прайграюць вашу любімую мелодыю хоць дваццаць разоў, прытым уся зала павінна будзе яе цярпліва слухаць, падабаецца ім яна ці не.

Цікава, як там пасылаюцца віншавальныя тэлеграмы да дня нараджэння. За долар можна паслаць «спяваючую тэлеграму», гэта значыць хлопчык, які разносіць тэлеграмы, праспявае імяніннiку вядомую песеньку «Са шчаслівым днём нараджэння», называючы віноўніка ўрачыстасці, скажам, вашу бабулю, па імені. За дзесяць долараў вас павіншуе цэлы хор з дзесяці хлопчыкаў-разносчыкаў, а за дваццаць пяць — хорам будзе дырыжыраваць сам міністр пошт.

Розныя навінкі аўтаматыкі вось-вось з'явяцца ў продажы:

1. Націсніце кнопку і вы закахаецеся.
2. Тузаніце за ручку і вы ўступіце ў шлюб.
3. Тузаніце за дроцік і вы развядзецеся.
4. Павярніце ручку і лічыце, што вы прынялі ванну.
5. Усе кнігі класікаў будуць забяспечаны кнопкамі. Хочаце — чытайце, не хочаце — націскайце на кнопку.

Аднак амерыканцы штодзень сустракаюцца з дзвюма сур'ёзнымі тэхнічнымі цяжкасцямі.

I. Самы нешчаслівы чалавек—тут вадзіцель аўтобуса. Вось якія абавязкі ўскладаюцца на яго: збіраць грошы, даваць рэшту, перакладаць грошы з аднаго карабка ў другі, адчыняць і зачыняць аўтаматычныя дзверы; сачыць за колькасцю пасажыраў у аўтобусе і за графікам руху; і, нарэшце, я ледзь не забыўся, што, дарэчы, нярэдка здараецца і з вадзіцелем — яму даводзіцца вадзіць аўтобус.

II. У Амерыцы трэба мець дзве рукі, каб апусціць пісьмо. Кожная паштовая скрынка забяспечана ручкай, якую трэба пацягнуць на сябе, а потым кінуць у шчыліну пісьмо, пасля чаго адпусціць ручку. Аднной рукой вы можаце весьці машыну, спыніць поезд або кіраваць самалётам, але наўрад ці ўдасца вам адправіць пісьмо без дапамогі другой рукі.

## МАНЕРЫ

Да трохгадовага ўзросту мамы ў Еўропе наразаюць для дзяцей мяса, даюць ім ў правую ручку відэлец і ўгаворваюць з'есці ўсё без астачы. Зусім гэтак жа паводзіць сябе за сталом дарослы, добра выхаваны амерыканец, камбінуючы звычкі маці і дзіцяці.

У амерыканцаў ёсць жалезнае правіла адносна напіткаў.

У час кожнага прыёму ежы вы абавязкова павінны выпіць вялікую колькасць вады, незалежна ад таго, што вы ўжо выпілі марціні, віно, піва або брэндзі. Кожны кавалак ежы абавязкова запіваюць вадой.

У сельскай школе дзяцей прывучаюць выпіваць за абедам, па крайняй меры, тры шклянкі вады; у коледжах гэту колькасць павялічваюць да пяці шклянак, у Прынстане, Іейлі і ў Гарвардзе дванаццаць шклянак лічыцца мінімумам. Калі вы выпіваеце за абедам менш як восем шклянак, вас палічаць недастаткова адукаваным чалавекам. Апрача гэтых правіл паводзін за сталом, амерыканскія манеры наогул свабодныя ад фармальнасцей.

У штатах усіх называюць па імені. Гэта вельмі дэмакратычная традыцыя. Вы можаце быць сэрам, і за вашым прозвішчам па англійскай традыцыі будуць стаяць скарачэнні, якія абазначаюць вашы шматлікія званні і тытулы. Але ў Амерыцы вам трэба пра іх забыць. Калі вас прадстаўляць, скарыцеся, вы ва ўладзе амерыканскіх традыцый. Вас прадстаўяць так: «Гэта Джон, а гэта — Жаннет...»

Калі б у Альберта Эйнштэйна бралі інтэрв'ю перад мікрафонам, то вядучы прадставіў бы яго так:

«Сёння ў нас у студыі знаходзіцца містэр Альберт Эйнштэйн, славуты вучоны, добры хлопец... Ну, прывітанне, Альберт! Вельмі рад цябе бачыць. Хачу задаць табе некалькі пытанняў. Па-першае, Альбі, як там наконт адноснасці? Не хвалюйся, валяй, Берці, не саромейся».

Свабода — рыса амерыканца. Калі вы ліфцёр і хочаце запытацца пра здароўе жонкі жыхара дома, то робіцца гэта так:

— Прывітанне, містэр! Як жыве ваша місіс?

Калі вы засмучаны або заклапочаны, дык чысцільшчык абутку паляпае вас па плячы і крыкне проста ў вуха:

— Глупства, пройдзе!

У час размовы трэба праяўляць чалавечую цікавасць да іншых. Пасля таго, як вы пазнаёміліся з кім-небудзь, пастарайцеся хутчэй даведацца аб яго прафесіі, колькі ён робіць грошай, колькі ў яго на кніжцы, ці здраджвае ён сваёй жонцы, імя, адрас, узрост і прафесію яго каханкі, і, нарэшце, ці ўдалося яму калі-небудзь абвесці вакол пальца агентаў па зборы падаходнага падатку. Калі ваш субяседнік задасць вам падобныя ж пытанні, адказвайце прама, а ваша шырокая ўсмешка выкліча ў яго прыхільнасць да далейшага высвятлення вашых фінансавых махінацый і палавога жыцця.

Не забывайце, што слухаць чалавека, які гаворыць ціхім голасам, сапраўдная мука, таму крычыце, гарланьце як мага гучней, прычым памятайце, што калі ваш субяседнік вельмі многа гаворыць, гэта шкодна для яго горла, таму не саромейцеся перапыняць яго калі вам удумаецца і не давайце яму гаварыць.

Усё трэба зацвярджаць катэгарычна і рашуча, адвяргаючы пярэчанні. Не карыстайцеся такімі выразамі: «Мне здаецца... Я б так не сказаў». Падобныя выразы вельмі няпэўныя і недастойныя мужчыны. Калі вы з кім-небудзь не згодны, прама рубіце: «Глупства, дрэнь!»

Ёсць другая амерыканская традыцыя, аб якой трэба памятаць. Амерыканцы вялікія аматары пісаць пісьмы. Калі вас запрасілі на вечар, раніцай вы абавязкова павінны напісаць пісьмо гаспадыні дома, у якім пажадана выказаць сваё захапленне праведзеным вечарам. Што б ні здарылася ў сям'і вашых знаёмых, павіншуйце ўсіх дамачадцаў. Павіншуйце іх на вялікдзень, каляды і сёмуху.

Паверце, у вас гэта не адбярэ многа часу; віншавальныя паштоўкі на ўсе выпадкі жыцця вы знойдзеце ў любым магазіне. У магазіне канцылярскіх прылад паблізу Уол-стрыта мне трапіліся на вочы паштоўкі з такім тэкстам: з прычыны хваробы, раптоўнай хваробы, дарожных здарэнняў, стацыянарнага лячэння ў шпіталі, патрыятычнай хваробы, дзіцячай хваробы, гумарыстычнай хваробы.

Мяне зацікавіла, што гэта за патрыятычная хвароба, і я быў вельмі здзіўлены, калі ўбачыў прыгожую паштоўку са словамі вясёлай амерыканскай песенькі «Янкі дудл дэндзі» з пажаданнямі хутчэйшага выздараўлення. На жаль, я згубіў свае запісы з прычынай гумарыстычнай хваробы, але, наколькі мне помніцца, гэта від недамагання, на апошняй стадыі якога хворы раптам гумарыстычна ўскідвае ногі і аддае канцы. Ёсць яшчэ такія паштоўкі: сястры і мужу, сыну і жонцы, брату і жонцы, брату і дзядзьку, дачцы і мужу, паштоўкі для блізнят, для двух хлопчыкаў-блізнят, дзвюх дзяўчынак-блізнятак, для блізнят хлопчыка і дзяўчынкі. Нарэшце, былі паштоўкі «на развітанне» з маленькімі кішэнькамі для грошай, прызначаных для таго, каб змякчыць гора таго, з кім развітваешся.

Калі я праходжваўся па магазіне, гаспадар падышоў да мяне і запытаўся:

— Ты што, не можаш знайсці тое, што табе трэба?

— Не, — адказаў я. — Мне патрэбны паштоўкі, каб павіншаваць прадзеда з выпадку нараджэння трайнят-дальтонікаў.

— Вось, бяры, — сказаў ён і, падаўшы мне тры паштоўкі з пачка, запытаўся:

— А на якой мове: англійскай, італьянскай або на мове ідзіш?..

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

Калі я рыхтаваў гэты артыкул і вывучаў патрэбныя матэрыялы, у мяне валасы дыбарам уставалі. Я лічыў сябе чалавекам добра дасведчаным, а выявілася, што ведаю толькі каліва праўды.

Перш за ўсё я не знаў нічога пра вялікі прагрэс у даследаванні кампанентаў тытуню і вынікаў яго курэння. Колькасць выяўленых кампанентаў патроілася з 400 да 1200 (часткова, зазначым, у сувязі з новымі дадаткамі да змесціва папяросы). І лічба гэтая расце. Што да ўплыву на фізіялогію чалавека, то ранейшыя падазрэнні абярнуліся ва ўпэўненасць, больш таго—выявіліся эфекты, якіх раней і не падазравалі...

Мы не маем дачынення да ніякага забойцы. Перад намі цэлы арсенал забойчых сродкаў. Вугляводы парафінавыя і ненасычаныя, бензін, талуэн, ксілон, фенолы, радыёактыўны ізатоп калія 40, праменетворны вуглярод $C_{14}$—усё гэта з тытунёвай сажай адкладваецца ў лёгкіх. Трусы і малпы заплацілі новаўтварэннямі ў лёгкіх за магчымасць эксперыментальна даказаць людзям, які яны сабе рыхтуюць лёс. А тытунёвы дым разам з прамысловымі выкідамі ў паветра з'яўляюцца ракаўтваральнымі фактарамі велізарнай сілы.

Сам нікацін не мае нічога агульнага з ракам. Нікацін «атручвае» нас інакш. У яго ёсць і «саюзнікі»: вокіс вугляроду і двувокіс азоту. Разам яны дабіраюцца да ўсёй сістэмы кровазвароту. Яны атручваюць спакваля. Як труцяць? Пры выкурванні адной папяросы курыльшчык удыхае ад 5 да 10 міліграмаў нікаціну; кропля ў 50 міліграмаў — смяротная доза, і здараліся смяротныя выпадкі пасля выкурвання 20 папярос нават у людзей, арганізм якіх ужо здолеў прыстасавацца. Нікацін — адна з самых моцных атрут, а прыстасаванне арганізму чалавека да вялікіх дозаў зусім не азначае яго бясшкоднасці. Вокіс вугляроду? Ён спалучаецца з гемаглабінам хутчэй і больш трывала, чым кісларод. Удыханне на працягу гадзіны паветра з дадаткам 0,012% CO пазбаўляе актыўнасці 5% гемаглабіну. Няхай курыльшчыкі праверадь, колькі CO яны ўводзяць у свой арганізм... Канцэнтрацыя двувокісу азоту на вуліцах Лос-Анжэласа лічыцца трывожнай ужо пры ўзроўні 0,0003%. У тытунёвым дыме яго ў 80—85 разоў больш!

Гэта толькі фрагмент з карціны ўсёй небяспекі. Калі б вы бачылі «чорныя лёгкія» курыльшчыкаў, разбураныя сценкі артэрый, вы яшчэ лепш зразумелі б сэнс статыстычных звестак.

Часцей за ўсё прыводзіцца статыстычная залежнасць паміж курэннем і магчымасцю захворвання ракам лёгкіх: для асоб, якія выкурваюць 40 папяросаў у дзень, магчымасць гэтая ў дваццаць разоў большая, чым у тых, хто не курыць.

Ва ўзросце пасля 50 гадоў інфаркт здараецца сярод курыльшчыкаў у 12 разоў часцей, чым сярод тых, хто не курыць. Курыльшчыкі ў шэсць разоў часцей хварэюць бранхітам, у 2—3 разы часцей язвай страўніка. Пакуль курэнне было рэдкасцю сярод жанчын, страшная хвароба Бюргера была хваробай выключна мужчынскай. Асобы, якія пачалі курыць да канца перыяду росту, у сярэднім на 7 см ніжэйшыя за некурыльшчыкаў таго ж самага ўзросту, полу і ладу жыцця.

У курыльшчыкаў, асабліва жанчын, раней, часта заўчасна, праяўляюцца прызнакі старэння. Выкурванне да 10 папяросаў у суткі скарачае жыццё на 5 гадоў. Кожныя дадатковыя дзесяць папяросаў азначаюць прыкладна яшчэ адзін год. Прыкладна.

Але найбольш пакрыўджаныя так званыя «прымусовыя» курыльшчыкі, тыя, якіх атручваюць іншыя. Трэба шчыра сказаць, што ўрач, які, напрыклад, пагаджаецца з курэннем цяжарнай кабеты, спасылаючыся на тое, што на пазнейшым этапе цяжарнасці «небяспека памяншаецца», заслужыць сабе рэпутацыю недавука. Недахоп вітаміну С, абумоўлены курэннем, нельга кампенсаваць ніякімі таблеткамі. Уплыў курэння на крываносную сістэму плода—неабарачальны.

Злачынства — курыць у памяшканні, дзе ёсць дзеці, асабліва грудныя. У зачыненым памяшканні — завучым гэта на памяць! —выкурванне некалькіх папярос азначае, што чалавек, які не курыць, удыхае амаль столькі ж шкодных рэчываў, як і сам курыльшчык! Шмат некурыльшчыкаў з ракам лёгкіх — гэта якраз «прымусовыя курыльшчыкі», у гэтым сэнсе курыльшчыкі «добраахвотныя» аказваюцца міжвольнымі труцілямі іншых людзей.

Асабліва варта ўвагі тое, што курыльшчыкі не заўсёды сустракаюцца з рэальнай пагрозай жыццю. Адзін вядомы сталічны хірург прыводзіць прыклады, калі гашпіталізаваным пацыентам пагражала ампутацыя ног (у выніку звужэння крываносных сасудаў), а яны крадком курылі — пад коўдрай і ў туалеце: людзі ўсё яшчэ проста не ўсведамляюць механізму самаатручвання, прызвычаеныя да страсных абвінавачванняў алкагалізму і адначасова да паблажлівых адносін да курыва...

Катастрафічныя статыстычныя звесткі пра захворванні дыхальных шляхоў і сістэмы кровазвароту вымушаюць біць трывогу. Пара прымаць самыя радыкальныя меры.

Па-першае, папяросы ў Польшчы вельмі танныя. Закаранелыя курыльшчыкі не без поспеху пабіваюць аргументы праціўнікаў курэння словамі: «За такія грошы не прыдбаю іншай прыемнасці. І я павінен ад гэтага адрачыся?»

Што да мяне, то я за павышэнне цэн на папяросы, больш таго — мы самі павінны захацець гэтага. Бар'ер вялікіх выдаткаў, несумненна, паўплывае на рашэнне «выпадковых» курыльшчыкаў, а таксама зменшыць спажыванне сярод пастаянных. Толькі падваенне цэн магло б знізіць спажыванне тытуню прынамсі да ўзроўню сярэдне-сусветнага.

Па-другое, трэба абавязкова друкаваць на папяросных каробках надпісы, якія б не толькі канстатавалі шкоднасць курэння, але і інфармавалі б пра спосаб і памеры ўздзеяння шкодных рэчываў тытунёвага дыму. Хай будзе, як на рэцэпце: «Рэчывы ракаўтваральныя — столькі і столькі працэнтаў, бензапірыну—столькі і столькі, вугляроду $C_{14}$... і г. д.» Прапаную, каб у гэтай справе як найхутчэй былі прыняты адпаведныя заканадаўчыя меры.

Па-трэцяе, давайце папросім тэлебачанне забараніць паказваць на экране асоб, якія кураць (за выключэннем кінафільмаў і тэатральных пастановак).

Па-чацвёртае, увядзём — кожная ўстанова па сваёй ініцыятыве — забарону курэння ў памяшканнях, у якіх працуюць разам і курыльшчыкі і некурыльшчыкі. Забаронім курыць у купэ вагонаў у цягніках.

Няма чаго баяцца: абмежаванне спажывання тытуню не будзе катастрофай для нашага дзяржаўнага бюджэту. Хваробы органаў крываноснай сістэмы, органаў дыхання (без грыпу і туберкулёзу), а таксама язвенныя хваробы страўніка і дванаццаціперстнай кішкі, г. зн. хваробы ці то выкліканыя, ці толькі звязаныя з курэннем, былі прычынай 23,9 працэнта прагулаў па хваробе ў 1968 годзе, даўшы ў суме 25,2 млн. дзён непрацаздольнасці ў гаспадарцы краіны. Калі яшчэ дадам, што на кошт бальнічнага лячэння ў тым годзе мы выдаткавалі 7,3 мільярда злотых, на амбулаторнае — 4,5 мільярда, на лекі — 5,2 мільярда, калі паспрабуем хоць прыблізна акрэсліць, колькі ўдалося б сэканоміць на антынікацінавай прафілактыцы, дык лёгка падлічым, якой сумніцельнай крыніцай даходу для народнай гаспадаркі з'яўляюцца 14 мільярдаў злотых ад продажу тытуню. Колькі страт ад пажараў у 1968 годзе (на агульную суму 891 млн., без лясоў) трэба аднесці на тыя 40 працэнтаў пажараў ад «неасцярожнасці» (чытай —«ад акуркаў»), якія вядомы супрацьпажарнай службе і Міністэрству фінансаў. 46,3 тыс. га найлепшых зямель выкарыстоўваюць нашы сяляне пад тытунь (1968 г.). Тытунь забірае ў вёсцы працоўны час паўмільёна чалавек. З тых самых палёў, што займае тытунь, можна было б сабраць чвэрць мільёна тон пшаніцы.

Словам, нашы забойцы — зусім не залаты фонд нашай гаспадаркі, калі яшчэ ўлічыць, што валютны імпарт тытуню большы за валютны экспарт гатовых вырабаў... Прапаную радыкальна затармазіць гэтую карусель абсурду, якая стольківх з нас вядзе проста — хоць і павольна — на той свет за нашыя ж грошы.

Ежы ШПАРКОВІЧ.

(«Жыцце Варшавы»).

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

## МЫ І ПРЫРОДА...

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.












Чаромукін

## ЯК ТУТ НЕ ЎЗДЫХАЦЬ!

ПРА ТОЕ, што са мною здарылася, не будзеш трубіць на ўсіх скрыжаваннях. І ўсё ж я расказаў пра гэта на прафкоме. Дык, небаракі, замест таго, каб засядаць, тры дні бесперапынку плакалі. Калі ж я падзяліўся сваім горам з начальнікам па службе, той проста ў вочы мне сказаў, што я варты ўзнагароды. Такі гераізм, такая самаахвярнасць... Цяпер, сказаў мне начальнік, цябе не зломяць ніякія буры і катаклізмы, тваёй мужнасці і вытрымцы можна пазайздросціць. Калі ж я пра гэты выпадак сказаў аднаму маладому паэту, той узяў усё так блізка да сэрца, што ледзь не кокнуў сам сябе.

От такі мой выпадак. Як сказаў адзін мой сябар, — вельмі складаны і вельмі заблытаны.

Я усё разумею. Але хіба будзеш жыць спакойна, калі людзі так думаюць пра цябе? І пайшоў я стукацца ў казённыя дзверы: прасіцца, дабівацца, на калені падаць, — каб хоць крыху спрасцілі гэты складаны і заблытаны выпадак. Бо і я хачу, як сказаў паэт, радавацца сонцу, якім гэтак шчыра ўсіх надзяліла матухна-прырода.

Які б ні быў цяжкі выпадак, усё ж ёсць недзе чалавек, які можа даць яму рады. На гэтым я стаяў і стаю. Праўда, у тым жа прафкоме толькі румзалі, ды так нічога і не зрабілі. Як сказаў старшыня, выпадак не зусім у іх кампетэнцыі.

Аднак усё магло б павярнуцца іначай, каб заняўся справай таварыш Гугуланаў. Я спачатку і не хацеў ісці да яго, але ўсе, каму я расказваў пра маё складанае становішча, горача раілі:

— Табе можа памагчы толькі сам таварыш Гугуланаў!

А той якраз і не звярнуў на мяне ніякай увагі. Толькі па плячах і можна было пазнаць, ці падзейнічаў на яго мой расказ. Таварыш Гугуланаў датуль паціскаў плячыма, пакуль я ўрэшце-рэшт не ўцяміў, што час падавацца прэч.

Але хіба мяне гэта збянтэжыць? Знаёмыя накіравалі мяне да таварыша Думанава. Але той абсек мяне самым бесцырымонным чынам. Сказаў, што гэта чыста асабістая справа, а ён заўсёды аддаваў перавагу грамадскаму перад асабістым, і мне параіў рабіць толькі так.

Я разумею, грамадзяне: усё, што здарылася са мною, надта ж асабістае. Настолькі, што ад гэтага залежыць маё далейшае паўнакроўнае жыццё. Але ж па гэтай самай прычыне мне і здаецца, што выпадак мае і грамадскае значэнне. Бо не дарэмна ж адзін малады паэт захацеў праз гэта пакончыць жыццё самагубствам.

І ўсё ж маёй вынослівасці зайздросцяць не дарэмна. Я ўсё яшчэ не згарнуў свае сцягі, а хаджу па парадку да тых адказных таварышаў, якія маглі б рашыць маю справу. Дык першы мяне ўпарта не прымае, другі і слухаць не хоча. А трэці заяўляе, што ад яго нічога не залежыць. І катэгарычна адмовіўся вырашаць маё пытанне.

Тады я намерыўся час-ад-часу расказваць пра сябе людзям. Усё-такі лягчэй будзе на душы і можа яшчэ трохі пажыву на гэтым свеце. І не перастаю пакутліва думаць: чаму мне спачуваюць толькі тыя, ад каго нічога не залежыць, а тыя, каму трэба прымаць меры, нават пальцам не паварушылі, нават брывом не пасмыкнулі?

Так я і жыў бы, каб адзін прыяцель не сказаў мне: «Дарэмна — не хадзі і не стукайся ў чужыя дзверы. Лепшае, што яны могуць, гэта накіраваць да таварыша Ўладыкава!».

Тады я сам пайшоў да таварыша Ўладыкава.

Прыняў адразу, я і хвілінкі не чакаў. Нават нейкае пасяджэнне перапыніў: як жа інакш, калі грамадзянін яго чакае, а грамадзян не трэба прымушаць хадзіць па некалькі разоў. Хоць ніякі добры дзядзька за мяне і слоўца не замовіў, таварыш Уладыкаў выслухаў мяне ўважліва. Я сказаў бы — вельмі нават уважліва. А недзе якраз пасярэдзіне расказа ўздыхнуў. Ага. Глыбока так уздыхнуў. Спачувальна. Чулліва. Гэта так на мяне падзейнічала, што і мову адняло. Калі я ачуняў і расказаў астатняе, таварыш Уладыкаў зноў уздыхнуў, і мы дамовіліся, калі прыйсці па вынік. У той дзень ён зноў уздыхаў і прызначыў прыём на новы дзень.

Усё разбіраліся. І хоць ён не мог даць рады, я яму бясконца ўдзячны. Ён жа ўздыхаў для мяне!

Пераклаў з балгарскай П. МІСЬКО.

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

## ЖЫЎ НА СВЕЦЕ НЕБАРАК

Жыў на свеце небарак,
Ліў у горла, як у гляк.
Ён ад піва
Тупаў крыва,
Ад настойкі
Быў нястойкім,
Ад гарэлкі, нібы рак,
Поўзаў ракам небарак.
Калі б грошай было з воз,
Свет увесь бы ён абпоўз,
Але грошай меў ён мала,
На гарэлку неставала,
Ён прасіў, маліў, бывала,
Быў настырным пазычалам.

Тым дабра і шчасця зычыў,
У каго рубля пазычыў,
Сам жа шчасця ён не меў,
Гэта кожны разумеў.
Не у сад, і не ў бярэзнік —
Пападаў у выцвярэзнік.
Праклінаў ён безупынку
Сваю горкую сцяжынку,
Але ж ёю поўз і поўз,
Палюбіў свінячы лёс...
Можна баяць да цямна,
Як згарэў ён ад віна.
Жыў на свеце небарак,
Потым трэснуў, як той гляк.

## КАЛАМБУРЫ

Язэп ТАЧЫЛА

**НЕШЧАСЛІВЫ МЯДЗВЕДЗЬ**

Пытае ў бяроз, у ліп,
Чаму ў бяду, не ў мёд, уліп.

**МАДЭРН**

Калі накруцяць разьбяры,
То паспрабуй там, разбяры.

**ВЯСНОЙ**

Ну што ж, і мне прыйшоў капец! —
Прамовіў бульбіне капец.

**ПЕРАВАГА**

Пяро маленькае, а лоўка
Заўжды пацвельвала з алоўка.

**ПАРАДА ПАЧЫНАЮЧАМУ РЫБАЛОВУ**

У сетку трапяць акуні —
Ты у раку іх акуні.
А затрапечуцца ліні —
Тады вады на іх ліні.

**ПАДНАЧАЛЕНЫ**

Ён знаў: яго святая справа
Прысесці злева, а не справа.

Павел ШЫБУТ

Ён не першы і не пяты
Свайму шэфу ліжа пяты.

□

Пашчыраваць штодня ля нівы
Не любіць нізашто лянівы.

Іван ПЯШКО

## УДВУХ

*По начной вуліцы ішлі двое. Насустрач патрапіўся вярзіла. Месца было глухое, нялюднае. У вярзілы засвярбелі рукі. Адлупцаваў аднаго, добра даў і другому.*

*Аглядаючыся, тыя пусціліся наўцёкі.*

*— Ну і даў,—нарэшце прамовіў адзін з іх.*

*— Ага, даў. Але добра, што нас было двое.*

*— Чаму?—не зразумеў першы.*

*— Ну... Мяне біў, ты адпачываў. За цябе ўзяўся—я адпачываў.*

## ВАКОЛ ВЯЛІКІХ ЛЮДЗЕЙ

Аднойчы Глюк ненаўмысна разбіў вітрыну невялічкага магазіна. Ён спытаў у гаспадара, колькі каштуе шкло. Аказалася паўтара франка. Глюк дастаў манету ў тры франкі і падаў лавачніку. Але ў таго не было рэшты, і ён хацеў пабегчы разменяць.

— Шкада часу, — запярэчыў кампазітар, — вазьміце ўсё, а я разаб'ю яшчэ адно.

□

Паміраў вядомы мастак Лантар. Свяшчэннік гаварыў яму пра цуды вечнага жыцця:

— Сын мой, ты будзеш увесь час глядзець у вочы богу!

— Як! Увесь час у фас і ніколі ў профіль!.. — прастагнаў мастак.

□

Аднойчы пасля паказу вельмі дрэннай п'есы Аляксандр Дзюма сказаў яе аўтару, што бачыў чалавека, які заснуў у першай дзеі.

На другі дзень ішла п'еса Дзюма. «Пакрыўджаны» аўтар вырашыў адпомсціць славутаму пісьменніку:

— Вы ведаеце, я таксама бачыў чалавека, які спаў,— схлусіў ён.

— Дарагі мой, — адказаў Дзюма, — я таксама яго заўважыў. Гэта той самы, што заснуў учора. Ён яшчэ не прачнуўся.

□

Аднойчы на свецкім раўце нехта здзівіўся вялізнаму багаццю князя Талейрана.

— Што тут дзіўнага, — адказалі яму. — Князь зрабіў абарот — прадаў усіх, хто яго купіў.

□

Аднойчы за кулісамі расказвалі анекдоты, як акцёры блытаюць тэкст. Васіль Панцеляймонавіч Далматаў вельмі смяяўся, але не верыў, што акцёр можа настолькі разгубіцца, што не здолее правільна сказаць свае словы.

Ён выйшаў на сцэну і раптам замест: «Падай пяро і чарніла» — сказаў:

— Падай, пярна і чарна... Цьфу, чорт!.. Чарніла і пярніла!

Зусім збянтэжыўшыся і разгубіўшыся, ён паўтарыў:

— Чарно і пярно!.. Пярно і чарно!..

А потым, збялеўшы, ціхім голасам папрасіў:

— Ну, дай жа мне, чым пішуць...

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

[redacted] Індэкс 63856. АТ 21713

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.